ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 14 № 14

МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1935



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 14
Лістапад 1935 г.



ЗМЕСТ





Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20 000, даб. 68.

# Прамова таварыша Сталіна
## на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў

### I

### Значэнне стаханаўскага руху

Таварышы! Аб стаханаўцах тут, на гэтай нарадзе, так многа і так добра гаварылі, што мне, уласна, мала што астаецца сказаць. Усё-ж, раз мяне выклікалі на трыбуну, прыдзецца сказаць некалькі слоў.

Стаханаўскі рух нельга разглядаць, як звычайны рух рабочых і работніц. Стаханаўскі рух гэта такі рух рабочых і работніц, які ўвойдзе ў гісторыю нашага соцыялістычнага будаўніцтва, як адна з самых слаўных яе старонак.

У чым заключаецца значэнне стаханаўскага руху?

Перш за ўсё ў тым, што ён выражае новы ўздым соцыялістычнага спаборніцтва, новы вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва. Чаму новы, чаму вышэйшы? Таму, што ён, стаханаўскі рух, выгодна адрозніваецца, як выражэнне соцыялістычнага спаборніцтва, ад старога этапа соцыялістычнага спаборніцтва. У мінулым, гадоў тры таму назад, у перыяд першага этапа соцыялістычнага спаборніцтва, соцыялістычнае спаборніцтва не абавязкова было звязана з новай тэхнікай. Ды тады ў нас, уласна, і не было амаль новай тэхнікі. Цяперашні-ж этап соцыялістычнага спаборніцтва — стаханаўскі рух, наадварот,—абавязкова звязаны з новай тэхнікай. Стаханаўскі рух быў-бы нямыслімы без новай, вышэйшай тэхнікі. Перад вамі людзі, накшталт тт. Стаханава, Бусыгіна, Сметаніна, Крываноса, Проніна, Вінаградавых і многіх іншых, людзі новыя, рабочыя і работніцы, якія поўнасцю аўладалі тэхнікай сваёй справы, асядлалі яе і пагналі наперад. Такіх людзей у нас не было, або амаль не было гадоў тры таму назад. Гэта—людзі новыя, асаблівыя.

Далей. Стаханаўскі рух гэта такі рух рабочых і работніц, які ставіць сваёй мэтай перамаганне цяперашніх тэхнічных норм, перамаганне існуючых праектных магутнасцей, перамаганне існуючых вытворчых планаў і балансаў. Перамаганне—таму што яны, гэтыя самыя нормы, сталі ўжо старымі для нашых дзён, для нашых новых людзей. Гэты рух ламае старыя погляды на тэхніку, ламае старыя тэхнічныя нормы, старыя праектныя магутнасці, старыя вытворчыя планы і патрабуе стварэння новых, больш высокіх тэхнічных норм, праектных магутнасцей, вытворчых планаў. Ён закліканы зрабіць у нашай прамысловасці рэволюцыю. Іменна таму ён, стаханаўскі рух, з'яўляецца ў аснове сваёй глыбока рэволюцыйным.

Тут гаварылі ўжо, што стаханаўскі рух, як выражэнне новых, больш высокіх тэхнічных норм, прадстаўляе сабою ўзор той высокай прадукцыйнасці працы, якую можа даць толькі соцыялізм і чаго не можа даць капіталізм. Гэта зусім правільна.

Чаму капіталізм разбіў і перамог феадалізм? Таму, што ён стварыў больш высокія нормы прадукцыйнасці працы, ён даў магчымасць грамадству атрымліваць непараўнана больш прадуктаў, чым гэта мела месца пры феадальных парадках. Таму, што ён зрабіў грамадства больш багатым. Чаму можа, павінен і абавязкова пераможа соцыялізм капіталістычную сістэму гаспадаркі? Таму, што ён можа даць больш высокія ўзоры працы, больш высокую прадукцыйнасць працы, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі. Таму, што ён можа даць грамадству больш прадуктаў і можа зрабіць грамадства больш багатым, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі.

Некаторыя думаюць, што соцыялізм можна ўмацаваць шляхам некаторага матар'яльнага параўнання людзей на базе бядняцкага жыцця. Гэта не верна. Гэта дробна-буржуазнае ўяўленне аб соцыялізме. На самай справе соцыялізм можа перамагчы толькі на базе высокай прадукцыйнасці працы, больш высокай, чым пры капіталізме, на базе багацця прадуктаў і ўсякага роду прадметаў спажывання, на базе заможнага і культурнага жыцця ўсіх членаў грамадства. Але для таго, каб соцыялізм мог дабіцца гэтай сваёй мэты і зрабіць наша савецкае грамадства найбольш заможным,— неабходна мець у краіне такую прадукцыйнасць працы, якая перакрывае прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін. Без тэтага няма чаго і думаць аб багацці прадуктаў і ўсякага роду прадметаў спажывання. Значэнне стаханаўскага руху заключаецца ў тым, што ён з'яўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну.

Але гэтым не вычэрпваецца значэнне стаханаўскага руху. Яго значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма да комунізма.

Прынцып соцыялізма заключаецца ў тым, што ў соцыялістычным грамадстве кожны працуе па сваіх здольнасцях і атрымлівае прадметы спажывання не па сваіх патрэбнасцях, а па той рабоце, якую ён зрабіў для грамадства. Гэта значыць, што культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа ўсё яшчэ невысокі, процілегласць паміж працай разумовай і працай фізічнай прадаўжае існаваць, прадукцыйнасць працы яшчэ не так высока, каб забяспечыць багацце прадметаў спажывання, з прычыны чаго грамадства вымушана размяркоўваць прадметы спажывання не адпаведна патрэбнасцям членаў грамадства, а адпаведна рабоце, зробленай імі для грамадства.

Комунізм прадстаўляе больш высокую ступень развіцця. Прынцып комунізма заключаецца ў тым, што ў комуністычным грамадстве кожны працуе па сваіх здольнасцях і атрымлівае прадметы спажывання не па той рабоце, якую ён зрабіў, а па тых патрэбнасцях культурна-развітага чалавека, якія ў яго ёсць. Гэта значыць, што культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа стаў дастаткова высокі для таго, каб падарваць асновы процілегласці паміж працай

разумовай і працай фізічнай, процілегласць паміж працай разумовай і працай фізічнай ужо знікла, а прадукцыйнасць працы паднялася на такую высокую ступень, што можа забяспечыць поўнае багацце прадметаў спажывання, з прычыны чаго грамадства мае магчымасць размяркоўваць гэтыя прадметы адпаведна патрэбнасцям яго членаў.

Некаторыя думаюць, што знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай можна дабіцца шляхам некаторага культурна-тэхнічнага параўнання работнікаў разумовай і фізічнай працы на базе зніжэння культурна-тэхнічнага ўзроўню інжынераў і тэхнікаў, работнікаў разумовай працы, да ўзроўню сярэднекваліфікаваных рабочых. Гэта зусім няверна. Так могуць думаць аб комунізме толькі дробна-буржуазныя балбатуны. На самай справе знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай можна дабіцца толькі на базе ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы. Было-б смешна думаць, што такі ўздым неажыццявімы. Ён цалкам ажыццявімы ва ўмовах совецкага ладу, дзе прадукцыйныя сілы краіны вызвалены ад акоў капіталізма, дзе праца вызвалена ад гнёту эксплаатацыі, дзе ва ўладзе стаіць рабочы клас і дзе маладое пакаленне рабочага класа мае ўсе магчымасці забяспечыць сабе дастатковую тэхнічную асвету. Няма ніякіх падстаў сумнявацца ў тым, што толькі такі культурна-тэхнічны ўздым рабочага класа можа падарваць асновы процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай, што толькі ён можа забяспечыць тую высокую прадукцыйнасць працы і тое багацце прадметаў спажывання, якія неабходны для таго, каб пачаць пераход ад соцыялізма да комунізма.

Стаханаўскі рух знамянальны ў гэтай сувязі ў тых адносінах, што ён змяшчае ў сабе першыя пачаткі, праўда, яшчэ слабыя, але ўсё-ж пачаткі такога іменна культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа нашай краіны.

На самай справе, прыгледзьцеся да таварышоў стаханаўцаў. Што гэта за людзі? Гэта, галоўным чынам,—маладыя або сярэдніх гадоў рабочыя і работніцы, людзі культурныя і тэхнічна падкаваныя, якія даюць узоры дакладнасці і акуратнасці ў рабоце, якія ўмеюць цаніць фактар часу ў рабоце і якія навучыліся лічыць час не толькі мінутамі, але і секундамі. Большасць з іх прайшла так званы тэхнічны мінімум і прадаўжае папаўняць сваю тэхнічную асвету. Яны свабодны ад кансерватызма і застойнасці некаторых інжынераў, тэхнікаў і гаспадарнікаў; яны ідуць смела наперад, ламаючы ўстарэлыя тэхнічныя нормы і ствараючы новыя, больш высокія; яны ўносяць папраўкі ў праектныя магутнасці і гаспадарчыя планы, складзеныя кіраўнікамі нашай прамысловасці; яны то і справа дапаўняюць і папраўляюць інжынераў і тэхнікаў; яны нярэдка вучаць і штурхаюць іх наперад, бо гэта—людзі, якія поўнасцю аўладалі тэхнікай сваёй справы і якія ўмеюць выжымаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выжаць. Сёння стаханаўцаў яшчэ мала, але хто можа сумнявацца, што заўтра іх будзе ў дзесяць раз больш? Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы,

якія неабходны для пераходу ад социялізма да комунізма і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?

Такаво, таварышы, значэнне стаханаўскага руху ў справе нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Ці думалі аб гэтым вялікім значэнні стаханаўскага руху Стаханаў і Бусыгін, калі яны прыступалі да ломкі старых тэхнічных норм? Зразумела, не. У іх былі свае клопаты,—яны імкнуліся да таго, каб вывесці прадпрыемства з прарыву і перавыканаць гаспадарчы план. Але дабіваючыся гэтай мэты, ім прышлося разбіць старыя тэхнічныя нормы і развіць высокую прадукцыйнасць працы, перакрыўшую перадавыя капіталістычныя краіны. Было-б аднак смешна думаць, што гэта акалічнасць можа хоць колькі-небудзь умаліць вялікае гістарычнае значэнне руху стаханаўцаў.

Тое-ж самае можна сказаць аб тых рабочых, якія ўпершыню арганізавалі ў нашай краіне советы рабочых дэпутатаў у 1905 годзе. Яны, вядома, не думалі, што советы рабочых дэпутатаў паслужаць асновай соцыялістычнага ладу. Яны толькі абараняліся ад царызма, ад буржуазіі, ствараючы советы рабочых дэпутатаў. Але гэта акалічнасць нікольні не супярэчыць таму бясспрэчнаму факту, што рух за советы рабочых дэпутатаў, зачаты ў 1905 годзе ленінградскімі і маскоўскімі рабочымі, прывёў у канчатковым выніку да разгрому капіталізма і перамогі соцыялізма ў адной шостай часткі свету.

## II

## Карэнні стаханаўскага руху

Мы прысутнічаем зараз ля калыбелі стаханаўскага руху, каля яго вытокаў.

Трэба было-б адзначыць некаторыя характэрныя рысы стаханаўскага руху.

Кідаецца ў вочы перш за ўсё той факт, што ён, гэты рух, пачаўся неяк самаадвольна, амаль стыхійна, знізу, без якога-б там ні было націску з боку адміністрацыі нашых прадпрыемстваў. Больш таго. Гэты рух зарадзіўся і стаў разгортвацца ў пэўнай меры наперакор волі адміністрацыі нашых прадпрыемстваў, нават у барацьбе з ёю. Тав. Молатаў ужо расказваў вам аб тым, якія мукі прышлося перажыць тав. Мусінскаму, лесапільшчыку ў Архангельску, калі ён тайком ад гаспадарчай арганізацыі, тайком ад кантралёраў выпрацоўваў новыя, больш высокія тэхнічныя нормы. Лёс самога Стаханава быў не лепшым, бо яму прыходзілася абараняцца пры сваім руху наперад не толькі ад некаторых чыноў адміністрацыі, але і ад некаторых рабочых, высмейваўшых і травіўшых яго за «ноўшаствы». Што датычыць Бусыгіна, то вядома, што ён за свае «ноўшаствы» ледзь было не паплаціўся стратай работы на заводзе, і толькі ўмяшанне начальніка цэха т. Сакалінскага дапамагло яму застацца на заводзе.

Як бачыце, калі і мела месца якое-небудзь уздзеянне з боку адміністрацыі нашых прадпрыемстваў, то яно ішло не насустрач стаханаўскаму руху, а наперакор яму. Стала быць, стаханаўскі рух зарадзіўся і разгарнуўся як рух, які ідзе знізу. І іменна таму, што ён зарадзіўся самаадвольна, іменна таму, што ён ідзе знізу, ён з'яўляецца найбольш жыццёвым і непераможным рухам сучаснасці.

Трэба, далей, спыніцца яшчэ на адной характэрнай рысе стаханаўскага руху. Заключаецца яна, гэта характэрная рыса, у тым, што стаханаўскі рух разнёсся па ўсяму твару нашага Саюза не паступова, а з нейкай нябачанай хуткасцю, як ураган. З чаго пачалася справа? Стаханаў падняў тэхнічную норму здабычы вугалю ў пяць раз ці ў шэсць раз, калі не больш. Бусыгін і Сметанін зрабілі тое-ж самае, адзін—у галіне машынабудаўніцтва, другі—у галіне абутковай прамысловасці. Газеты паведамілі аб гэтых фактах. І раптам—полымя стаханаўскага руху ахапіла ўсю краіну. У чым тут справа? Адкуль узялася такая быстрыня ў справе распаўсюджання стаханаўскага руху? Можа быць Стаханаў і Бусыгін з'яўляюцца вялікімі арганізатарамі з вялікімі сувязямі ў абласцях і раёнах СССР, і яны самі арганізавалі гэту справу? Не, зразумела, не! Можа быць Стаханаў і Бусыгін маюць прэтэнзію быць вялікімі фігурамі нашай краіны і яны самі разнеслі іскры стаханаўскага руху па ўсёй краіне? Гэта таксама няверна. Вы бачылі тут Стаханава і Бусыгіна. Яны выступалі на нарадзе. Гэта—людзі простыя і скромныя, без якіх-бы там ні было прэтэнзій на тое, каб набыць лаўры фігур усесаюзнага маштаба. Мне нават здаецца, што яны некалькі смушчаны тым размахам руху, які разгарнуўся ў нас наперакор іх чаканням. І калі, не гледзячы на гэта, запалкі, кінутай Стаханавым і Бусыгіным, аказалася дастаткова для таго, каб уся гэта справа разгарнулася ў полымя,—то гэта значыць, што стаханаўскі рух з'яўляецца справай у поўнай меры наспеўшай. Толькі рух, які ў поўнай меры наспеў і чакае штуршка для таго, каб вырвацца на волю,—толькі такі рух мог распаўсюдзіцца так хутка і нарастаць, як снежны ком.

Чым вытлумачыць, што стаханаўскі рух аказаўся справай у поўнай меры наспеўшай? Дзе прычыны таго, што ён атрымаў такое хуткае распаўсюджванне? Якавы карэнні стаханаўскага руху?

Іх, гэтых прычын, прынамсі чатыры.

1. Асновай стаханаўскага руху паслужыла перш за ўсё карэннае палепшанне матар'яльнага становішча рабочых. Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца. Адсюль высокія нормы выпрацоўкі. Адсюль героі і гераіні працы. У гэтым перш за ўсё корань стаханаўскага руху. Калі-б у нас быў крызіс, калі-б у нас было беспрацоўе—біч рабочага класа, калі-б у нас жылося кепска, непрыглядна, нявесела, то ніякага стаханаўскага руху не было-б у нас **(апладысменты).** Наша пралетарская рэвалюцыя з'яўляецца адзінай у свеце рэвалюцыяй, якой давялося паказаць народу не толькі свае палітычныя рэзультаты, але і рэзультаты матар'яльныя. З усіх рабочых рэвалюцый мы ведаем толькі адну, якая сяк-так дабілася ўлады. Гэта—Парыжская Комуна. Але яна існавала не доўга. Яна, праўда, папрабавала разбіць аковы капіталізма, але яна не паспела іх разбіць, і тым больш не паспела паказаць народу добрыя матар'яльныя рэзультаты рэвалюцыі. Наша рэвалюцыя з'яўляецца адзінай, якая не толькі разбіла аковы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць народу матар'яльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і непераможнасць нашай рэвалюцыі. Зразумела, добра прагнаць капіталістаў, прагнаць памешчыкаў, прагнаць царскіх апрычнікаў, узяць уладу і атрымаць свабоду. Гэта вельмі добра. Але, на жаль, адной толькі свабоды далёка яшчэ недастаткова. Калі не хапае хлеба, не хапае масла і тлушчаў, не хапае мануфактуры, жыллё дрэннае, то на адной толькі свабодзе далёка не паедзеш. Вельмі

трудна, таварышы, жыць адной толькі свабодай **(адабраючыя воклічы, апладысменты).** Каб можна было жыць добра і весела, неабходна, каб блага палітычнай свабоды дапаўняліся благамі матар'яльнымі. Характэрная асаблівасць нашай рэволюцыі заключаецца ў тым, што яна дала народу не толькі свабоду, але і матар'яльныя блага, але і магчымасць заможнага і культурнага жыцця. Вось чаму жыць стала ў нас весела і вось на якой глебе вырас стаханаўскі рух.

2. Другой крыніцай стаханаўскага руху з'яўляецца ў нас адсутнасць эксплаататцыі. Людзі працуюць у нас не на эксплаататараў, не для ўзбагачэння туняядцаў, а на сябе, на свой клас, на сваё, савецкае грамадства, дзе ва ўлады стаяць лепшыя людзі рабочага класа. Таму-то праца мае ў нас грамадскае значэнне, яна з'яўляецца справай гонару і славы. Пры капіталізме праца мае прыватны, асабісты характар. Выпрацаваў больш, атрымлівай больш і жыві сабе, як ведаеш. Ніхто цябе не ведае і ведаць не хоча. Ты працуеш на капіталістаў, ты іх узбагачаеш? А як-жа інакш? Для таго цябе і нанялі, каб ты ўзбагачаў эксплаататараў. Ты не згодзен з гэтым,— ідзі ў рады беспрацоўных і празябай як ведаеш,—знойдзем другіх, больш згаворлівых. Таму-то праца людзей невысока цэніцца пры капіталізме. Зразумела, што ў такіх умовах стаханаўскаму руху не можа быць месца. Іншая справа—ва ўмовах савецкага ладу. Тут працоўны чалавек у пашане. Тут ён працуе не на эксплаататараў, а на сябе, на свой клас, на грамадства. Тут працоўны чалавек не можа адчуваць сябе закінутым і адзінокім. Наадварот, працоўны чалавек адчувае сябе ў нас свабодным грамадзянінам сваёй краіны, свайто роду грамадскім дзеячом. І калі ён працуе добра і дае грамадству тое, што можа даць,—ён герой працы, ён авеян славай. Зразумела, што толькі ў такіх умовах мог зарадзіцца стаханаўскі рух.

3. Трэцяй крыніцай стаханаўскага руху трэба лічыць наяўнасць у нас новай тэхнікі. Стаханаўскі рух арганічна звязан з новай тэхнікай. Без новай тэхнікі, без новых заводаў і фабрык, без новага абсталявання стаханаўскі рух не мог-бы ў нас зарадзіцца. Без новай тэхнікі можна падняць тэхнічныя нормы ў 1—2 разы—не больш. Калі стаханаўцы паднялі тэхнічныя нормы ў пяць і ў шэсць раз, то гэта значыць, што яны апіраюцца цалкам і поўнасцю на новую тэхніку. Такім чынам выходзіць, што індустрыялізацыя нашай краіны, рэканструкцыя нашых заводаў і фабрык, наяўнасць новай тэхнікі і новага абсталявання паслужылі адной з прычын, парадзіўшых стаханаўскі рух.

4. Але на адной толькі новай тэхніцы далёка не паедзеш. Можна мець першакласную тэхніку, першакласныя заводы і фабрыкі, але калі няма людзей, здольных асядлаць гэту тэхніку, тэхніка так і застанецца ў вас голай тэхнікай. Каб новая тэхніка магла даць свае рэзультаты, трэба мець яшчэ людзей, кадры рабочых і работніц, здольных стаць на чале тэхнікі і рушыць яе наперад. Зараджэнне і рост стаханаўскага руху азначаюць, што ў нас ужо нарадзіліся такія кадры сярод рабочых і работніц. Гадоў два таму назад партыя сказала, што, пабудаваўшы новыя заводы і фабрыкі і даўшы нашым прадпрыемствам новае абсталяванне,—мы зрабілі толькі палову справы. Партыя сказала тады, што энтузіязм будаўніцтва новых заводаў трэба дапоўніць энтузіязмам іх асваення, што толькі такім шляхам можна давесці справу да канца. Відаць, што за гэтыя два гады ішло асваенне гэтай новай тэхнікі і нараджэнне новых кадраў. Цяпер ясна, што такія кадры ўжо ёсць у нас. Зразумела, што без

такіх кадраў, без гэтых новых людзей у нас не было-б ніякага стаханаўскага руху. Такім чынам новыя людзі з рабочых і работніц, асвоіўшыя новую тэхніку, паслужылі той сілай, якая аформіла і рушыла ўперад стаханаўскі рух.

Такавы ўмовы, парадзіўшыя і рушыўшыя ўперад стаханаўскі рух.

## III

## Новыя людзі—новыя тэхнічныя нормы

Я гаварыў, што стаханаўскі рух развіўся не ў парадку паступовасці, а ў парадку ўзрыву, прарваўшага нейкую плаціну. Відаць, што яму прышлося перамагчы нейкія перашкоды. Нехта яму перашкаджаў, нехта яго заціскаў, і вось, накапіўшы сілы, стаханаўскі рух прарваў гэтыя перашкоды і заліў краіну.

У чым тут справа, хто-ж, уласна, перашкаджаў?

Перашкаджалі старыя тэхнічныя нормы і людзі, стаяўшыя за спіной гэтых норм. Некалькі гадоў таму назад нашы інжынерна-тэхнічныя і гаспадарчыя работнікі склалі вядомыя тэхнічныя нормы прыстасоўна да тэхнічнай адсталасці нашых рабочых і работніц. З таго часу прайшло некалькі гадоў. Людзі за гэты час выраслі і падкаваліся тэхнічна. А тэхнічныя нормы заставаліся нязменнымі. Зразумела, што гэтыя нормы аказаліся цяпер для нашых новых людзей застарэлымі. Цяпер усе лаюць існуючыя тэхнічныя нормы. Але яны-ж не з неба ўпалі. І справа тут зусім не ў тым, што гэтыя тэхнічныя нормы былі складзены ў свой час, як нормы заніжаныя. Справа перш за ўсё ў тым, што цяпер, калі гэтыя нормы сталі ўжо застарэлымі, спрабуюць адстойваць іх, як нормы сучасныя. Чапляюцца за тэхнічную адсталасць нашых рабочых і работніц, арыентуюцца на гэту адсталасць, зыходзяць з адсталасці, і справа даходзіць нарэшце да таго, што пачынаюць іграць у адсталасць. Ну, а як быць, калі гэта адсталасць адыходзіць у галіну мінулага? Няўжо мы будзем схіляцца перад нашай адсталасцю і рабіць з яе абраз, фетыш? Як быць, калі рабочыя і работніцы паспелі ўжо вырасці і падкавацца тэхнічна? Як быць, калі старыя тэхнічныя нормы перасталі адпавядаць рэчаіснасці, а нашы рабочыя і работніцы паспелі ўжо на справе перакрыць іх у 5, у 10 раз? Хіба мы калі-небудзь прысягалі на вернасць нашай адсталасці? Здаецца, не было гэтага ў нас, таварышы? **(агульны смех).** Хіба мы зыходзілі з таго, што нашы рабочыя і работніцы так і астануцца навекі адсталымі? Як быццам мы не зыходзілі з гэтага? **(агульны смех).** У чым-жа тады справа? Няўжо ў нас не хопіць смеласці зламаць кансерватызм некаторых нашых інжынераў і тэхнікаў, зламаць старыя традыцыі і нормы і даць прастор новым сілам рабочага класа?

Талкуюць пра навуку. Гавораць, што даныя навукі, даныя тэхнічных даведнікаў і інструкцый супярэчаць патрабаванням стаханаўцаў аб новых, больш высокіх, тэхнічных нормах. Але пра якую навуку ідзе тут гутарка? Даныя навукі заўсёды правяраліся практыкай, вопытам. Навука, парваўшая сувязі з практыкай, з вопытам,—якая-ж гэта навука? Калі-б навука была такой, якою яе паказваюць некаторыя нашы кансерватыўныя таварышы, то яна даўно-б загінула для чалавецтва. Навука таму і называецца навукай, што яна не прызнае фетышаў, не баіцца падняць руку на аджываючае, старое і чула прыслухоўваецца да голасу вопыту, практыкі. Калі-б справа абстаяла

інакш, у нас не было-б наогул навукі, не было-б, скажам, астраноміі, і мы ўсё яшчэ прабаўляліся-б пастарэлай сістэмай Пталамея, у нас не было-б біялогіі, і мы ўсё яшчэ цешыліся-б легендай аб стварэнні чалавека, у нас не было-б хіміі, і мы ўсё яшчэ прабаўляліся-б прарыцаннямі алхімікаў.

Вось чаму я думаю, што нашы інжынерна-тэхнічныя і гаспадарчыя работнікі, паспеўшыя ўжо значна адстаць ад стаханаўскага руху, зрабілі-б добра, калі-б яны перасталі чапляцца за старыя тэхнічныя нормы і перабудаваліся па-сапраўднаму, па-навуковаму, на новы, стаханаўскі лад.

Добра, скажуць нам. Але як быць з тэхнічнымі нормамі наогул? Ці патрэбны яны для прамысловасці, ці можна абыйсціся зусім без усякіх норм?

Адны гавораць, што нам не трэба больш ніякіх тэхнічных норм. Гэта няверна, таварышы. Больш таго,—гэта неразумна. Без тэхнічных норм немагчыма планавая гаспадарка. Тэхнічныя нормы патрэбны, акрамя таго, для таго, каб адстаючыя масы падцягваць да перадавых. Тэхнічныя нормы—гэта вялікая рэгулюючая сіла, якая арганізуе на вытворчасці шырокія масы рабочых вакол перадавых элементаў рабочага класа. Значыць, нам патрэбны тэхнічныя нормы, але не тыя, якія існуюць цяпер, а больш высокія.

Другія гавораць, што тэхнічныя нормы патрэбны, але іх трэба давесці цяпер-жа да тых дасягненняў, якіх дабіліся Стаханавы, Бусыгіны, Вінаградавы і іншыя. Гэта таксама няверна. Такія нормы былі-б нерэальнымі для цяперашняга часу, бо рабочыя і работніцы, менш падкаваныя тэхнічна, чым Стаханавы і Бусыгіны, не змаглі-б выканаць такіх норм. Нам патрэбны такія тэхнічныя нормы, якія праходзілі-б дзе-небудзь па сярэдзіне паміж цяперашнімі тэхнічнымі нормамі і тымі нормамі, якіх дабіліся Стаханавы і Бусыгіны. Узяць, напрыклад, Марыю Дземчанка, усім вядомую пяцісотніцу на бураках. Яна дабілася ўраджаю буракоў на гектар у 500 і больш цэнтнераў. Ці можна гэта дасягненне зрабіць нормай ураджайнасці для ўсёй бурачнай гаспадаркі, скажам, на Украіне? Не, нельга. Рана пакуль гаварыць аб гэтым. Марыя Дземчанка дабілася 500 і больш цэнтнераў на адзін гектар, а сярэдні ўраджай па бураках, напрыклад, на Украіне ў гэтым годзе складае 130—132 цэнтнеры на гектар. Розніца, як бачыце, не маленькая. Ці можна даць норму для ўраджайнасці па бураках у 400 або ў 300 цэнтнераў? Усе знаўцы справы гавораць, што нельга гэтага рабіць пакуль што. Відавочна, што прыдзецца даць норму па ўраджайнасці на гектар па Украіне на 1936 год у 200—250 цэнтнераў. А норма гэта не маленькая, бо, у выпадку яе выканання, яна магла-б даць нам удвая больш цукру, чым у 1935 годзе. Тое-ж самае трэба сказаць адносна прамысловасці. Стаханаў перакрыў існуючую тэхнічную норму здаецца разоў у дзесяць або нават больш. Абвясціць гэта дасягненне новай тэхнічнай нормай для ўсіх працуючых на адбойным малатку было-б неразумна. Відавочна, што прыдзецца даць норму, якая праходзіць недзе пасярэдзіне паміж існуючай тэхнічнай нормай і нормай, ажыццёўленай т. Стаханавым.

Адно ва ўсякім выпадку ясна: цяперашнія тэхнічныя нормы ўжо не адпавядаюць рэчаіснасці, яны адсталі і ператварыліся ў тормаз для нашай прамысловасці, а для таго, каб не тармазіць нашу прамысловасць, неабходна іх замяніць новымі, больш высокімі тэхнічнымі нормамі. Новыя людзі, новыя часы,—новыя тэхнічныя нормы.

## IV

### Бліжэйшыя задачы

У чым заключаюцца нашы бліжэйшыя задачы з пункту погляду інтарэсаў стаханаўскага руху?

Каб не раскідвацца, давайце звядзем гэту справу да двух бліжэйшых задач.

**Па-першае.** Задача заключаецца ў тым, каб дапамагчы стаханаўцам разгарнуць далей стаханаўскі рух і распаўсюдзіць яго ўшыр і ўглыб на ўсе вобласці і раёны СССР. Гэта—з аднаго боку. І з другога боку—абуздаць усе тыя элементы з гаспадарчых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія ўпарта чапляюцца за старое, не хочуць ісці наперад і сістэматычна тармозяць разгортванне стаханаўскага руху. Каб пашырыць ва ўсю стаханаўскі рух па ўсяму твару нашай краіны, для гэтага адных толькі стаханаўцаў, вядома, недастаткова. Неабходна, каб нашы партыйныя арганізацыі ўключыліся ў гэту справу і дапамаглі стаханаўцам давесці рух да канца. У гэтых адносінах Данецкая абласная арганізацыя праявіла бясспрэчна вялікую ініцыятыву. Добра працуюць у гэтым сэнсе Маскоўская і Ленінградская абласныя арганізацыі. А як іншыя вобласці? Яны, як відаць, усё яшчэ «раскачваюцца». Напрыклад, нешта не чуваць, ці вельмі мала чуваць аб Урале, хоць Урал з'яўляецца, як вядома, велізарным прамысловым цэнтрам. Тое-ж самае трэба сказаць аб Заходняй Сібіры, аб Кузбасе, дзе яшчэ, па ўсяму відаць, не паспелі «раскачацца». Аднак, можна не сумнявацца, што нашы партыйныя арганізацыі возьмуцца за гэту справу і дапамогуць стаханаўцам перамагчы труднасці. Што датычыць другога боку справы—абуздання ўпорствуючых кансерватараў з асяроддзя гаспадарчых і інжынерна-тэхнічных работнікаў,—то тут справа будзе абстаяць некалькі складаней. Прыдзецца ў першую чаргу пераконваць, цярпліва і па-таварыску пераконваць тэтыя кансерватыўныя элементы прамысловасці—у прагрэсіўнасці стаханаўскага руху і ў неабходнасці перабудавацца на стаханаўскі лад. А калі пераконанні не дапамогуць, прыдзецца прыняць больш рашучыя меры. Узяць, напрыклад, Наркамат Шляхоў Зносін. У цэнтральным апараце гэтага наркамата нядаўна існавала група прафесароў, інжынераў і іншых знаўцаў справы—сярод іх былі і комуністы,—якая запэўнівала ўсіх у тым, што 13—14 кіламетраў камерцыйнай хуткасці ў гадзіну з'яўляецца мяжой, далей якой нельга, немагчыма ісці, калі не хочуць уступіць у супярэчнасць з «навукай аб эксплаатацыі». Гэта была даволі аўтарытэтная група, якая прапаведвала свае погляды вусна і праз друк, давала інструкцыі адпаведным органам НКШЗ і наогул з'яўлялася «уладаром дум» сярод эксплаатацыйнікаў. Мы, не знаўцы справы, на падставе прапаноў цэлага раду практыкаў чыгуначнай справы ў сваю чаргу запэўнівалі гэтых аўтарытэтных прафесароў, што 13—14 кіламетраў не могуць быць мяжой, што пры пэўнай арганізацыі справы можна расшырыць гэту мяжу. У адказ на гэта група гэта замест таго, каб прыслухацца да голасу вопыту і практыкі і пераглядзець свае адносіны да справы, кінулася ў барацьбу з прагрэсіўнымі элементамі чыгуначнай справы і яшчэ больш узмацніла прапаганду сваіх кансерватыўных поглядаў. Зразумела, што нам прышлося даць гэтым паважаным людзям злёгку ў зубы і далікатненька выправадзіць іх з цэнтральнага апарата НКШЗ **(апладысменты)**. І што-ж? Мы маем

цяпер камерцыйную хуткасць у 18—19 кілометраў у гадзіну **(апладысменты).** Мне думаецца, таварышы, што ў крайнім выпадку прыдзецца звярнуцца да гэтага метаду і ў іншых галінах нашай народнай гаспадаркі, калі, вядома, упорствуючыя кансерватары не перастануць перашкаджаць і кідаць палкі ў калёсы стаханаўскаму руху.

**Па-другое.** Задача заключаецца ў тым, каб дапамагчы перабудавацца і ўзначаліць стаханаўскі рух тым гаспадарнікам, інжынерам і тэхнікам, якія не хочуць перашкаджаць стаханаўскаму руху, якія спачуваюць гэтаму руху, але не здолелі яшчэ перабудавацца, не здолелі яшчэ ўзначаліць стаханаўскі рух. Я павінен сказаць, таварышы, што такіх гаспадарнікаў, інжынераў і тэхнікаў ёсць у нас не мала. І калі мы дапаможам гэтым таварышам, то іх будзе ў нас бясспрэчна яшчэ больш.

Я думаю, што калі гэтыя задачы будуць выкананы намі, стаханаўскі рух разгорнецца ва-ўсю, ахопіць усе абласці і раёны нашай краіны і пакажа нам цуды новых дасягненняў.

## V

### Два словы

Некалькі слоў адносна гэтай нарады, адносна яе значэння. Ленін вучыў, што сапраўднымі кіраўнікамі-большэвікамі могуць быць толькі такія кіраўнікі, якія ўмеюць не толькі вучыць рабочых і сялян, але і вучыцца ў іх. Сяму-таму з большэвікоў гэтыя словы Леніна не спадабаліся. Але гісторыя паказвае, што Ленін аказаўся праў і ў гэтай галіне на ўсе сто процантаў. На самай справе, мільёны працоўных, рабочых і сялян працуюць, жывуць, змагаюцца. Хто можа сумнявацца ў тым, што гэтыя людзі жывуць не ўпустую, што, жывучы і змагаючыся, гэтыя людзі накапляюць велізарны практычны вопыт? Хіба можна сумнявацца ў тым, што кіраўнікі, пагарджаючыя гэтым вопытам, не могуць лічыцца сапраўднымі кіраўнікамі? Стала быць, мы, кіраўнікі партыі і ўрада, павінны не толькі вучыць рабочых, але і вучыцца ў іх. Што вы, члены гэтай нарады, сяму-таму павучыліся тут, на нарадзе, у кіраўнікоў нашага ўрада,— гэтага я не стану адмаўляць. Але нельга адмаўляць і таго, што і мы, кіраўнікі ўрада, многаму павучыліся ў вас, у стаханаўцаў, у членаў гэтай нарады. Дык вось, дзякуй вам, таварышы, за вучобу, вялікае дзякуй! **(Бурныя апладысменты).**

Нарэшце, два словы аб тым, як патрэбна было-б азнаменаваць гэту нараду. Мы тут у прэзідыуме раіліся і рашылі, што прыдзецца як-небудзь адзначыць гэту нараду кіраўнікоў улады з кіраўнікамі стаханаўскага руху. І вось мы прышлі к такому рашэнню, што чалавек 100—120 з вас прыдзецца прадставіць к вышэйшай узнагародзе.

**Галасы:** Правільна. **(Бурныя апладысменты.)**

**Сталін:** Калі вы адабраеце, таварышы, то мы гэту справу правядзем.

**(Удзельнікі нарады стаханаўцаў наладжваюць бурную, поўную захаплення авацыю таварышу Сталіну. Уся зала грыміць ад воплескаў, магутнае «ура» патрасае зводы залы. Шматлікія воклічы, вітаючыя правадыра партыі таварыша Сталіна, нясуцца з усіх канцоў. Авацыя заканчваецца магутным спяваннем «Інтэрнацыянала»— тры тысячы ўдзельнікаў нарады выконваюць пралетарскі гімн.)**

# Прамова таварыша Сталіна

## на прыёме калгасніц-ударніц бурачных палёў

Таварышы, тое, што мы сёння бачылі тут, гэта кавалак новага жыцця, таго жыцця, якое называецца ў нас калгасным, соцыялістычным жыццём. Мы слухалі простыя словы простых працоўных людзей, як яны змагаліся і перамагалі труднасці для таго, каб дабіцца поспехаў у справе спаборніцтва. Мы слухалі прамовы жанчын, не звычайных, а, я-б сказаў, жанчын—гераінь працы, бо толькі гераіні працы маглі дабіцца тых поспехаў, якіх яны дабіліся. У нас не бывала раней такіх жанчын. Мне вось 56 год ужо, бачыў віды, бачыў дастаткова працоўных мужчын і жанчын. Але такіх жанчын я не сустракаў. Гэта зусім новыя людзі. Толькі свабодная праца, толькі калгасная праца магла парадзіць такіх гераінь працы ў вёсцы.

Такіх жанчын не бывала і не магло быць у старыя часы.

І сапраўды, калі падумаць, што прадстаўлялі сабой жанчыны раней, у старыя часы? Пакуль жанчына была ў дзяўчатах, яна лічылася, так сказаць, апошняй з працоўных. Працавала яна на бацьку, працавала не пакладаючы рук, і бацька яшчэ папракаў: «Я цябе кармлю». Калі яна станавілася замужняй, яна працавала на мужа, працавала так, як яе прымушаў працаваць муж, і муж-жа яе зноў-жа папракаў: «Я цябе кармлю». Жанчына ў вёсцы была апошняй з працоўных. Зразумела, што ў такіх умовах гераіні працы сярод жанчын-сялянак не маглі з'явіцца. Праца лічылася тады праклёнам для жанчыны, і яна яе пазбягала ўсімі спосабамі.

Толькі калгаснае жыццё магло зрабіць працу справай гонару, толькі яно магло парадзіць сапраўдных гераінь-жанчын у вёсцы. Толькі калгаснае жыццё магло знішчыць няроўнасць і паставіць жанчыну на ногі. Гэта вы самі добра ведаеце. Калгас увёў працадзень. А што такое працадзень? Перад працаднём усе роўны—і мужчыны, і жанчыны. Хто больш працадзён выпрацаваў, той больш і зарабіў. Тут ужо ні бацька, ні муж папракаць жанчыну не можа, што ён яе корміць. Цяпер жанчына, калі яна працуе і ў яе ёсць працадні, яна сама сабе гаспадыня. Я памятаю, на другім калгасным з'ездзе вёў гутарку з некалькімі таварышамі-жанчынамі. Адна з іх, з Паўночнага края, гаварыла:

«Гады два назад ніхто ка мне на двор з жаніхоў заглядваць не хацеў. Беспрыданніца! Цяпер у мяне 500 працадзён. І што-ж? Адбою няма ад жаніхоў, хочуць, гавораць, жаніцца, а я яшчэ пагляджу, сама выбіраць буду жанішкоў».

Працаднямі калгас вызваліў жанчыну і зрабіў яе самастойнай. Яна цяпер працуе ўжо не на бацьку, пакуль яна ў дзяўчатах, не на

мужа, калі яна замужам, а перш за ўсё на сябе працуе. Вось гэта і значыць вызваленне жанчыны-сялянкі, гэта і значыць калгасны лад, які робіць жанчыну працоўную роўнай усякаму мужчыне працоўнаму. Толькі на гэтай базе, у гэтых умовах маглі з'явіцца такія выдатныя жанчыны. Вось чаму я сёнешнюю сустрэчу разглядаю не проста як звычайную сустрэчу перадавых людзей з членамі ўрада, а як урачысты дзень, калі дэманструюцца поспехі і здольнасці вызваленай працы жанчыны. Я думаю, што ўрад павінен адзначыць гераінь працы, прыехаўшых сюды, каб далажыць ураду аб сваіх поспехах.

Як адзначыць сёнешні дзень? Мы раіліся тут, я, таварышы Варашылаў, Чэрноў, Молатаў, Кагановіч, Орджанікідзе, Калінін, Мікаян, і мы прышлі да такой думкі—хадайнічаць перад урадам аб узнагароджанні нашых гераінь працы ордэнам Леніна,—звеннявых ордэнам Леніна, а радавых ударніц—ордэнам Працоўнага сцяга. Прыдзецца, вядома, асобна адзначыць т. Марыю Дземчанка.

**Варашылаў.**—Маладзец.

**Молатаў.**—Галоўная віноўніца.

**Сталін.**—Я думаю, што Марыі Дземчанка, як запявале ўсёй гэтай справы, акрамя таго, што дадуць ёй ордэн Леніна, трэба яшчэ выказаць падзяку ад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Советаў, а калгасніцам яе звяна даць ордэны Працоўнага сцяга.

(**Голас.**—Яны тут, акрамя адной. Яна хворая).

**Сталін.**—Хворую таксама прыдзецца ўзнагародзіць. Так мы думаем адзначыць сёнешні дзень. **(Бурныя доўгія апладысменты, усе ўстаюць).**

---

# Прамова таварыша Сталіна

## на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак 1 снежня 1935 года

Таварышы! Дазвольце перш за ўсё вітаць вас у сувязі з тымі дасягненнямі, якіх вы дабіліся на фронце ўборкі ўраджаю. Дасягненні вашы немалыя. Калі ў сярэднім па ўсяму СССР выпрацоўка на камбайн паднялася ў нас удвая за адзін год, то гэта немалое дасягненне. Гэта дасягненне асабліва важна ва ўмовах нашай краіны, дзе тэхнічна падкаваных людзей усё яшчэ мала. Наша краіна заўсёды адрознівалася недахватам тэхнічна падкаваных кадраў, асабліва ў галіне земляробства. Тэхнічная падрыхтоўка кадраў у рамках цэлай краіны—гэта вельмі вялікая справа. Яна патрабуе дзесяцігоддзяў. І калі мы за параўнаўча кароткі тэрмін дабіліся таго, што з учарайшых сялянскіх сыноў і дачок выпрацавалі выдатных камбайнераў і камбайнерак, якія перакрываюць нормы капіталістычных краін, то гэта значыць, што ў нас справа вырошчвання тэхнічных кадраў ідзе наперад сямімільнымі крокамі. Так, таварышы, вашы поспехі значныя і сур'ёзныя, і вы ў поўнай меры заслугоўваеце таго, каб кіраўнікі партыі і ўрада віталі вас **(апладысменты).**

А цяпер дазвольце перайсці да сутнасці справы.

У нас часта гавораць, што мы ўжо вырашылі зернавую праблему. Гэта, зразумела, верна, калі мець на ўвазе цяперашні перажываемы намі перыяд. Мы збіраем у гэтым годзе больш пяці з паловай мільярдаў пудоў зярна. Гэтага у поўнай меры хапае для таго, каб удосталь накарміць насельніцтва і адкласці яшчэ дастатковыя запасы, неабходныя для ўсякіх непрадбачаных выпадкаў. Гэта, зразумела, не дрэнна для сёнешняга дня. Але мы не можам абмяжоўвацца толькі сёнешнім днём. Мы павінны думаць і аб заўтрашнім дні, аб бліжэйшым будучым. А калі паглядзець на справу з пункту погляду заўтрашняга дня, то дасягнутыя рэзультаты нас не могуць задаволіць. Колькі спатрэбіцца нам зярна ў бліжэйшым будучым, скажам, гадоў праз тры-чатыры? Нам спатрэбіцца не менш сямівасьмі мільярдаў пудоў зярна. Вось як абстаіць справа, таварышы. Значыць, мы павінны ўжо цяпер прыняць меры да таго, каб вытворчасць хлеба расла ў нас з года ў год і каб мы аказаліся к гэтаму тэрміну ў поўнай меры падрыхтаванымі да выканання гэтай важнейшай задачы. У стары час, да рэволюцыі, наша краіна давала зярна каля чатырох-пяці мільярдаў пудоў у год. Хапала гэтага хлеба ці не—гэта іншае пытанне. Ва ўсякім выпадку ўсе лічылі, што хапала, бо кожны год вывозілі заграніцу каля 400—500 мільёнаў пудоў зярна. Так абстаяла справа ў мінулым. Іншая справа цяпер, у

нашых совецкіх умовах. Я ўжо гаварыў, што мы павінны ўжо цяпер рыхтавацца да таго, каб давесці ў бліжэйшым будучым, гадоў праз тры-чатыры, штогоднюю вытворчасць хлеба да 7—8 мільярдаў пудоў. Розніца, як бачыце,—немалая. То 4 або 5 мільярдаў пудоў, а то 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

Адкуль такая розніца? Чым вытлумачыць гэты каласальны рост патрэбнасцей у зярне ў нашай краіне?

Тлумачыцца гэта тым, што наша краіна ўжо не тая, якою яна была ў стары, дарэволюцыйны час.

Пачаць хоць-бы з таго, што ў нас за апошнія гады прамысловасць і гарады выраслі прынамсі ўдвая ў параўнанні са старым часам. Зараз у нас гарадоў, жыхароў у гарадах, прамысловасці і рабочых, занятых у прамысловасці, прынамсі ўдвая больш, чым у стары час. Што гэта значыць? Гэта значыць, што некалькі мільёнаў працаўнікоў узялі мы з сяла, перавялі ў гарады, зрабілі рабочымі і служачымі, і яны цяпер разам з астатнімі рабочымі рушаць наперад нашу прамысловасць. Гэта значыць, што калі некалькі мільёнаў працаўнікоў, звязаных раней з вёскай, выпрацоўвалі хлеб, то цяпер яны не толькі не выпрацоўваюць хлеба, а, наадварот, самі маюць патрэбу ў тым, каб ім падвозілі хлеб з вёскі. А гарады ў нас будуць расці, і патрэбнасць у хлебе будзе павялічвацца.

Гэта першая прычына росту патрэбнасці ў зярне.

Далей. У стары час у нас тэхнічных культур было менш, чым цяпер. Мы выпрацоўваем цяпер бавоўны ўдвая больш, чым у стары час. Што датычыць лёну, буракоў і іншых тэхнічных культур, то мы іх выпрацоўваем непараўнаўча больш, чым у стары час. Што-ж з гэтага выцякае? А з гэтага выцякае тое, што людзі, занятыя вытворчасцю тэхнічных культур, не могуць у дастатковай ступені займацца вытворчасцю хлеба. Значыць, трэба мець вялікія запасы зярна для людзей, якія выпрацоўваюць тэхнічныя культуры, каб можна было ўсё больш і больш павялічваць вытворчасць тэхнічных культур, вытворчасць бавоўны, лёну, буракоў, сланечніку і т. д. А вытворчасць тэхнічных культур нам прыдзецца ўсё больш і больш павялічваць, калі мы хочам рушыць наперад нашу лёгкую прамысловасць і нашу харчовую прамысловасць.

Вось вам другая прычына росту патрэбнасці ў зярне.

Далей. Я ўжо гаварыў, што ў стары час выпрацоўвалі ў нас 4—5 мільярдаў пудоў зярна ў год. Царскія міністры звычайна гаварылі тады: «Самі не будзем даядаць, а хлеб вывозіць будзем». Што гэта за людзі, якія недаядалі? Зразумела, не царскія міністры. Недаядаўшыя людзі гэта—20—30 мільёнаў вясковай беднаты, якая сапраўды недаядала і жыла ўпрогаладзь для таго, каб царскія міністры мелі магчымасць вывозіць хлеб заграніцу. Так было ў стары час. Цяпер у нас зусім іншы час. Совецкі ўрад не можа дапусціць, каб насельніцтва недаядала. Вось ужо два-тры гады як беднаты ў нас няма больш, беспрацоўя не стала, недаяданне знікла, і мы грун-тоўна ўступілі на шлях заможнасці. Вы запытаеце—куды дзеліся [illegible]—30 мільёнаў галоднай беднаты? Яны перашлі ў калгасы, абасна-[illegible]ся там і з поспехам будуюць сваё заможнае жыццё. А што гэта [illegible]ць? Гэта значыць, што нам патрабуецца цяпер значна больш [illegible] для пракармлення працоўных сялян, чым у стары час, бо [illegible]шыя беднякі, а цяпер калгаснікі, што абасналіся ў калгасах, [illegible]ы мець дастаткова хлеба для таго, каб будаваць сваё замож-

нае жыццё. Вы ведаеце, што яны яго маюць і будуць мець яшчэ больш.

Такая трэцяя прычына каласальнага росту патрэбнасці ў зярне ў нашай краіне.

Далей. У нас цяпер усе гавораць, што матар'яльнае становішча працоўных значна палепшылася, што жыць стала лепш, весялей. Гэта, зразумела, верна. Але гэта вядзе да таго, што насельніцтва стала размнажацца значна хутчэй, чым у стары час. Смяротнасці стала менш, нараджэнняў больш, і чыстага прыросту атрымліваецца непараўнаўча больш. Гэта, зразумела, добра, і мы гэта вітаем **(вясёлае ажыўленне ў зале).** Зараз у нас кожны год чыстага прыросту насельніцтва атрымліваецца каля трох мільёнаў душ. Гэта значыць, што кожны год мы атрымліваем прырашчэнне на цэлую Фінляндыю **(агульны смех).** Ну, а гэта вядзе да таго, што прыходзіцца карміць усё больш і больш людзей.

Вось вам яшчэ адна прычына росту патрэбнасці ў хлебе.

Нарэшце, яшчэ адна прычына. Я гаварыў аб людзях і аб росце іх патрэбнасці ў хлебе. Але харчаванне людзей не абмяжоўваецца адным толькі хлебам. Ім патрэбна яшчэ мяса, тлушчы. Рост гарадоў, рост тэхнічных культур, агульны рост народанасельніцтва, заможнае жыццё,—усё гэта вядзе да росту патрэбнасці ў мясе, у тлушчах. Неабходна, значыць, мець добра пастаўленую жывёлагадоўлю з вялікай колькасцю жывёлы, дробнай і буйнай, для таго, каб мець магчымасць задаволіць растучыя патрэбнасці насельніцтва ў мясных прадуктах. Усё гэта ясна. Але рост жывёлагадоўлі нямыслімы без вялікіх запасаў зярна для жывёлы. Толькі зернавая гаспадарка, якая расце і разгортваецца, можа стварыць умовы, неабходныя для росту жывёлагадоўлі.

Вось вам яшчэ адна прычына каласальнага росту патрэбнасці ў зярне ў нашай краіне.

Такія, таварышы, прычыны, якія ў корані змянілі твар нашай краіны і ставяць перад намі неадкладную задачу—давесці штогоднюю вытворчасць зярна ў бліжэйшым будучым да 7—8 мільярдаў пудоў.

Ці можам выканаць гэту задачу?

Так, можам. У гэтым не можа быць сумнення.

Што патрабуецца для таго, каб выканаць гэту задачу?

Для гэтага патрабуецца, перш за ўсё, каб пануючай формай гаспадаркі ў земляробстве была ў нас не дробная, а буйная гаспадарка. Чаму іменна буйная? Таму, што толькі буйная гаспадарка здольна асвоіць сучасную тэхніку, толькі буйная гаспадарка здольна скарыстаць у дастатковай ступені сучасныя агратэхнічныя веды, толькі буйная гаспадарка здольна прымяняць як след угнаенні. У капіталістычных краінах, дзе пануючай формай у земляробстве з'яўляецца аднаасобная дробная гаспадарка, буйныя гаспадаркі ствараюцца шляхам узбагачэння невялікай групы землеўладальнікаў і разарэння большасці сялян. Там звычайна землі разарыўшыхся сялян пераходзяць у рукі багатых землеўладальнікаў, а самі сялян каб не памерці з голаду, ідуць у найміты да гэтых землеўлада каў. Мы лічым гэты шлях няправільным і руйнавальным. Ён д не прыймальны. Мы сталі, таму, на іншы шлях стварэння гаспадарак у земляробстве. Мы сталі на шлях аб'яднання д сялянскіх гаспадарак у вялікія калектыўныя гаспадаркі, якія цоўваюць зямлю калектыўнай працай і якія карыстаюцца ўсім

ром і магчымасцямі буйнай гаспадаркі. Гэта ёсць шлях калгасаў. Ці з'яўляецца для нас цяпер калгасная форма буйнай гаспадаркі пануючай формай нашага земляробства? Так, з'яўляецца. У калгасах у нас ёсць цяпер каля 90 проц. усяго сялянства. Значыць, буйная гаспадарка ў земляробстве, калгасная гаспадарка як пануючая форма,—у нас ужо ёсць у наяўнасці.

Для гэтага патрабуецца, па-другое, каб у калгасаў, у нашых буйных гаспадарак было дастаткова выгодных зямель. Ці ёсць такія землі ў нашых калгасаў? Так, ёсць. Вы ведаеце, што ўсе царскія, памешчыцкія і кулацкія землі перададзены ўжо калгасам. Вы ведаеце, што гэтыя землі ўжо замацаваны за калгасамі навечна. Значыць, у калгасаў маецца дастаткова выгодных зямель для таго, каб разгарнуць ва ўсю вытворчасць зярна.

Для гэтага патрабуецца, па-трэцяе, каб у калгасаў было дастаткова тэхнікі, трактароў, сельскагаспадарчых машын, камбайнаў. Самі разумееце, што на адной толькі ручной працы далёка не паедзеш. Значыць, патрэбна багатая тэхніка для таго, каб калгасы маглі разгарнуць вытворчасць зярна. Ці ёсць у калгасаў такая тэхніка? Так, ёсць. І чым далей, тым больш будзе ў іх гэтай тэхнікі.

Для гэтага патрабуецца, нарэшце, каб у калгасаў былі людзі, кадры, якія ўмеюць абыходзіцца з тэхнікай, асвоілі гэту тэхніку і навучыліся асядлаць яе. Ці ёсць у калгасаў такія людзі, такія кадры? Так, ёсць. Праўда, яшчэ мала, але ўсё-ж яны ёсць. Гэта нарада, дзе прысутнічаюць лепшыя камбайнеры і камбайнеркі і якая прадстаўляе толькі невялікую частку той арміі камбайнераў і камбайнерак, якія ёсць у калгасаў,—гэта нарада з'яўляецца довадам таго, што такія кадры ўжо нарадзіліся ў калгасах. Праўда, іх, гэтых кадраў, усё яшчэ мала, і ў гэтым, таварышы, галоўная наша загвоздка. Але няма падстаў сумнявацца ў тым, што колькасць гэтых кадраў будзе расці ў нас не гадамі і месяцамі, а днямі і гадзінамі.

Выходзіць, такім чынам, што мы маем усе ўмовы, неабходныя для таго, каб дабіцца ў бліжэйшым будучым штогоднай вытворчасці зярна ў размеры 7—8 мільярдаў пудоў.

Вось чаму я думаю, што неадкладная задача, аб якой я гаварыў вышэй, безумоўна ажыццявіма.

Галоўнае цяпер у тым, каб налегчы на кадры, абучыць кадры, дапамагчы адстаючым асвоіць тэхніку, вырошчваць з дня ў дзень людзей, здольных асвоіць тэхніку і пагнаць яе наперад. У гэтым цяпер галоўнае, таварышы.

Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на камбайны і на камбайнераў. Вы ведаеце, што самая адказная справа ў зернавой гаспадарцы ўборка. Уборка—справа сезонная і яна не любіць чакаць. Сабраў своечасова—выйграў, спазніўся ва ўборцы—прайграў. Значэнне камбайна заключаецца ў тым, што ён дапамагае сабраць ураджай своечасова. Гэта вельмі вялікая і сур'ёзная справа, таварышы.

Але значэнне камбайна гэтым не абмяжоўваецца. Яго значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што ён пазбаўляе нас ад велізарных страт. Самі ведаеце, што ўборка пры дапамозе лабагрэйкі дае велізарныя страты зярна. Спачатку скасіць, потым сабраць у снапы, потым сабраць у сцірты, потым звозіць ураджай да малатарань, — усё гэта страты і страты. Усе прызнаюць, што пры гэтай сістэме ўборкі мы трацім каля 20—25 проц. ураджаю. Вялікае значэнне камбайна заключаецца ў тым, што ён даводзіць гэтыя страты да нязначнага міні-

мума. Знаўцы справы гавораць, што ўборка пры дапамозе лабагрэйкі, пры іншых роўных умовах, дае ўраджайнасць на гектар на 10 пудоў менш, чым уборка пры дапамозе камбайна. Калі ўзяць сто мільёнаў гектараў зернавых пасеваў, а іх у нас значна больш, як вядома, то страты пры ўборцы лабагрэйкамі складуць мільярд пудоў зярна. Спрабуйце цяпер арганізаваць уборку на гэтых ста мільёнах гектараў пры дапамозе камбайна, маючы на ўвазе, што камбайн працуе не дрэнна,—і вы атрымаеце выйгрыш на цэлы мільярд пудоў зярна. Лічба не малая, як бачыце.

Вось да чаго вялікае значэнне камбайна і людзей, якія працуюць на камбайне.

Вось чаму я думаю, што ўкараненне камбайна ў земляробства і вырошчванне шматлікіх кадраў камбайнераў і камбайнерак з'яўляецца першаступеннай задачай.

Вось чаму, заканчваючы прамову, я хацеў-бы выказаць пажаданне, каб лік нашых камбайнераў і камбайнерак рос не па днях, а па гадзінах, каб яны, абучаючыся тэхніцы камбайна і абучаючы гэтай справе сваіх таварышоў, сталі, нарэшце, сапраўднымі пераможцамі ў сельскай гаспадарцы нашай краіны.

**(Бурныя, доўгія апладысменты, якія пераходзяць у авацыю, гучнае «ура», воклічы з месц: «Няхай жыве любімы Сталін!»).**

Яшчэ два словы, таварышы. Мы тут у прэзідыуме цішком гутарылі і знайшлі, што трэба было-б прадставіць удзельнікаў данай нарады к вышэйшай узнагародзе, к ордэну—за добрую работу. Мы гэту справу думаем правесці, таварышы, у бліжэйшыя дні.

**(Бурныя, доўгія апладысменты, крыкі «ура», воклічы: «Дзякуй таварышу СТАЛІНУ!»).**

---

# Прамова таварыша Сталіна

## на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана

Таварышы! Прэзідыум данай нарады даручыў мне заявіць вам аб двух рэчах:

Па-першае, аб тым, што ў прэзідыуме ёсць намер прадставіць к вышэйшай узнагародзе—к ордэну ўсіх удзельнікаў і ўдзельніц данай нарады—за выдатную работу **(доўгія бурныя апладысменты. Крыкі «ура». Воклічы: Няхай жыве таварыш Сталін! Доўгая авацыя і прывітальныя воклічы па адрасу кіраўнікоў партыі і ўрада).**

Па-другое, аб тым, што ва ўрада ёсць рашэнне даць па грузавіку кожнаму калгасу, прадстаўленаму тут, і паднесці кожнаму з удзельнікаў нарады па патэфону з пласцінкамі **(апладысменты)** і гадзіннікі: мужчынам — кішанёвыя, а жанчынам — ручныя. **(Доўгія апладысменты).**

Мне гавораць адусюль, што я павінен сёе-тое сказаць.

**Воклічы:** Правільна! **(апладысменты).**

Што тут сказаць? Усё сказана.

Відавочна, што справа з бавоўнай у вас пойдзе. Гэта відаць з усяго таго, што ў нас тут адбываецца. Калгасы ў вас растуць, жаданне працаваць ёсць, машыны дамо, угнаенне атрымаеце, дапамога ўсякая, якая толькі неабходна,—таварыш Молатаў, старшыня Соўнаркома, ужо заявіў вам аб гэтым,—будзе аказана. Стала быць, справа з бавоўнай у вас пойдзе і заможнае жыццё разгортваецца.

Але ёсць, таварышы, адна рэч, больш каштоўная, чым бавоўна—гэта дружба народаў нашай краіны. Даная нарада, вашы прамовы, вашы справы гавораць аб тым, што дружба паміж народамі нашай вялікай краіны ўмацоўваецца. Гэта вельмі важна і знамянальна, таварышы. У стары час, калі ва ўладзе ў нашай краіне стаялі цар, капіталісты, памешчыкі, палітыка ўрада заключалася ў тым, каб зрабіць адзін народ—рускі народ—пануючым, а ўсе іншыя народы—падначаленымі, прыгнечанымі. Гэта была зверская, воўчая палітыка. У кастрычніку 1917 года, калі ў нас разгарнулася вялікая пралетарская рэвалюцыя, калі мы скінулі цара, памешчыкаў і капіталістаў, вялікі Ленін, наш настаўнік, наш бацька і выхавацель сказаў, што не павінна быць з гэтага часу ні пануючых, ні падначаленых народаў, што народы павінны быць роўнымі і свабоднымі. Гэтым ён пахаваў у труну старую царскую, буржуазную палітыку і абвясціў новую, бальшэвіцкую палітыку—палітыку дружбы, палітыку брацтва паміж народамі нашай краіны

З таго часу прашло 18 гадоў. І вось, мы маем ужо добрыя рэзультаты гэтай палітыкі. Даная нарада з'яўляецца яркім довадам таго, што быломy недавер'ю паміж народамі СССР даўно ўжо пакладзен канец, што недавер'е змянілася поўным узаемным давер'ем, што дружба паміж народамі СССР расце і мацнее. Гэта, таварышы, самае каштоўнае з таго, што дала нам большэвіцкая нацыянальная палітыка.

А дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае завяяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе. Можаце не сумнявацца ў гэтым, таварышы.

**(Бурная авацыя, усе прысутныя ўстаюць, воклічы: «Сталіну ўра»).**

---

# Новы этап соцыялістычнага спаборніцтва

Апошнія прамовы правадыра партыі і ўсіх працоўных тав. Сталіна—на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак і на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана — знамянуюць новы этап соцыялістычнага будаўніцтва. Як магутны пражэктар, асвятляюць яны асноўныя і карэнныя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва на даным этапе, узбройваюць партыю, рабочы клас, калгаснае сялянства і ўсіх працоўных нашай краіны на далейшую барацьбу за перамогу комуністычнага грамадства.

Словы, сказаныя тав. Сталіным з трыбуны першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў, з выключнаю сілай паказваюць працоўным масам усяго свету, што толькі пролетарская рэволюцыя, што толькі дыктатура пролетарыята адчыняе шляхі для неабмежаванага развіцця грамадскай ініцыятывы і стварае ўмовы для ўздыму і развіцця вытворчых сіл і прадукцыйнасці працы на такую вышыню, якой не ведае гісторыя развіцця чалавечага грамадства.

Вялікая Окцябрская рэволюцыя азнаймавала сабой пачатак новай эры ў развіцці чалавечага грамадства.

Разам са звяржэннем капіталістычнай улады было скінута панаванне прыватнай уласнасці і прыватнай ініцыятывы, якія грунтаваліся на жудасных формах прыгнечання і эксплаатацыі мільённых мас працоўнага насельніцтва ў карысць кучкі капіталістаў, фабрыкантаў, памешчыкаў, банкіраў і ўсёй капіталістычнай чэлядзі. На змену капіталістычнай прыватнай ініцыятыве прышла ініцыятыва грамадская, соцыялістычная, якая развівае соцыялістычнае спаборніцтва не ў інтарэсах нажывы і ўзбагачэння кучкі эксплаататараў, а для таго, каб ліквідаваць эксплаатацыю чалавека чалавекам, знішчыць карэнні капіталізма, стварыць бяскласавае соцыялістычнае грамадства, узняць матар'яльна-культурны ўзровень усёй масы працоўнага насельніцтва.

Перад намі стаяла агромнай важнасці задача—дабіцца больш высокай арганізацыі працы, больш высокай яе прадукцыйнасці, чым пры капіталізме.

У артыкуле «Вялікі пачын» Ленін гаворыць:

> «Прадукцыйнасць працы, гэта, у канчатковым выніку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу... Капіталізм можа быць канчаткова пераможан і будзе канчаткова пераможан тым, што соцыялізм стварае новую, значна больш высокую прадукцыйнасць працы» *).

---

*) т. XXIV, стар. 342.

Ленін яшчэ ў гады разрухі і грамадзянскай вайны з выключнай увагай адносіўся да праяўлення ініцыятывы рабочых мас у справе павышэння прадукцыйнасці працы. Калі ў першай палове 1919 года па ўласнаму пачыну рабочых арганізаваліся комуністычныя суботнікі, Ленін убачыў у гэтым праяўленне велізарнай рэволюцыйнай свядомасці і зародак шырокага соцыялістычнага спаборніцтва сярод рабочых мас, убачыў у гэтым рашаючую ўмову перамогі комуністычнага грамадства.

У артыкуле «Вялікі пачын» Ленін пісаў:

«Відочна, гэта толькі яшчэ пачатак, але гэта пачатак надзвычайна вялікай важнасці. Гэта—пачатак перавароту, больш цяжкага, больш істотнага, больш карэннага, больш рашаючага, чым звяржэнне буржуазіі, бо гэта—перамога над уласнай закаранеласцю, распушчанасцю, дробна-буржуазным эгаізмам, над гэтымі прывычкамі, якія пракляты капіталізм пакінуў у спадчыну рабочаму і селяніну. Калі гэта перамога будзе замацавана, тады і толькі тады новая грамадская дысцыпліна, соцыялістычная дысцыпліна будзе створана, тады і толькі тады зварот назад, к капіталізму, стане немагчымым, комунізм зробіцца сапраўды непераможным» *).

Вялікі геній Леніна ўбачыў у першых комуністычных суботніках пачатак таго вялікага руху пролетарыята і працоўных мас, які пры далейшым развіцці зробіць карэнны пераварот у поглядах і свядомасці людзей, створыць новую, значна большую прадукцыйнасць працы, чым пры капіталізме.

* * *

Узнятую Окцябрскай рэволюцыяй небывалую актыўнасць шырокіх мас працоўнага насельніцтва партыя большэвікоў, пасля пераможнага заканчэння грамадзянскай вайны, накіравала на аднаўленне разбуранай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, каб стварыць базу для перабудовы ўсёй нашай эканомікі на соцыялістычных пачатках.

Барацьба за ажыццяўленне лозунга партыі аб індустрыялізацыі краіны, за выкананне плана першай пяцігодкі ператварылася ў шырокі масавы рух рабочых і працоўнага сялянства за новыя, вышэйшыя формы арганізацыі працы.

Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, якое разгарнулася сярод шырокіх мас рабочых у барацьбе за выкананне першай пяцігодкі за чатыры гады, з'ўлялася працягам і развіццём таго «вялікага пачыну», які выразіўся ў першых комуністычных суботніках.

Ацэньваючы значэнне першых суботнікаў, Ленін пісаў:

«Комуністычныя суботнікі» іменна таму маюць велізарнае гістарычнае значэнне, што яны паказваюць нам свядомы і добраахвотны пачын рабочых у развіцці прадукцыйнасці працы, у пераходзе да новай працоўнай дысцыпліны, у творчасці соцыялістычных умоў гаспадаркі і жыцця» **).

*) т. XXIV, стар. 329.
**) т. XXIV, стар. 339.

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў на чале з тав. Сталіным гэты магутны ўздым вытворчага энтузіязму ў першую-ж пяцігодку ператварыўся ў масавы рух на аснове небывалага росту свядомасці рабочага класа і працоўных мас нашай краіны.

Рост свядомых соцыялістычных адносін да працы ў барацьбе за выкананне плана першай пяцігодкі за чатыры гады быў магчымы толькі дзякуючы таму, што комуністычная партыя, на чале з правадыром усіх працоўных тав. Сталіным, разбіла ўшчэнт усякія тэорыі контррэволюцыйных трацкістаў і правых апартуністаў аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна партыя арганізавала і ўзначаліла вытворчы энтузіязм шырокіх мас працоўных, ператварыла соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў рух мільёнаў.

Тав. Сталін з уласцівай яму геніяльнасцю ў сваім дакладзе на XVI партз'ездзе адзначыў:

> «Самае выдатнае ў спаборніцтве заключаецца ў тым, што яно ўтварае карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага брэмя, якой яна лічылася раней, у справу **гонару,** у справу **славы,** у справу **адвагі і геройства** *).

Словы правадыра апраўдаліся ўсім далейшым ходам соцыялістычнага будаўніцтва. Яны ператварыліся ў рэчаіснасць і ўвасоблены ў геройскіх учынках удзельнікаў Чэлюскінскай эпапеі, у дасягненнях совецкіх стратанаўтаў, у барацьбе дзесяткаў тысяч і мільёнаў працоўных нашай радзімы за аўладанне тэхнікай вытворчасці, за павышэнне прадукцыйнасці працы, за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

* * *

Магутны рух мільёнаў працоўных пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна забяспечыў выкананне першай пяцігодкі за чатыры гады, ператварэнне нашай краіны з адсталай аграрнай у перадавую індустрыяльную. Аказалася магчымым паставіць задачу пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства і ажыццявіць у другой пяцігодцы задачу завяршэння соцыялістычнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Задача аўладання тэхнікай паўстала перад намі з асобай сілай, як важнейшая задача другой пяцігодкі, бо далейшае развіццё прадукцыйнасці працы патрабавала максімальнага засваення новай тэхнікі, умелага і максімальнага выкарыстання ўсіх яе магчымасцей.

Тав. Сталін у гутарцы з металургамі (26 снежня 1934 года) указаў, што «галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай». Гэта ўказанне правадыра паслужыла магутным штуршком для разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва ў справе найхутчэйшага аваладвання тэхнікай. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і тав. Сталіна гэты рух ахапіў усе галіны прамысловасці і знашоў шырокі водгук у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы.

Масавая тэхнічная вучоба і здача тэхэкзаменаў сталі адным з галоўных рычагоў асваення новай тэхнікі. Вынікі барацьбы за

*) Пытанні ленінізма, выд. X, стар. 393.

аўладанне тэхнікай сказаліся хутка. Рабочыя, якія раней не выконвалі свайго промфінплана, аўладаўшы тэхнікай, пачалі перавыконваць планавыя заданні і ўстаноўленыя нормы выпрацоўкі.

Гістарычная прамова тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі (4 мая 1935 года), яго лозунг аб клапатлівым вырошчванні большэвіцкіх кадраў, будаўнікоў социялізма, выклікалі новы ўздым соцспаборніцтва за далейшае паглыбленне тэхнічных ведаў, за выкарыстанне тэхнікі да дна, за ўздым соцыялістычнага спаборніцтва на яшчэ вышэйшую ступень.

Лозунг тав. Сталіна аб кадрах знашоў сваё матар'яльнае ўвасабленне ў стаханаўска-крываносаўска-бусыгінскім руху. Гэты новы этап соцыялістычнага спаборніцтва рэзка адрозніваецца ад папярэдніх іменна тым, што ён узнік на аснове створанай вышэйшай тэхнікі, на аснове барацьбы за аўладанне передавой тэхнікай і выкарыстанне яе да дна.

Стаханаўска-вінаградаўска-бусыгінскія метады працы адверглі ўсе так званыя «навукова абгрунтаваныя тэхнічныя нормы». Тав. Стаханаў паказаў, што пры правільным і поўным выкарыстанні тэхнікі можна даць значна больш установленай нормы—10—17 тон каменнага вугалю за змену. Ён даказаў гэта на справе, даўшы звыш 300 тон вугалю. Тав. Бусыгін і яго брыгада абагналі амерыканскія нормы апрацоўкі каленчатых валоў для аўтамашын. Стандартная выпрацоўка амерыканцаў у гадзіну—100 каленчатых валоў, а брыгада Бусыгіна дала 127 валоў, зменшыўшы затрату працы на адзін вал з 36 секунд (амерыканская норма) да 27. Тав. Сметанін, перабудаваўшы сваю работу па-новаму, давёў зацяжку абутку да 1860 пар.

Следам за Стаханавым, Бусыгіным, Сметаніным, Вінаградавымі пастаўлены новыя рэкорды. Так т. Барысаў (Донбас) выпрацаваў адбойным малатком 778 тон вугалю ў змену, і інш.

Тав. Сталін у сваёй прамове ўказаў, што стаханаўскі рух, які зарадзіўся знізу, у самай гушчы рабочых,—справа ў поўнай меры наспеўшая.

> «Асновай стаханаўскага руху паслужыла перш за ўсё карэннае палепшанне матар'яльнага становішча рабочых. Жыць стала лепш, таварышы. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца.
>
> ...Другою крыніцай стаханаўскага руху з'яўляецца ў нас адсутнасць эксплаатацыі. Людзі працуюць у нас не на эксплаататараў, не для ўзбагачэння туняядцаў, а на сябе, на свой клас, на сваё, совецкае грамадства, дзе ва ўлады стаяць лепшыя людзі рабочага класа.
>
> ... Трэцяй крыніцай стаханаўскага руху трэба лічыць наяўнасць у нас новай тэхнікі. Стаханаўскі рух арганічна звязан з новай тэхнікай.
>
> ... Каб новая тэхніка магла даць свае рэзультаты, трэба мець яшчэ людзей, кадры рабочых і работніц, здольныя стаць на чале тэхнікі і рушыць яе наперад... У нас ужо нарадзіліся такія кадры... Такім чынам, новыя людзі з рабочых і работніц, асвоіўшыя новую тэхніку, паслужылі той сілай, якая аформіла і рушыла ўперад стаханаўскі рух» **(Сталін).**

Новыя людзі, выхаваныя партыяй большэвікоў, ауладаўшыя тэхнікай, пачынаюць тварыць цуды. Гэтыя людзі выкарыстоўваюць новую тэхніку, ламаюць застарэлыя нормы і на справе паказваюць, што можа даць тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай.

Кожны дзень прыносіць нам усё новыя і новыя рэкорды высокай прадукцыйнасці працы. Так, напрыклад, Раман Мачэхін (Кузбас) у канцы лістапада дабіўся новага ўсесаюзнага рэкорду выпрацоўкі—1,466 тон каменнага вугалю за змену.

Перадавыя рабочыя і работніцы прамысловасці СССР даказалі на справе, што людзі, аўладаўшыя тэхнікай, могуць дабіцца высокай прадукцыйнасці працы, што кожны рабочы і работніца, аўладаўшы тэхнікай вытворчасці, можа стаць стаханаўцам.

Ініцыятары стаханаўскага руху ў БССР—рабочыя менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча браты Скабло Рыгор і Зэлік,—прымяняючы метад Сметаніна, перавыконваюць сваю дзенную норму. Рыгор Скабло абцягнуў 1451 пару, перакрыўшы першы рэкорд, устаноўлены лепшым абцяжнікам Саюза тав. Сметаніным, на 51 пару. Скабло Зэлік 6 снежня зацвікаваў 1.356 пар абутку, чым перакрыў свой ранейшы рэкорд на 150 пар і ўстанавіў новы ўсебеларускі рэкорд, выканаўшы норму на 338%. Следам за братамі Скабло рабочы гэтай-жа фабрыкі тав. Розенберг давёў зацяжку да 1432 пар абутку ў змену. 13 снежня т. Чарноўскі ўстанавіў новы рэкорд цвікоўкі, даўшы за адну змену 1410 пар, што складае 350% нормы.

Тав. Антоненка пры норме 410 пар прашыў 932 пары мужчынскага абутку, чым пабіў рэкорд лепшага прашыўшчыка Саюза тав. Пуцько.

Упершыню ў практыцы абутковай прамысловасці работніца Чайкоўская перашла на абслугоўванне двух гладзільных машын, устанавіўшы на сваім працэсе ўсесаюзны рэкорд у 1400 пар абутку за адну змену.

Тав. Левін—рабочы менскага скурзавода «Большэвік» на складанай стругальнай машыне давёў апрацоўку скур да 805 штук, замест нормы 245.

Тав. Кандрацьева—работніца віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «Кім» у першых лічбах лістапада давяла выпрацоўку да 56 дзесяткаў панчох у змену замест нормы 36; т. Новікава—работніца матальнага цэха перашла на абслугоўванне 48 верацён, замест 24; т. Малькевіч—работніца фарбавальнага аддзелу давяла выкананне плана да 275%; т. Гольдфарб—рабочы оршанскага завода «Чырвоны барацьбіт» давёў выкананне нормы да 410%; т. Орлоўскі—каваль менскага трамвайнага парка дае 316% і т. д.

Рамшчыкі Бабруйскага лесакамбіната—тт. Рушко і Адзінцоў—26 лістапада, прымяняючы метад архангельскага рамшчыка т. Мусінскага, распілавалі за змену на раме сістэмы «Боліндэр» 320,4 кубаметра лесаматар'ялаў, або 267% устаноўленай нормы. 3-га снежня т. Рушко распілаваў 349,7 кубаметра лесу, чым пабіў апошні рэкорд т. Мусінскага.

14 снежня стаханавец-парторг лесазавода № 1 Бабруйскага лесакамбіната т. Гладышаў Ефрэм са старшым піластаўам т. Прыведзенцам Лукой перакрылі апошні рэкорд т. Рушко і ўстанавілі новы ўсесаюзны рэкорд лесапілення, даўшы на раме № 4-5 сістэмы «Боліндэр» за змену распілоўкі 523,205 кубаметра лесаматар'ялу.

А 16 снежня рамшчыкі віцебскага лесазавода імя «Праўды»— тт. Смольскі і Капышка—перакрылі нормы Гладышава і ўстанавілі новы ўсесаюзны і сусветны рэкорд. Стаханавец Смольскі за 7 гадзін распілаваў 552,58 кубаметра, Капышка—538,16 кубаметра.

Рабочы-стаханавец аршанскага вагонарамонтнага завода комсамолец Гольфанд Іосіф 23 лістапада дабіўся рэкорднай выпрацоўкі— замест 34 утулак выпусціў 200, або 588% дзеннай нормы.

Работніца-стаханаўка віцебскай швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» т. Семянідава пасля прапрацоўкі прамовы тав. Сталіна давяла выпрацоўку на машыне «Рэйс» да 242% дзеннага задання, на 25% абагнаўшы амерыканскія нормы выпрацоўкі, а 30 лістапада ўстанавіла новы рэкорд—336 паліто за змену, або 288% планавага задання.

Стаханавец загатоўчага цэха менскага завода «Ударнік» т. Лемеш, сістэматычна павышаючы прадукцыйнасць працы, у першыя дні лістапада дабіўся рэкорднай выпрацоўкі—340% нормы.

Стаханаўскія метады работы сталі набыткам мас. Натхнёныя гістарычнай прамовай правадыра партыі і ўсіх працоўных тав. Сталіна, перадавыя рабочыя БССР, разам з перадавымі рабочымі ўсяго Савецкага саюза, паказваюць узоры вытворчага гераізму і адданасці да канца справе соцыялістычнага будаўніцтва. Следам за перадавымі рабочымі-стаханаўцамі ўключаюцца ў соцспаборніцтва і астатнія масы працоўных.

У адказ на прамову тав. Сталіна цэлыя калектывы рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў раду фабрык і заводаў даюць партыі і ўраду абавязацельствы аб датэрміновым выкананні плана, аб выпуску да канца гэтага года значнай колькасці звышпланавай прадукцыі, высоўваюць сустрэчныя планы і лозунгі аб выкананні другой пяцігодкі ў чатыры гады.

Прамысловасць БССР у барацьбе за выкананне лозунга тав. Сталіна аб выкарыстанні тэхнікі да дна, на аснове шырокага разгортвання стаханаўскага руху датэрмінова выканала промфінплан за 1935 год—к 12 снежня.

Ад разгортвання стаханаўскага руху ў прамысловасці не адстае і соцыялістычная сельская гаспадарка.

Тав. Сталін у сваёй прамове на прыёме калгасніц-ударніц бурачных палёў сказаў, што калгасны лад стварыў умовы для праяўлення гераізму і творчай ініцыятывы калгаснага сялянства:

> «Толькі калгаснае жыццё магло зрабіць працу справай гонару, толькі яно магло парадзіць сапраўдных гераінь-жанчын у вёсцы».

Гэтыя словы правадыра з выключнаю сілай паказваюць той адзіны шлях для працоўнай жанчыны-сялянкі, які даў ёй вызваленне ад спрадвечнай кабалы і прыгнечання, які забяспечвае культурнае і заможнае жыццё.

Толькі савецкі лад, калгасная вёска пад кіраўніцтвам партыі і вялікага Сталіна вырошчвае з самай гушчы народу, калгасных мас гераінь-жанчын, лік якіх з кожным днём павялічваецца.

У ордэнаноснай БССР не мала такіх жанчын. На нарадзе перадавых калгасніц-ільнатрапальшчыц з членамі ўрада БССР і ЦК КП(б)Б перадавыя жанчыны савецкай Беларусі дакладвалі аб тым, як яны

выконваюць дырэктывы партыі і ўрада, як пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало ідуць да заможнага культурнага жыцця, як энтузіясты калгаснай вёскі сваімі гераічнымі справамі, сваёй ударнай работай будуюць новае, светлае жыццё.

Ільнатрапальшчыца т. Перцова П. Н. (калгас «Віцебскі пролетарый», Лёзненскага раёна) з кожным днём павялічвае сваю выпрацоўку, пакідаючы далёка ззаду ўсе ўстаноўленыя раней нормы. 14 лістапада яна вытрапала 36 кгр. ільнавалакна, 16-га—40,6 кгр., 18-га—42,2 кгр., а пасля прапрацоўкі прамовы тав. Сталіна давяла выпрацоўку да 56,3 кгр. ільнавалакна нумарам 9 і 10.

Тт. Гайдукова і Марцынкевіч (калгас «Ляхавічы», Лепельскага раёна), пасля прапрацоўкі прамовы т. Сталіна натрапалі за дзень: Гайдукова—44 кгр. і Марцынкевіч—43 кгр. ільнавалакна нумарам 9 і 10.

Стаханаўка т. Кермашук Антаніна (калгас «Звязда», Заслаўскага раёна) за дзень натрапала ўручную 63 кгр. ільнавалакна, а т. Гаваркова Наста (калгас «Перамога», Шклоўскага раёна)—68 кгр. ільнавалакна № 14.

Лепшая ільнатрапальшчыца Віцебскага раёна калгасніца Марыя Дзяжурная 28 лістапада ручным спосабам апрацавала за змену 50,2 кгр. ільнавалакна якасцю 9 і 10. Але і гэта норма для Марыі Дзяжурнай—не мяжа, і яна ўзяла на сябе абавязацельства павысіць выпрацоўку за змену да 60 кгр. ільнавалакна.

Першага снежня калгаснікі Фёдар Лысоў і Мацвей Якубенка (калгас «Молат», Вялікаляшчынскага с.-с., Віцебскага раёна) устанавілі новы ўсебеларускі рэкорд ручной апрацоўкі лёну. Фёдар Лысоў натрапаў за змену 72 кгр. ільнавалакна, Мацвей Якубенка—68 кгр.

Рашэннем урада БССР лепшыя калгасніцы-ўдарніцы ільнатрапальшчыцы, гераіні высокай прадукцыйнасці працы—тт. **Пярцова** Праскоўя, **Гайдукова** Ганна, **Марцынкевіч** Матрона, **Кермашук** Антаніна, **Гаваркова** Анастасія, **Дзяжурная** Марыя і рад інш. узнагароджаны ганаровай граматай ЦВК БССР і каштоўнымі падарункамі—швейнымі машынамі, гадзіннікамі і патэфонамі.

Стаханаўскі рух у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы з кожным днём набывае ўсё больш шырокі размах.

Усё гэта лішні раз даказвае, што ў соцыялістычных формах і метадах арганізацыі працы і вытворчасці закладзены агромныя рэзервы вытворчага энтузіязму, невычарпальныя магчымасці ўздыму прадукцыйнасці працы.

* * *

Стаханаўскі рух шырыцца з кожным днём, ахапляючы ўсё новыя і новыя групы працоўных нашай краіны. Задача партыйных, профсаюзных арганізацый, заводакіраўніцтваў, зямельных органаў і праўленняў калгасаў—забяспечыць арганізацыйным і практычным абслугоўваннем, максімальна садзейнічаць і арганізоўваць пашырэнне стаханаўскага руху, ліквідуючы ўсе перашкоды і тормазы на яго шляху.

Тав. Сталін у сваёй прамове на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў указаў:

> «Задача заключаецца ў тым, каб дапамагчы стаханаўцам разгарнуць далей стаханаўскі рух і распаўсюдзіць яго ўшыр і

ўглыб на ўсе абласці і раёны СССР. Гэта—з аднаго боку. І з другога боку—абуздаць усе тыя элементы з гаспадарчых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія ўпарта чапляюцца за старое, не хочуць ісці ўперад і сістэматычна тармозяць разгортванне стаханаўскага руху».

У гэтых словах мудрага правадыра—цэлая праграма далейшага разгортвання стаханаўскага руху, як новага, больш высокага этапу соцыялістычнага спаборніцтва. Штодзеннае выкананне гэтых указанняў тав. Сталіна з'яўляецца непасрэднай задачай усіх партыйных, профсаюзных, гаспадарчых арганізацый і заводакіраўніцтваў.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, трэстаў, гаспадарчых наркаматаў, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі павінны цвёрда засвоіць, што стаханаўскі рух паставіў перад імі задачу карэннай перабудовы ўсёй работы па кіраўніцтву прадпрыемствамі. Стаханаўскі рух, які пачынае ахапляць цэлыя групы рабочых, цэлыя цэхі і прадпрыемствы, патрабуе арганізацыі не толькі рабочага месца кожнага стаханаўца, а ўсяго завода, цэха, канвеера так, каб арганізацыйныя непаладкі не з'яўляліся прычынай зрыву і тормазам работы стаханаўцаў.

Арганізацыя добраякаснага рамонту абсталявання, машын і станкоў, бесперабойнае снабжэнне сыравінай і дапаможным матар'ялам, своечасовае прасоўванне поўфабрыкатаў ад станка к станку, з цэху у цэх, своечасовая ўборка гатовай прадукцыі—усё гэта задачы арганізацыі працы, якія зараз стаяць перад намі зусім па-новаму, улічваючы ўзросшую прадукцыйнасць працы стаханаўцаў.

Стаханаўскі рух настойліва патрабуе таго, каб на кожным прадпрыемстве, цэху, змене і станку поўнасцю была ліквідавана абязлічка і ўраўнілаўка. Снабжэнне ўсім неабходным для працэса вытворчасці матар'ялам павінна быць пастаўлена так, каб людзі-стаханаўцы і машыны маглі працаваць бесперабойна.

Трэба прама сказаць, што ў нас усё яшчэ мала зроблена для паспяховага разгортвання стаханаўскага руху на ўсіх прадпрыемствах БССР.

Да нас у поўнай меры адносіцца ўказанне тав. Сталіна на тое, што, акрамя Донбаса, Маскоўскай і Ленінградскай абласцей, астатнія адстаюць у разгортванні стаханаўскага руху, што яны, як відаць, усё яшчэ «раскачваюцца». Не ўсе гаспадарнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў і паасобныя партыйныя арганізацыі адразу па-дзелавому пераключыліся на арганізацыю стаханаўскага руху. У паасобных выпадках яны не толькі не дапамаглі, а нават імкнуліся перашкодзіць, апошліць стаханаўскі рух.

На паасобных прадпрыемствах стаханаўцы не атрымліваюць сапраўднай дапамогі, бо некаторыя кіраўнікі лічаць за лепшае займацца толькі разважаннямі аб стаханаўскім руху, чым канкрэтнай яго арганізацыяй.

Стаханавец менскай швейнай фабрыкі імя 8 сакавіка т. Еўдакімчык, які дае 260% нормы выпрацоўкі, гаворыць: «Адміністрацыя фабрыкі наладжвае многа сходаў, злётаў, паседжанняў, але аб тым, што ў мяне на электрамашыне няма штэпсалёў,—не клапоціцца».

Стаханавец такарнага цэха з-да «Варашылава» тав. Хаткоўскі, які штодня дае 250—300 проц. нормы, 23 кастрычніка меў цэлы дзень прастою, бо планавы аддзел, узначальваемы тав. Каганам, не падрых-

таваў яму работы. Тав. Хаткоўскаму падносяць работу без чарцяжоў і тэхнічных разлікаў. Прыходзіцца затрачваць па 3 гадзіны на работу, якая павінна быць зроблена іншымі.

Стаханавец тав. Карбановіч, які працуе на 3-х фрэзерных станках і выконвае 250—260 проц. нормы ў дзень, 29 кастрычніка меў 40 мінут прастою з-за таго, што кантрольны аддзел не патурбаваўся своечасова прыняць ад стругальшчыкаў рэйкі для прадольна-фрэзернага станка. Гатовая прадукцыя па некалькі дзён ляжыць каля станка тав. Карбановіча, бо своечасова не выдаюцца нарады.

У зборачным цэху завода «Ударнік» па-стаханаўску працуюць тт. Якушаў, Барткевіч і іншыя. Тав. Якушаў абслугоўвае два варштаты замест аднаго, што дае магчымасць свідраваць планкі для двух ваг адразу і збіраць 23 вагі ў дзень замест 10 па норме. Тав. Барткевіч, працуючы на 3-х варштатах, дае 22 вагі замест 13 па норме. Гэтыя стаханаўцы заяўляюць: «Мы далі-б значна больш, калі-б не страцілі так многа часу на пошукі планак і розных іншых дэталей». 1 лістапада т. Якушаў прастаяў 45 мінут, не лічачы часу, затрачанага ім на падноску дэталей.

У брыгадзе па зборцы бязменаў працуюць стаханаўцы тт. Беляўскі, Красільшчык і Гарэлік. Яны змянілі метады работы і выконваюць норму на 250 проц. пры выдатнай якасці прадукцыі. Але гэтым лепшым стаханаўцам начальнік цэха Агінец своечасова не прадаставіў шкальныя гіры, падушачкі і т. п., і ім прышлося пераключыцца на іншую работу.

Апашленне і тармажэнне стаханаўскага руху на некаторых прадпрыемствах Беларусі гаворыць аб тым, што частка кіраўнікоў прамысловасці замест канкрэтнай дапамогі стаханаўцам і папулярызацыі іх работы займаюцца пустазвонствам і шуміхай.

Рэшткі класавага ворага, лодыры і рвачы ўсімі сіламі супраціўляюцца развіццю стаханаўскага руху, ставяць яму ўсялякія рагаткі. Кожная вылазка класава-чуждых элементаў, кожная спроба затармазіць работу стаханаўца павінна адразу-ж сустрэць рашучы адпор. Стаханаўцаў мы павінны акружыць клопатамі і ўвагай, ведаць, як і ў якіх умовах жыве кожны рэвалюцыянер вытворчасці. Партыйная, гаспадарчая, профсаюзная і камсамольская арганізацыі абавязаны чула адносіцца да запатрабаванняў жывога чалавека.

Чужакам, прабраўшымся на Магілеўскую шоўкавую фабрыку, не да густу прышлася работа стаханаўцаў. Бракаўшчык Шнеерсон—сын рабіна, былога буйнага прамыслоўца—аб'яднаў вакол сябе групу аднадумцаў бракаробаў, лодыраў, жулікаў і сімулянтаў з мэтай дыскрэдытаваць стаханаўцаў.

Усім памятны здзекі бюракратаў над стаханаўцам тав. Розенбергам. Тав. Розенберг жыў у дрэннай кватэры, якая пагражала абвалам. Лепшага стаханаўца фабрыкі новай кватэрай забяспечыць не маглі і толькі пасля таго, як ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало прынялі рашучыя меры, т. Розенберг атрымаў добрую кватэру.

Партыйныя, профсаюзныя і камсамольскія арганізацыі павінны яшчэ больш узняць класавую пільнасць, па-большэвіцку змагацца з усімі рагаткамі, якія ставіць на шляху стаханаўскага руху недабіты класавы вораг і яго агентура, паставіць стаханаўскі рух у цэнтр сваёй увагі.

* * *

Прамова тав. Сталіна на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак з'яўляецца праграмай далейшага, яшчэ больш бурнага ўздыму ўсёй соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Тав. Сталін паставіў задачу: на працягу бліжэйшых трох-чатырох год соцыялістычныя палі павінны даць 7—8 мільярдаў пудоў зернавых культур, замест сабраных у гэтым годзе 5½ мільярдаў пудоў.

Зернавая культура з'яўляецца тым асноўным і галоўным звяном, якое вырашае задачу ўздыму вытворчасці ўсіх астатніх галін сельскай гаспадаркі і забяспечвае ўсё ўзрастаючую патрэбнасць у хлебе.

Перадавыя калгаснікі і калгасніцы, як у прамысловасці стаханаўцы, даказалі на практыцы, што можна атрымаць значна больш высокі ўраджай, чым гэта ўстаноўлена нормамі. Лепшыя калгасніцы—пяцісотніцы Украіны на справе разбілі старыя нормы ўраджайнасці цукровых буракоў. Пры сярэдняй ураджайнасці па рэспубліцы ў 135—150 цэнтнераў з га, яны дабіліся ўраджаю ў 500 і больш цэнтнераў з га.

І ў БССР мы маем не мала калгасаў і калгасных брыгад якія, дзякуючы добрасумленнай працы, атрымалі са сваіх участкаў ураджай зернавых і іншых культур значна большы, чым сярэдні рэспубліканскі.

Натхнёныя прамовай правадыра, калгаснікі прымаюць на сябе канкрэтныя абавязацельствы па далейшаму ўздыму ўраджайнасці калгасных палёў.

Так, калгас імя Чарвякова паставіў перад сабой задачу дабіцца ў 1936 годзе з кожнага га не менш 250 цэнт. бульбы, 500 цэнт. буракоў і 16,5 цэнт. зернавых. Калгас «Маяк соцыялізма» (Барысаўскі раён) узяў на сябе абавязацельства ўзняць у 1936 годзе ўраджайнасць з гектара пшаніцы і ячменю да 25 цэнт., аўса да 20 цэнт., бульбы да 250 цэнт. Трактарыст першай менскай МТС Алесь Будай, які на трактары ЧТЗ выпрацаваў за сезон гэтага года 1219 га, бярэ на сябе абавязацельства даць у 1936 г. не менш 1500 га за сезон.

Падобныя абавязацельствы прымаюць на сябе і рад іншых калгасаў, калгасныя брыгады і трактарысты.

Задача раённых партыйных арганізацый, МТС і палітаддзелаў соўгасаў—узначаліць гэты творчы энтузіязм шырокіх мас калгаснікаў і рабочых соўгасаў, забяспечыць прапрацоўку прамовы правадыра ва ўсіх соўгасах, калгасах, МТС, накіроўваючы творчую ініцыятыву на большэвіцкую падрыхтоўку да вясенняй пасеўнай кампаніі і выкананне задач, пастаўленых тав. Сталіным перад соцыялістычнай сельскай гаспадаркай.

Стаханаўскі рух паступова разрастаецца ў рух мас, у рух мільёнаў, да канца адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва. «Ён заклікан зрабіць у нашай прамысловасці рэволюцыю». Гэтыя словы геніяльнага правадыра—тав. Сталіна—ускрываюць увесь глыбокі сэнс, які мае стаханаўскі рух для далейшай арганізацыі ўсёй нашай вытворчасці і соцыялістычнага будаўніцтва.

У прамовах тав. Сталіна—на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў і перадавых камбайнераў і камбайнерак—з выключнаю сілай

вызначаны тыя задачы, якія стаяць перад намі на даным этапе. Гэтыя прамовы павінны стаць праграмай штодзеннай работы ўсіх партыйных, савецкіх, прафсаюзных і гаспадарчых арганізацый.

* * *

Тав. Сталін у сваёй прамове з выключнай яснасцю і глыбінёю ўскрыў тыя карэнні і прычыны, што парадзілі магутны ўздым вытворчага энтузіязму, які выразіўся ў стаханаўскім руху, і паказаў яго выключна вялікае значэнне для далейшага соцыялістычнага будаўніцтва:

> «Стаханаўскі рух... змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа..., ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай.
>
> ...Ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму».

Пераход ад соцыялізма к комунізму адбываецца на базе далейшага, яшчэ больш высокага ўздыму вытворчых сіл і прадукцыйнасці працы, стварэння агромнага багацця прадукцыі, усебаковага развіцця чалавека соцыялістычнага грамадства.

> «Прынцып соцыялізма заключаецца ў тым, што ў соцыялістычным грамадстве кожны працуе па сваіх здольнасцях і атрымлівае прадметы спажывання не па сваіх патрэбнасцях, а па той рабоце, якую ён зрабіў для грамадства.
>
> ...Прынцып комунізма заключаецца ў тым, што ў комуністычным грамадстве кожны працуе па сваіх здольнасцях і атрымлівае прадметы спажывання не па той рабоце, якую ён зрабіў, а па тых патрэбнасцях культурна-развітага чалавека, якія ў яго ёсць» **(Сталін).**

Стаханаўскі рух за высокую прадукцыйнасць працы, узнікшы на аснове створанай пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікага Сталіна новай вышэйшай тэхнікі, у спалучэнні з новымі сталінскімі кадрамі, аўладаўшымі гэтай тэхнікай, падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму, як вышэйшай стадыі бяскласавага грамадства.

Перамога соцыялізма над капіталізмам абумоўлена тым, што соцыялізм:

> «можа даць больш высокія ўзоры працы, больш высокую прадукцыйнасць працы, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі..., што ён можа даць грамадству больш прадуктаў і можа зрабіць грамадства больш багатым, чым капіталістычная сістэма гаспадаркі» **(Сталін).**

Стаханаўскі рух паказвае шлях знішчэння процілегласці паміж фізічнай і разумовай працай, уздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа, паказвае шлях росту матар'яльных багаццяў соцыялістычнага грамадства, росту прадукцыйнасці працы, якая неабходна для пераходу ад соцыялізма к комунізму.

Прамова тав. Сталіна—агромнай сусветна-гістарычнай важнасці палітычны і тэарэтычны дакумент марксізма-ленінізма сталінскай эпохі. Так сама, як Ленін у перыяд арганізацыі першых советаў убачыў зародак новай формы дзяржаўнай улады—дыктатуры пролетарыята, так тав. Сталін у стаханаўскім руху ўгледзеў зародак тых новых працэсаў і зрухаў, што адбываюцца ў нашай краіне і забяспечваюць пераход ад социялізма к комунізму. Геній Сталіна дае пролетарыяту новую перспектыву, паказвае шлях для вырашэння сусветна-гістарычнай задачы—пабудовы комуністычнага грамадства.

Безупынна змагаючыся за ажыццяўленне ўказанняў тав. Сталіна, рухаючы наперад стаханаўскі рух, развіваючы творчую энергію працоўных мас нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, на аснове вялікай дружбы і брацтва паміж яе народамі, забяспечым новыя сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма над капіталізмам ва ўсім свеце.

---

**В. Чэрнышоў**

**Сакратар бабруйскага РК КП(б)Б.**

Слаўнай традыцыяй нашай большэвіцкай партыі заўсёды з'яўлялася і з'яўляецца тое велізарнае значэнне, якое яна, пад кіраўніцтвам сваіх вялікіх правадыроў і настаўнікаў—Леніна і Сталіна, надавала і надае пытанням арганізацыі, выхавання і большэвіцкай загартоўкі сваіх членаў.

Ленін яшчэ напярэдадні рэволюцыі 1905 года пісаў:

> «У пролетарыята няма іншай зброі ў барацьбе за ўладу, акрамя арганізацыі... Ідэйнае аб'яднанне яго прынцыпамі марксізма замацоўваецца матар'яльным адзінствам арганізацыі» *).

Ленін, громячы на II з'ездзе партыі арганізацыйны план меншавікоў і высоўваючы свой большэвіцкі арганізацыйны план, гаварыў:

> «Наша задача—ахоўваць цвёрдасць, вытрыманасць, чыстату нашай партыі. Мы павінны старацца ўзняць званне і значэнне члена партыі вышэй, вышэй і вышэй» **).

Ленін і Сталін асабіста займаліся крапатлівай арганізацыйнай работай, вывучалі склад арганізацыі, самі правяралі выдачу партдакументаў.

Тав. Сталін нас вучыць:

> «Партыя не ёсць толькі **перадавы** атрад рабочага класа. Калі яна хоча сапраўды кіраваць барацьбой класа, яна павінна быць разам з тым **арганізаваным** атрадам свайго класа» ***).

Яшчэ большае значэнне наша партыя і тав. Сталін надавалі і надаюць арганізацыйнаму ўмацаванню радоў партыі ва ўмовах перамогі дыктатуры пролетарыята, калі на падставе паспяховага ажыццяўлення другой пяцігодкі вырашаецца сусветна-гістарычнага значэння задача пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Таму XVII з'езд ВКП(б) папярэдзіў аб небяспецы адставання арганізацыйнага кіраўніцтва ад палітычнай лініі партыі.

Праверка партдакументаў, якая праводзіцца нашай партыяй па іні-

---

*) Збор. Тв. т. VI, стар. 328.

**) Там-жа, стар. 33.

***) Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 65.

цыятыве і ўказанням тав. Сталіна, павінна забяспечыць выгнанне да канца з радоў партыі прымазаўшыхся класава-чуждых элементаў і ўздым на вышэйшую ступень усёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Праводзячы праверку партдакументаў па бабруйскай партарганізацыі, мы ўлічвалі асаблівасці горада Бабруйска і раёна. Бабруйск да Окцябрскай рэволюцыі з'яўляўся павятовым гарадзішкам местачковага тыпу, дзе асноўным заняткам жыхароў быў гандаль і саматужныя рамёствы. Да Окцябрскай рэволюцыі была тут значная бундаўская арганізацыя, таксама разгортвалі сваю работу і іншыя контррэволюцыйныя нацыяналістычныя арганізацыі: паалей-цыён, сіяністы і т. п.

Бабруйскі раён у перыяд грамадзянскай вайны доўгі час знаходзіўся пад нямецкай, а потым і белапольскай акупацыямі. У Бабруйску існавалі контррэволюцыйныя арганізацыі, накшталт «Саюза афіцэраў», праводзілася вярбоўка добраахвотнікаў у белагвардзейскія банды.

Яшчэ з часу грамадзянскай вайны, дзякуючы прытупленню большэвіцкай пільнасці, на прадпрыемствы, ва ўстановы і нават у рады нашай партарганізацыі праніклі правакатары, дэзерціры і іншыя класава-чуждыя элементы. Прабраўшыся ў рады партыі, яны імкнуліся ва што-б там ні стала заняць адказныя пасады, каб палегчыць сваю контррэволюцыйную дзейнасць.

У перыяд барацьбы з контррэволюцыйнымі трацкістамі-зіноўеўцамі, у 1927 годзе, паасобныя партарганізацыі Бабруйска (швейнай ф-кі, дражджовага, фанернага заводаў і інш.) былі засмечаны, праўда, у нязначнай частцы, трацкісцкімі элементамі.

За час пасля грамадзянскай вайны, асабліва ў выніку паспяховага ажыццяўлення першай сталінскай пяцігодкі і пачатку другой, Бабруйск ператварыўся ў адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў БССР. Тут пабудаваны буйнейшы ў СССР дрэваапрацоўчы камбінат імя 10 гадавіны Окцябрскай рэволюцыі, фанерны завод імя Кірава, будуецца буйнейшы гідролізны завод.

Прамысловы рост горада прывёў к росту рабочага класа і значнаму ўмацаванню партарганізацыі, якая па свайму складу з'яўляецца рабочай і мае слаўныя традыцыі гераічнай падпольнай работы ў перыяд грамадзянскай вайны, у час нямецкай і белапольскай акупацый.

Праверка партдакументаў стала стрыжнем усёй работы як райкома партыі, так і кожнай пярвічнай партарганізацыі за апошнія шэсць месяцаў. За гэты час было выкрыта і выключана з радоў партыі многа класава-чуждых элементаў.

Сярод выключаных былі трацкісцкія двурушнікі (Дагора, Гайсенко і інш.), якія імкнуліся ўсімі спосабамі акапацца ў радах нашай партыйнай арганізацыі; былі правакатары, якія «верай і праўдай» служылі польскай дэфензіве і ў час белапольскай акупацыі прэдавалі нашых падпольных работнікаў; былі белагвардзейцы, якія арганізоўвалі белагвардзейскі рух.

У час праверкі партдакументаў выяўлена 218 комуністаў, прынятых у партыю без зацверджання бюро райкома (на лесакамбінаце—72 чал., на швейнай фабрыцы імя Дзержынскага—21 чал.). Усе яны былі прапушчаны праз абгаварэнне на сходах пярвічных партарганізацый, а потым пытанне аб іх вырашалася на бюро райкома партыі.

У выніку праверкі партдакументаў значна палепшылася паста-

ноўка ўліку комуністаў як у самім райкоме, так і ў пярвічных арганізацыях. У райкоме ўлік вядзе першы сакратар, у пярвічных партарганізацыях—сакратар парткома або парторг. Яны-ж збіраюць і членскія ўзносы.

Значна ажывілася партыйная работа, нязмерна ўзнялася бальшэвіцкая пільнасць, насцярожанасць і ўсведамленне адказнасці кожнага члена і кандыдата партыі за даручаную работу.

За перыяд праверкі партдакументаў высунуўся новы актыў, да 200 чалавек, якога мы раней не заўважвалі. Гэты актыў унёс новы, свежы струмень ва ўсю работу. Тав. Мінкіна—радавая работніца фабрыкі «Чырвоны харчавік»—вылучана сакратаром парткома мэблевай фабрыкі імя Халтурына. Тав. Гейфман—член партыі з 1932 года, рэдактар шматтыражкі швейнай фабрыкі імя Дзержынскага—вылучана зараз сакратаром парткома. Тав. Зінькевіч—рабочы шклозавода імя Комінтэрна—вылучан старшынёю заўкома, і т. д. Усе яны нядрэнна спраўляюцца з работай.

Для павышэння ведаў і абмену вопытам гэтага нававылучанага на партработу актыва праведзены чатырохдзенныя курсы парторгаў, разгорнута сістэматычная работа комвуза. Пры райкоме створан рэзерв актыва з 20 комуністаў.

Значна выраслі таварышы, якія працуюць на кіруючай рабоце ў пярвічных партарганізацыях.

Тав. Шміт, нядаўна вылучаны сакратаром парткома фанернага завода імя Кірава, хутка арыентуецца ў сваёй рабоце, добра звязаўся з партмасай, кіруе кандыдацкаю школай. Рад комуністаў, раней пасіўных, вылучаны на адказную работу, нават парторгамі (Дворкін, Царык, Балотнікаў). Тав. Заяц раней была адною з самых пасіўных, а зараз нядрэнна кіруе мопраўскай арганізацыяй. Тав. Чарнабродава—парторг арцелі імя Крупскай, член партыі з 1929 года—наладзіла партвучобу. Комуністы пачалі сістэматычна чытаць газеты, рэгулярна праводзіць паліт'інфармацыі сярод рабочых, закупілі хатнія бібліятэчкі.

Праверкай было ўстаноўлена, што значная колькасць комуністаў, у тым ліку і сярод партактыва, мае зусім слабы ўзровень палітычных ведаў, што няправільна ўкамплектавана сетка партасветы. У вячэрні комвуз і вячэрнюю соўпартшколу накіроўваліся таварышы не па ўзроўню ведаў, а па займаемай рабоце. Пры праверцы партдакументаў поўнасцю выяўлен палітычны ўзровень кожнага комуніста, што яшчэ больш мабілізавала іх на партвучобу.

Абследванне работы раду партшкол і гурткоў паказала значны рост палітычнага ўзроўню, бальшэвіцкай загартаванасці комуністаў, палепшанне якасці вучобы. Слухачы кандыдацкай школы фанерзавода імя Кірава (прапагандыст тав. Шміт) засвоілі статут і прыступілі да прапрацоўкі праграмы партыі. Нядрэнна вучыцца і выконвае партнагрузкі Іванова Антаніна, кандыдат партыі з 1932 года, якая нядаўна скончыла лікбез. Таксама выраслі слухачы Родава, Тішкова і інш.

У рабоце школ ёсць і адмоўныя моманты. Бюро райкома нядаўна зняла з работы прапагандыста т. Сіманава (інжынер, член партыі з 1925 года), які з'явіўся на заняткі непадрыхтаваным і дапусціў рад грубых палітычных скажэнняў.

Акрамя сістэматычнага заслухоўвання дакладаў аб партвучобе паасобных комуністаў, сакратары парткома, парторгі, работнікі рай-

кома, практыкуюць наведванне школ, гурткоў, заходзяць на кватэры да слухачоў і правяраюць, як яны рыхтуюцца да чарговых заняткаў. Толькі за апошнія два тыдні члены бюро РК наведалі вячэрні комвуз, вячэрнюю соўпартшколу, рад кандыдацкіх школ і комсамольскіх гурткоў. Такія наведванні звычайна не праходзяць дарма. У рэзультаце іх пастаўлен рад пытанняў: аб змене выкладчыка новай гісторыі ў вячэрнім комвузе, аб палепшанні работы буфета і т. п.

Пачынаем практыкаваць выклікі паасобных прапагандыстаў на бюро райкома для праверкі падрыхтаванасці іх да чарговых заняткаў. Ужо абгавораны даклады прапагандыста гуртка па гісторыі партыі тав. Кунцэвіча і прапагандыста школы спачуваючых хлебазавода тав. Струпінскага.

Шырока праводзіцца наведванне комуністаў напярэдадні заняткаў. Сакратары парткома і прапагандысты правяраюць іх падрыхтаванасць і дапамагаюць у вучобе.

Тав. Гейфман—сакратар парткома швейнай фабрыкі імя Дзержынскага—наведала кандыдата партыі т. Курсакаву, якая вельмі слаба паспявала, дапамагла ёй у вучобе, у складанні канспекта, і зараз Курсакава мае добрую паспяховасць.

Прапагандыст гэтай-жа фабрыкі т. Брайман сістэматычна правярае падрыхтаванасць слухачоў школы спачуваючых. Так, ён звярнуў увагу на адставанне ў вучобе кандыдата партыі т. Салавейчык, праверыў яго работу дома, некалькі раз дапамог працаваць над кнігай, складаць канспекты. У выніку Салавейчык добра вучыцца, засвоіў матар'ялы VII кангрэса Комінтэрна і нават правёў у цэху гутарку на гэтую тэму. Пераведзены за палітычную нягараматнасць з членаў у кандыдаты ў 1933 г. т. Салавейчык падрыхтаваўся ўжо для ўступлення ў члены партыі.

Тав. Званковіч—член партыі з 1930 года, ударнік-выдатнік—працуе на будаўніцтве гідролізнага завода арматуршчыкам. У партарганізацыі т. Званковіч быў пасіўным, у грамадскім жыцці ўдзелу не прымаў, як комуніст на вытворчасці не адчуваўся. Пасля-ж таго, як сакратар парткома правёў з ім рад гутарак, т. Званковіч уцягнуўся ў актыўную работу партарганізацыі і ў партвучобу.

Пры праверцы партдакументаў было ўстаноўлена, што член партыі з 1928 года Гушча А. М. і член партыі з 1925 г. Кацнельсон С. Я. з'яўляюцца азбучна-нягараматнымі. У вывадах бюро райкома ўказала на неабходнасць ліквідаваць нягараматнасць гэтых комуністаў і прапанавала пярвічнай партарганізацыі аказаць ім у гэтым неабходную дапамогу. У лістападзе бюро райкома праверыла, як выконваецца гэта пастанова. Аказалася, што ў выніку ўпартай работы над сабой Гушча і Кацнельсон навучыліся чытаць і пісаць. Тав. Кацнельсон, каб даказаць сваё ўменне пісаць, прыслаў у бюро райкома заяву.

На 1 мая партарганізацыя налічвала 55 прапагандыстаў. За час май-лістапад адхілена ад прапагандысцкай работы 3 чал., выбыла з партарганізацыі 6 чал. і выяўлена за перыяд праверкі партдакументаў 35 таварышоў, якія могуць быць выкарыстаны на прапагандысцкай рабоце.

За летні перыяд усімі відамі курсавой перападрыхтоўкі былі ахоплены 71 прапагандыст, у тым ліку для комсамола—39. Паспяхова скончыўшыя курсы прыцягваюцца да прапагандысцкай работы.

Для сістэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў арганізаваны 3 семінары прыстасоўна да паасобных відаў школ і гурткоў. На семі-

нарах прапагандысты рыхтуюцца да чарговай тэмы і слухаюць лекцыі па метадычных пытаннях. Пры доме партактыва і партгабінеце арганізавана для іх кансультацыя.

Прапагандысты сістэматычна інфармуюцца па важнейшых пытаннях. Праведзены інфармацыі па прамове тав. Сталіна на злёце стаханаўцаў, па італа-абісінскай вайне, па выніках усебеларускай нарады культпропаў.

Пры райкоме партыі створан актыў прапагандыстаў і агітатараў з 13 аўтарытэтных і падрыхтаваных таварышоў, сярод якіх 4 членаў бюро РК і 1 член РК. Актыў гэты шырока выкарыстоўваўся ў якасці прадстаўнікоў на праверачных занятках школ і гурткоў, у камісіях па ўкамплектаванню школ, для масавай прапаганды выступленняў тав. Сталіна на прыёме пяцісоценніц і злёце стаханаўцаў і т. д.

Гістарычная прамова тав. Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў выклікала масавае разгортванне стаханаўскага руху на ўсіх прадпрыемствах Бабруйскага раёна. Зараз у нас у радах стаханаўцаў 1100 чалавек. Пярвічныя партыйныя арганізацыі паказалі сваю вядучую ролю ў справе разгортвання і кіраўніцтва стаханаўскім рухам.

Гэта можна бачыць з такіх прыкладаў:

У першым цэху Лесакамбіната спачатку вельмі марудна разгортваўся стаханаўскі рух, на рама-змену прыпадала распілоўкі 100—110 кубаметраў лесаматар'ялу, што складала 100—110% плана. Толькі пасля таго, як парторг цэха тав. Гладышаў разам з комуністамі—начальнікам цэха т. Вольфсонам і рамшчыкам т. Буднік—паказалі асабісты прыклад, даўшы за змену 145 кубаметраў, хваля стаханаўскага руху пачала ўзнімацца. Ужо на другі дзень гэтую норму перакрылі іншыя рамшчыкі, а яшчэ праз некалькі дзён тт. Гладышаў, Вольфсон і Буднік распілавалі 201 кубаметр лесаматар'ялу.

Зараз у гэтым цэху рамшчык Рыгор Рушко—адзін з лепшых стаханаўцаў—спаборнічае з рамшчыкам архангельскага лесазавода т. Мусінскім. Спаборніцтва праходзіць паспяхова. Спачатку т. Рушко даў 320 кубаметраў, перакрыўшы ўсесаюзны рэкорд т. Мусінскага (313 кубаметраў), а ў апошні час—349,7 кубаметра, перакрыўшы апошні рэкорд т. Мусінскага (336 кубаметраў). Рамшчыкі-комуністы, тт. Міхолап і Іваноў, перакрыўшы першы рэкорд т. Рушко, паставілі пытанне аб выкананні Лесакамбінатам другога пяцігадовага плана ў чатыры гады.

У разгортванні стаханаўскага руху па іншых прадпрыемствах асабісты прыклад падаюць комуністы тт. Плоткін, Рычко, Гецова (мэблевая фабрыка імя Халтурына), Іткін, Кускін (будаўніцтва гідролізнага завода), Казлоў, Рудштэйн (фанерзавод імя Кірава), Міхалёнак (шклозавод імя Комінтэрна).

Лепшыя стаханаўцы тт. Рушко, Адзінцоў, Навіцкі (Лесакамбінат), Сарокіна Марголін (швейная фабрыка імя Дзержынскага), Кацнельсон, Новікаў (фанерзавод імя Кірава) і рад іншых уступаюць у групу спачуваючых.

Стаханаўскі рух, павышаючы прадукцыйнасць працы, даў магчымасць большасці прадпрыемстваў і ўсяму раёну ў цэлым датэрмінова, на 1 месяц і 10 дзён, закончыць гадавую вытворчую праграму. К канцу гаспадарчага года раён дасць прамысловай прадукцыі на 10 мільёнаў рублёў звыш плана.

На радзе прадпрыемстваў пачынае разгортвацца вучоба стаханаў-

цаў. На швейнай фабрыцы імя Дзержынскага, на фанерзаводзе імя Кірава, на Лесакамбінаце працуюць гурткі па павышэнню агульнай асветы стаханаўцаў. На фанерзаводзе імя Кірава арганізавалі індывідуальную падрыхтоўку ў вышэйшыя навучальныя ўстановы лепшых стаханаўцаў тт. Цэйтліна, Плоткіна і Назарава. На швейнай фабрыцы імя Дзержынскага працуе гурток на 30 чалавек для павышэння культурна-тэхнічных ведаў стаханаўцаў.

Маладая спецыялістка Лесакамбіната комсамолка т. Галеснік узялася падрыхтаваць на тэхніка аднаго з лепшых стаханаўцаў стандартнага цэха т. Купрэева. Пачын т. Галеснік знаходзіць жывы водгук і на іншых прадпрыемствах горада.

* * *

У працэсе праверкі партдакументаў было выяўлена, што пярвічныя партарганізацыі недастаткова працуюць над павышэннем вытворчай кваліфікацыі комуністаў, занятых на дапаможных работах. На адным толькі Лесакамбінаце такіх комуністаў выяўлена 15 чалавек. Дырэкцыі і партарганізацыі было ўказана на неабходнасць падрыхтаваць гэтых таварышоў к пераводу з дапаможнай работы на кваліфікаваную. Цяпер для іх створан гурток, у якім грузчык т. Эсмановіч, конюх т. Муштукоў, чорнарабочыя тт. Каждан, Ніткевіч і інш. рыхтуюцца да кваліфікаванай работы і адначасова павышаюць свой агульна-адукацыйны ўзровень. Частка гэтых таварышоў ужо вылучана на кваліфікаваную работу. Напрыклад, чорнарабочы т. Рубін (лесцэх № 3) працуе зараз электра-зваршчыкам.

Аднак не ўсё яшчэ зроблена для паляпшання ўнутрыпартыйнай і палітыка-выхаваўчай работы і пастаноўкі яе на высокі ўзровень. Пэўнае ажыўленне ў гэтай рабоце—толькі першы крок.

Зараз неабходна з усёю сілай забяспечыць поўнае выкананне пастановы ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў па бабруйскай партарганізацыі, дабіцца далейшага ўздыму ўсёй унутрыпартыйнай і палітыка-выхаваўчай работы, павышэння класавай пільнасці, боездольнасці і ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, разгортвання сур'ёзнай работы па вырошчванню і вылучэнню новых большэвіцкіх кадраў у нашай партарганізацыі.

Поспехаў у правядзенні праверкі партдакументаў бабруйская партарганізацыя дасягнула на аснове выканання ўказанняў нашага вялікага т. Сталіна, пад непасрэдным і канкрэтным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало. Яшчэ мацней згуртаваўшы свае рады вакол сталінскага ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, безупынна ўзнімаючы сваю большэвіцкую пільнасць, бабруйская партарганізацыя пойдзе к далейшым перамогам у нашым социялістычным будаўніцтве.

К. Бангайціс

Сакратар добрушскага РК КП(б)Б

Праверка партыйных дакументаў і навядзенне большэвіцкага парадку ва ўсёй партыйнай гаспадарцы мае вялікае палітычнае значэнне. Сталінскі Цэнтральны Камітэт нашай партыі, дзякуючы выключнай большэвіцкай празарлівасці, своечасова паставіў гэту задачу перад усімі партыйнымі арганізацыямі.

Задача заключаецца ў тым, каб:

па-першае,—шляхам уважлівай праверкі сапраўднасці партыйных дакументаў выгнаць з партыі ўсякіх ворагаў, жулікаў і прахадзімцаў, пралезшых у яе рады з мэтай антыпартыйнай работы, разлажэння і падрыву знутры маналітнасці і боездольнасці нашай большэвіцкай партыі;

па-другое,—навесці парадак ва ўсёй партыйнай гаспадарцы, увесці ўзорнае хаванне партыйных дакументаў, ліквідаваць ратазейства і расхлябанасць, узняць дысцыпліну, пільнасць і большэвіцкую прынцыповасць комуністаў, каб у далейшым не даць магчымасці пранікнуць у рады партыі ўсякага роду чуждым элементам

і, па-трэцяе,—узняць партыйную работу ўсіх партыйных арганізацый, павысіць боездольнасць кожнага комуніста.

Справа праверкі партдакументаў—справа ўсёй партыйнай арганізацыі, усіх комуністаў. Шырокая і глыбокая большэвіцкая самакрытыка—галоўная і абавязковая ўмова паспяховага правядзення праверкі. Праверка партдакументаў—адно з сур'ёзнейшых палітычных мерапрыемстваў, накіраванае на ачыстку радоў партыі ад усіх класава-варожых і чуждых элементаў, на забеспячэнне яе маналітнасці, большэвіцкай вытрыманасці і боездольнасці.

Бюро добрушскага РК КП(б)Б і яго сакратар—аўтар гэтых радкоў—не зразумелі ў пачатку ўсёй палітычнай важнасці і складанасці справы праверкі партдакументаў, не мабілізавалі партарганізацыю на выкрываўчую работу, у выніку чаго ворагі і прахадзімцы былі пакінуты ў партыі, хоць праверка ў асноўным лічылася закончанай. І толькі дзякуючы глыбокаму і сапраўды большэвіцкаму падыходу Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б да пытання праверкі, нашы памылкі своечасова былі выпраўлены.

ЦК КП(б), сваім рашэннем ад 2/IX-35 года адмяніўшы першую праверку партдакументаў па добрушскай партарганізацыі, з усёй большэвіцкай праматой і прынцыповасцю ўскрыў сутнасць дапушчаных бюро добрушскага РК памылак у правядзенні праверкі і аба-

вязаў правесці паўторную прапрацоўку ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая і паўторную праверку партдакументаў.

ЦК КП(б)Б пры гэтым канстатаваў:

> «Сама праверка была праведзена з вялікай паспешнасцю і павярхоўна, у выніку чаго ўжо пасля праверкі партыйных дакументаў камісіяй ЦК былі выяўлены ў партыйных дакументах 110 комуністаў буйнейшыя дэфекты, па якіх сакратар РК тав. **Бангайціс** не толькі не правёў ніякага расследвання, але гэтыя дэфекты нават не былі ім ускрыты і ў актах было ўказана, што ў гэтых комуністаў дэфектаў не выяўлена».

ЦК КП(б)Б таксама зусім правільна і метка падкрэсліў:

> «Сакратар РК КП(б)Б тав. **Бангайціс** і бюро добрушскага РК не зразумелі палітычнай сутнасці праверкі, звёўшы ўсю работу па праверцы да тэхнічнай зверкі партдакументаў, у рэзультаце чаго быў змазан палітычны змест праверкі і партыйная арганізацыя не была мабілізавана на выкрыццё ворагаў партыі, жулікаў і чуждых партыі людзей».

Пастанова ЦК КП(б)Б па добрушскай партарганізацыі аб адмене першай праверкі і правядзенні паўторнай праверкі не толькі ўскрыла нашы памылкі, але і аказала велізарнейшую большэвіцкую дапамогу ўсёй добрушскай партыйнай арганізацыі і райкому партыі ў справе паспяховага правядзення паўторнай праверкі партдакументаў. Пастанова ЦК адчыніла нам, добрушскім партыйным работнікам, вочы на ўсю глыбіню нашай памылкі па праверцы і на выключную палітычную важнасць самой праверкі.

І сапраўды, як магло здарыцца, што мы правялі было праверку, а ўсіх чужакоў пакінулі ў партыі? Гэта магло здарыцца і здарылася толькі таму, што мы ў самым пачатку недааценілі і не прадумалі да канца вядомага ліста ЦК ВКП(б) аб праверцы, фармальна і павярхоўна яго ўспрынялі, а адсюль, як вынікі,—правялі па сутнасці фармальную і павярхоўную праверку або тэхнічную зверку партдакументаў.

Наша неразуменне ў пачатку ўсёй палітычнай сутнасці праверкі і допушчэнне памылак становіцца асабліва ясным у святле рэзультатаў паўторнай праверкі. Напрыклад, калі за час першай праверкі ў добрушскай партарганізацыі было выключана з партыі толькі 13 чалавек, то разам з паўторнай атрымалася 70 чалавек выключаных ворагаў, жулікаў, прахадзімцаў і ўсякіх разлажыўшыхся элементаў.

Правал першай праверкі побач з неразуменнем, спачатку яе, палітычнай сутнасці, паглыбіўся яшчэ і тым, што мы не ўлічылі асаблівасцей Добрушскага раёна.

Мы не зразумелі складанасці абстаноўкі, што стварылася ў выніку аб'яднання ў адзін раён трох частак, якія належалі раней да розных раёнаў (Гомельскі, Веткаўскі, Терахоўскі), і перш за ўсё асаблівасцей фабрыкі «Герой працы», частка рабочых якой яшчэ не парвала сувязі з сялянствам, а частка з перажыткамі дробна-буржуазнай псіхалогіі. Работа сялян (калгаснікаў і аднаасобнікаў) Добрушскага раёна мае адыходніцкі характар, большасць мужчын і частка жанчын заўсёды выходзіць на сезонныя работы. Усё гэта надае раёну рад асаблівасцей. У мінулым у Добрушы праяўляў сваю дзейнасць рад контррэволюцыйных элементаў: «Добруш для дабрушан», антысемітызм, эсэраўшчына, сямейнасць, кругавая парука і інш.

Карэнні ўсяго гэтага яшчэ і сёння канчаткова не вырваны. Антысовецкія элементы спрабуюць іх культываваць сярод больш адсталай часткі аднаасобнікаў, калгаснікаў і нават рабочых фабрыкі «Герой працы». Не заўсёды і не ўсе комуністы як фабрыкі, так і вёскі, былі вольны ад гэтых буржуазных і антысовецкіх перажыткаў. Больш таго, значная большасць выключаных з партыі ў час паўторнай праверкі прама падтрымлівала гэтыя па сутнасці контррэволюцыйныя і антысовецкія тэндэнцыі.

Усяго гэтага мы, добрушскія партработнікі, не зразумелі ў пачатку праверкі, чым паглыбілі яе правал.

Той факт, што з дапамогаю ЦК КП(б)Б мы выправілі дапушчаныя памылкі і правялі паўторную праверку так, што выгналі з партыі ворагаў і чуждыя элементы, значна ўзнялі і палепшылі ўсю партыйную работу, гэты факт гаворыць аб тым, што наша памылка выцякала не з нейкіх аб'ектыўных фактараў, а з палітычнай блізарукасці, з несур'ёзнага вывучэння і засваення важнейшай дырэктывы ЦК ВКП(б)—вядомага ліста аб праверцы, а таксама раду пастаноў ЦК аб ходзе праверкі па іншых партарганізацыях.

Асноўным і галоўным вывадам для нас павінна быць усведамленне неабходнасці самага сур'ёзнага, самага ўважлівага вывучэння і засваення, самай сур'ёзнай, глыбокай і актыўнай прапрацоўкі ўсіх пастаноў і дырэктыў нашай партыі сярод усіх комуністаў і праверкі выканання іх кожным, павышэння большэвіцкай пільнасці, неабходнасць разгортвання крытыкі і самакрытыкі. Вось галоўны ўрок, які абавязкова трэба ўлічыць. Інакш нямысліма правільнае, большэвіцкае ажыццяўленне дырэктыў і пастаноў партыі і ўказанняў нашага правадыра тав. Сталіна.

* * *

Пастанова ЦК КП(б)Б ад 2 верасня з'явілася для добрушскіх большэвікоў канкрэтнай праграмай работы па рэалізацыі дырэктыў ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая. Упаўнаважаны ЦК КП(б)Б для растлумачэння добрушскай партыйнай арганізацыі сутнасці пастановы аб адмене першай і правядзенні паўторнай праверкі—тав. Гершон і камісія ЦК у цэлым аказалі на месцы велізарную дапамогу ў справе правядзення паўторнай праверкі. Дзякуючы гэтаму, ліст ЦК *ВКП(б)* ад 13 мая быў паўторна прапрацован у абстаноўцы вялікай актыўнасці. Больш 90% комуністаў удзельнічала ў спрэчках. Амаль усе яны гаварылі аб канкрэтным комунісце, аб яго паходжанні, партыйных паводзінах і асабістых якасцях, а таксама аб недахопах партыйнай работы.

За два тыдні паўторнай праверкі паступіла 700 вусных і 500 пісьмовых заяў (партарганізацыя раёна налічвае 340 комуністаў), тым часам як пры першай праверцы за тры месяцы паступіла толькі 20 пісьмовых заяў і 160 вусных. У выніку гэтага зусім іншы характар насіла паўторная праверка. Сакратар РК меў пад рукою даволі даных, характарызуючых якасць правяраемага комуніста. Калі той ці іншы комуніст пры праверцы спрабаваў адмаўляць правільнасць паступіўшых на яго сур'ёзных, кампраметуючых матар'ялаў, то ісціна ўстанаўлялася спецыяльным даследваннем паступіўшых матар'ялаў. Такім чынам было забяспечана выкрыццё ворагаў партыі і прахадзімцаў.

Праверка партдакументаў паказала, што добрушская партарганізацыя была сільна засмечана чуждымі элементамі. З ліку 340 камуністаў раёна было выключана з партыі 70 чалавек. Сярод выключаных усякія белагвардзейцы і кулакі складаюць 28 чал., палітычна разлажыўшыхся і маючых сувязь з чуждымі элементамі 31 чал., жулікаў і аферыстаў 4, трацкіст 1, і інш. Уся гэта група варожых і чуждых партыі людзей, прыкрываючыхся партыйным білетам, вяла па сутнасці антыпартыйную і разлагаючую работу. Іх асноўным метадам быў сабатаж усякіх мерапрыемстваў партыі і ўрада. Яны спрабавалі ўсякімі аб'ектыўнымі прычынамі і труднасцямі апраўдаць і вытлумачыць немагчымасць правесці ў жыццё тыя ці іншыя мерапрыемствы партыі і ўрада. А каб не быць выкрытымі, скарыстоўвалі сямейнасць, заціскалі самакрытыку, разгортвалі кругавую паруку і т. п.

Метады заціску самакрытыкі, сямейнасці і кругавой парукі былі найбольш развіты іменна ў партарганізацыі фабрыкі «Герой працы». Не гледзячы на тое, што гэта арганізацыя была самай буйнай у раёне (140 комуністаў), да праверкі яна была вельмі пасіўнай, безініцыятыўнай, непаваротлівай. За час першай праверкі ў гэтай арганізацыі райкому партыі ўдалося выкрыць толькі гайдамацкага жандара Саўчука (не лічачы некалькіх па сутнасці механічна выбыўшых чужакоў), і то наперакор неймавернай валакіце, якая межавала з прамым супраціўленнем кіраўніцтва парткома фабрыкі—сакратара Малярэвіча і яго намесніка Врублеўскага. Толькі дзякуючы пастанове ЦК КП(б)Б аб адмене праверкі і правядзенні паўторнай і асобаму ўказанню аб неабходнасці ўважлівай праверкі партдакументаў комуністаў фабрыкі, былі выяўлены прычыны засмечанасці і адсутнасці боездольнасці партарганізацыі фабрыкі.

Што-ж аказалася? Возьмем партком фабрыкі, які складаўся фактычна з 7 членаў. Трое з іх былі класава-варожымі людзьмі:

**Врублеўскі**—нам. сакратара парткома фабрыкі, быў з 1911 па 1920 год у ППС, з 1918 г. добраахвотнікам у польскіх контррэвалюцыйных легіёнах і да 1920 года ў чыне капрала актыўна змагаўся супроць Чырвонай арміі. У 1920 г. на фронце, у Беларусі, пападае ў палон да Чырвонай арміі і нейкім шляхам у 1921 г. пранікае ў рады ВКП(б). Брат яго з 1918 года і па сучасны момант служыць за граніцай у фашысцкай ахранцы. Усё гэта Врублеўскі скрываў перад партыйнай арганізацыяй і па сутнасці праводзіў антыпартыйную практыку ва ўсіх адносінах.

**Малярэвіч**—сакратар парткома, быў акружаны яўна антысовецкімі элементамі: яго сястра—жонка контррэволюцыянера трацкістатэрарыста і сама трацкісцкі настроена, шурак, брат яго жонкі, Рыхлевіч—была гандляр-лішэнец, прахадзімец. Малярэвіч прыстроіў яго заг. магазінам ІТР. Рыхлевіч з рабочымі грубіў, абважваў іх, а Малярэвіча «снабжаў». Малярэвіч аказаўся ў вышэйшай ступені чыноўнікам, бюракратам, заціскачом самакрытыкі, цалкам палітычна разлажыўшымся і антыпартыйным элементам.

**Кузьміна**—член парткома, у бытнасць гайдамакаў служыла ў іх буфетчыцай. Комуністам, якія выкрылі яе мінулае, пагражала помстай.

Вось з якога «букету» складаўся партком фабрыкі.

Гэта кіраўніцтва парткома, якое складалася з антыпартыйных людзей, усяляк тармазіла разгортванне партыйнай работы, ініцыятыву комуністаў і ўсіх рабочых. Яно таксама ўсімі спосабамі перашкаджала райкому партыі і комуністам фабрыкі правесці выкрываў-

чую работу для выяўлення ўсіх чужакоў і выгнання іх з партыі. Яно культывавала сямейнасць, заціск самакрытыкі і крытыкі, кругавую паруку. І толькі пасля выкрыцця і выгнання з партыі Малярэвіча, Врублеўскага і Кузьміной уся партарганізацыя высока ўзнялася і шляхам бальшэвіцкай самакрытыкі выкрыла яшчэ 25 класава-варожых людзей, пранікшых у рады партыі.

Мы маем не толькі гэты вынік. Значна палепшылася партвучоба комуністаў. Высока ўзнялася партработа. Адбываюцца рэгулярныя партсходы, на якіх актыўна абгаварваюцца важнейшыя партыйныя пытанні. Развілася шырока палітмасавая работа сярод беспартыйных. Высока ўзнялася актыўнасць і зацікаўленасць беспартыйных палітычным жыццём як Совецкага саюза, так і міжнародным. Аб гэтым сведчаць рэгулярныя масавыя палітдні ў клубе, дзе больш 1 000 рабочых з велізарнейшай увагай і зацікаўленасцю слухаюць даклады-гутаркі, а таксама частыя масоўкі-мітынгі ў цэхах па важнейшых актуальных пытаннях.

Хутка расце стаханаўскі рух. Фабрыка мае ўжо 120 стаханаўцаў, якія зламалі старыя нормы і перакрываюць іх на 300 і звыш процантаў. Задача зараз у тым, каб на аснове ўказанняў т. Сталіна яшчэ шырэй развіць стаханаўскі рух, ламаючы і знішчаючы ўсякія супраціўленні і разважанні супроць яго.

* * *

Метады сямейнасці, кругавой парукі, заціску крытыкі і самакрытыкі глыбока ўкараніліся таксама і ў некаторых пярвічных партарганізацыях вёскі. Вось прыклад:

Даходзілі да райкома партыі чуткі аб тым, што старшыня калгаса «Чырвоны маяк» кандыдат партыі Карака зжыўся з кулакамі, прыняў у калгас многа лішэнцаў, грубіць і збівае калгаснікаў і т. д., прычым усё гэта робіць пры фактычнай садзейнасці Рымкевіча, былога старшыні сельсовета, і іншых комуністаў. Справа гэта была расследвана на сходзе пярвічнай партарганізацыі, а таксама шляхам індывідуальнага апытання комуністаў, але галоўныя факты абвінавачання не пацвердзіліся, і вінаватыя комуністы засталіся не пакаранымі. Пасля гэтага зноў паступаюць выкрываўчыя матар'ялы, больш канкрэтныя, ад беспартыйных. І толькі пасля паўторнага, больш глыбокага даследвання абвінавачанні пацвярджаюцца, і ў выніку 4 комуністы з 9 выключаюцца з партыі за поўнае палітычнае разлажэнне і сувязь з кулакамі. Чаму раней комуністы не выкрывалі вінаватых? Аказваецца таму, што баяліся помсты з боку выкрытых, якія, як выявілася, сапраўды пагражалі расправай.

Другі характэрны прыклад. Пярвічная партарганізацыя калгаса «Калініна» складаецца з 9 комуністаў. Парторг, ён-жа і старшыня калгаса,—член партыі з 1919 года Грышакоў. Калгас—самы адстаючы ў раёне, партработы няма ніякай. Высняем, у чым тут справа. Чуем у адказ спасыланні на ўсякія аб'ектыўныя труднасці: і коней нехапае, і рабочай сілы мала і т. п. А вінаватых няма. Так праходзіць першая праверка. Паўторная праверка заглянула глыбей. І аказалася, што парторг і старшыня калгаса Грышакоў, гэты «комуніст» са стажам з 1919 года, сын буйнага кулака, сам у 1924, 1925-26 гг. таксама быў кулаком і эксплаатаваў наёмных батракоў, да ўсяго гэтага дэзертаваў з Чырвонай арміі ў 1919 годзе. Прыкрываючыся партыйным білетам, гэты тып праводзіў на справе паўнейшы сабатаж усіх мера-

прыемстваў партыі і ўрада, лодырнічаў і п'янстваваў. Пасля таго, як Грышакова выключылі з партыі, а калгасны сход зняў яго са старшынства, калгаснікі ажылі, комуністы перасталі п'янстваваць, а пярвічная партарганізацыя моцна ўзялася за партыйную і палітмасавую работу. Калгас хутка падымаецца.

Можна было-б прывесці яшчэ многа фактаў, калі чужакі тармазілі партыйную работу, сабатавалі і зрывалі своечасовае выкананне раду палітычных і гаспадарчых задач.

Выключана з партыі немалая колькасць п'яніц і маральна разлажыўшыхся. Узяць, к прыкладу, Падрэцкага—члена партыі з 1919 года. За п'янку ён мае некалькі суровых партспагнанняў і некалькі раз знімаўся з адказных работ. У Добрушы працаваў намеснікам старшыні РВК і праявіў сябе як беспрабудны п'яніца. Дзень-два п'янствуе, а потым два-тры дні хварэе. І так амаль увесь час. У сваё апраўданне заяўляў, што ў яго такая хвароба. Падобнымі яму былі Паўленка, Куліненка, Зайцаў і інш. Ясна, што ніякай карысці яны не прыносілі і толькі дыскрэдытавалі званне члена партыі, правальвалі работу свайго ўчастка. Як чуждыя партыі, яны выключаны з яе радоў.

Быў у нас яшчэ адзін тып «комуніста»—выхадца з Бунда. Напрыклад, Кліонская—у Бундзе была з 1906 па 1920 г. У 1920 годзе «улілася» у ВКП(б). Соцыяльны твар: бацька буйны гандляр, сястра—уласніца буйнай (на 100 галоў) малочнай фермы, два браты—былыя спекулянты, зараз лішэнцы. Кліонская загадвала райздраўаддзелам. Сваімі выключна нетактычнымі і антыпартыйнымі паводзінамі яна не заслужыла ніякага аўтарытэту, і толькі кампраметавала званне члена партыі.

Праверка партыйных дакументаў у добрушскай партарганізацыі, асабліва паўторная, выявіла ў радзе пярвічных партарганізацый і сярод комуністаў-адзіночак вялікую засмечанасць усякага роду чуждымі элементамі. Выяўлены шматлікія факты парушэння пунктаў статута партыі (напрыклад, з парушэннем статута былі прыняты ў члены і кандыдаты партыі 61 чалавек, з якіх 17 чал. бюро райкома не зацвердзіла, як чуждыя элемент); факты несвоечасовай уплаты комуністамі членскіх узносаў; факты парушэння партдысцыпліны і парт'этыкі; факты нежадання ўзнімаць свой партыйна-палітычны ўзровень развіцця, наведваць партсходы, выконваць партнагрузкі і інш.

У пярвічных партарганізацыях безадказна і неахайна захоўваліся партыйныя дакументы і матар'ялы, архівы былі ў беспарадку, пратаколы не падшываліся. Адабраны 32 партбілеты і 29 кандыдацкіх картак у сямей памёршых або даўно выбыўшых з партыі людзей. Ускрыты шматлікія факты п'янкі і маральнага разлажэння комуністаў, факты сямейнасці, кругавой парукі, заціску крытыкі.

Усе гэтыя нездаровыя з'явы ў сваю чаргу адмоўна ўплывалі на пастаноўку партыйнай асветы, на разгортванне партыйнай работы. У радзе пярвічных партарганізацый не было бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, выключна слаба праводзілася палітмасавая работа па скалачванню спачуваючых і беспартыйнага актыва.

Праверка партыйных дакументаў зрабіла рэзкі пералом ва ўсім партыйна-палітычным жыцці партарганізацыі раёна. Адбыліся вялікія зрухі ў галіне прывядзення ў парадак «уласнага партыйнага дому».

У рэзультаце праверкі і навядзення парадку ва ўсёй партыйнай гаспадарцы, мы маем наступныя важнейшыя дасягненні:

ачышчаны рады добрушскай партарганізацыі ад ворагаў партыі і ўсякага роду чуждых элементаў;

прыведзены ў парадак партыйныя пратаколы, парт'архівы, партдакументы;

комуністы ўсвядомілі, што статут з'яўляецца непахіснай асновай нашай партыі, пачалі ўважліва і глыбока вывучаць яго, а ўрэшце ўзнялася дысцыплінаванасць, вытрыманасць і боездольнасць комуніста;

на месца выключаных вылучан новы актыў з 28 комуністаў, 26 комсамольцаў і 39 беспартыйных на розныя адказныя пасады і работы;

значна палепшылася партыйная вучоба: усе комуністы і спачуваючыя наведваюць партшколы або партгурткі; павысілася зацікаўленасць слухачоў і ўвага да выкладання прапагандыстаў;

значна ўзнялася ўся партыйная работа; унутрыпартыйнае жыццё насычана і ўсё больш насычаецца важнейшымі партыйнымі пытаннямі і задачамі; шырокая палітмасавая работа набывае ўсё новыя формы, ахапляючы ўсё больш шырокія масы, асабліва паспяхова праходзяць палітдні;

узмацнілася пільнасць і прынцыповасць комуністаў у адносінах да ворагаў партыі і народу, уменне пазнаваць і адрозніваць красамоўнага балбатуна ад сумленнага работніка і наадварот

і, нарэшце, значна ўзнялася згуртаванасць радоў і боездольнасць партыйнай арганізацыі.

Гэтыя дасягненні і зрухі—факт бясспрэчны. Аднак далёка яшчэ не ўсё добра, не ўсё зроблена.

Праверка партдакументаў і выкліканыя ёю зрухі ачысцілі шлях і адкрылі шырокія прасторы для паспяховага разгортвання партыйнай работы ва ўсіх адносінах.

Важнейшымі задачамі сучаснага моманту з'яўляюцца:

карэннае палепшанне партыйнай асветы комуністаў і комсамольцаў і пашырэнне яе на беспартыйны актыў;

далейшае разгортванне партыйнай работы, якаснае палепшанне ўнутрыпартыйнай работы, шырокі разварот палітмасавай работы, асабліва сярод беспартыйнага актыва як рабочых, так і калгаснікаў;

асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на работу з комуністамі і комсамольцамі-адзіночкамі;

далейшае разгортванне стаханаўскага руху шляхам старанна прадуманай перабудовы працы, рашучай і бязлітаснай барацьбы з такімі гаспадарнікамі, адміністратарамі і інжынерна-тэхнічным персаналам, якія так ці інакш перашкаджаюць далейшаму развіццю стаханаўскага руху, тармозяць яго.

Гістарычная прамова тав. Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарта з'яўляецца асновай і праграмай далейшага разгортвання партыйна-масавай работы і стаханаўскага руху.

Праверка партдакументаў навучыла добрушскіх большэвікоў уважліва і глыбока падыходзіць да вырашэння ўсякага пытання і задачы; сапраўдная пільнасць на кожным кроку і прынцыповая непрымірымасць у правядзенні дырэктыў партыі, большэвіцкая крытыка і самакрытыка, сістэматычная і старанная праверка ўсякіх даручэнняў, заданняў і работы.

Праверка навучыла нас цаніць гэтыя асноўныя моманты, без якіх нямысліма партыйная работа. І чым хутчэй укарэняцца яны ў свядомасць і практыку кожнага комуніста, тым хутчэй мы ўзнімем ўсю партыйную работу і паспяхова выканаем задачы, пастаўленыя перад намі партыяй і таварышом Сталіным.

Мы дабіліся значнага зруху ва ўсёй партыйнай рабоце, аднак гэта яшчэ не значыць, што мы ўжо зрабілі ўсё, што ў нас няма недахопаў. Гэта толькі першыя крокі, на якіх нельга супакойвацца.

Замацаванне дасягнутых поспехаў і ліквідацыя ўсіх недахопаў, якія яшчэ ёсць у партыйнай рабоце,—неадкладная задача райкома партыі і ўсёй партарганізацыі.

Адна з асноўных задач райкома партыі—забяспечыць выкананне рашэння ЦК КП(б)Б аб далейшай мабілізацыі ўсёй партарганізацыі і кожнага комуніста паасобку на павышэнне бальшэвіцкай пільнасці, на разгортванне крытыкі і самакрытыкі, на рашучую барацьбу з элементамі самасупакоенасці, лібералізма, сямейнасці ў партыйнай арганізацыі.

ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні прама ўказаў, што ў цэнтры ўсёй работы райкома павінна быць пастаўлена выхаванне комуністаў у духу бальшэвіцкай непрымірымасці да класавых ворагаў і ўздым авангарднай ролі комуністаў у справе перавыхоўвання рабочых і калгаснікаў.

Выкананне ўказанняў ЦК КП(б)Б з'яўляецца неадкладнай задачай райкома і ўсёй партыйнай арганізацыі Добрушскага раёна.

**А. Штэйнгарт**

**Сакратар капыльскага РК КП(б)Б**

Праверка партыйных дакументаў у капыльскай партарганізацыі з'явілася асабліва важнай і складанай справай.

Капыльскі раён у мінулым—заможны, са значнай праслойкай кулацтва, з асяроддзя якога выходзіла не малая колькасць верных служак царызма:ураднікаў, паліцэйскіх і іншых контррэвалюцый-ных элементаў.

У перыяд заключэння міру з Польшчай і ўзнаўлення дзяржаўнай мяжы раён значны час заставаўся ў так званай нейтральнай зоне, дзе апераваў палітычны бандытызм (балахоўцы). Частка балахоўцаў, пасля разгрому, асела ў раёне. Пражываючы ў вёсках, яна праводзіла сваю разлагаючую работу ў соўгасах і калгасах. У свой час у Капылі, Пясочным, Тімкавічах, Быстрыцы, Ванілевічах былі эсэраўскія арганізацыі.

Неабходна больш падрабязна спыніцца і на падставе гістарычнай даведкі разбіць легенду аб тым, нібы ў Капыльскім раёне ў перыяд нямецкай і белапольскай акупацый вялася падпольная большэвіцкая работа і «партызанскі рух».

Між паасобнымі комуністамі Капыльскага раёна і комуністамі капыльчанамі, якія знаходзяцца на ўліку ў іншых партарганізацыях, доўгі час існавала кругавая парука. Пры чыстках партыі і праверцы партдакументаў яны выдавалі адзін другому даведкі аб падпольнай большэвіцкай рабоце ў Капылі, каб гэтым пакрыць сваю эсэраўскую дзейнасць у мінулым.

Да лютаўскай рэволюцыі і асабліва ў перыяд Люты—Окцябр, калі вялася падрыхтоўка да склікання Ўстаноўчага сходу, у Капылі і яго аколіцах існавалі дробна-буржуазныя контррэволюцыйныя партыі бундаўцаў, сіяністаў, меншавікоў. Асаблівы ўплыў мелі эсэры, якім удалося аб'яднаць вакол сябе па Капыльскаму раёну каля двухсот найбольш заможных сялян, праз якіх эсэраўскія арганізацыі і групы ўкаранялі і прапагандавалі сваю палітычную праграму.

Узнікненне дробна-буржуазных контррэволюцыйных палітычных плыней па Капыльскаму раёну адносіцца, прыкладна, к перыяду 1904—1905 гг. Потым, прыкладна ў 1917 годзе, яны аформіліся ў групы і партыі з пэўнымі палітычнымі арыентацыямі.

У ліпені 1917 года эсэрамі быў склікан устаноўчы сход прадстаўнікоў усіх партый і плыней (беспрынцыпны блок), у аснову дзейнасці была пакладзена эсэраўская праграма. На сходзе быў абраны

камітэт, у які ўвашлі паплечнікі эсэра Чарнушэвіча Змітрака: Чарнушэвіч Несцер—эсэр з 1905 года, у якасці старшыні камітэта; Чарнушэвіч Змітрок (лічыўся комуністам з 1917 года)—сакратаром камітэта; Чарнушэвіч Рыгор (комуніст з 1917 года)—нам. старшыні камітэта і Дземідовіч Ганна (комуністка з 1918 года)—казначэем камітэта.

У 1919—20 гг. з існуючых на тэрыторыі Капыльскага раёна груп і ячэек эсэраў, з контррэволюцыйных груп розных палітычных арыентацый пачалі ствараццa пад фальшывым нацыянальным сцягам і пад знакам «культурніцтва» контррэволюцыйныя нацдэмаўскія арганізацыі («Зорка», «Зарніца» і т. п.).

З паданай гістарычнай даведкі становіцца ясным, што легенда аб падпольнай большэвіцкай дзейнасці ў Капыльскім раёне ў 1917—18 гг. з'яўляецца выдумкай былых эсэраў. Нават самі капыльскія «падпольшчыкі», якія лічыліся комуністамі з 1917 года, зараз сцвярджаюць, што ў 1917-18 гг. у Капылі ніякіх большэвіцкіх арганізацый не было і што яны атрымалі партбілеты ў канцы 1919 года.

Павучальна легенда аб «партызанскім» руху ў Капыльскім раёне ў перыяд белапольскай акупацыі.

Дзейнасць эсэраўскіх груп у перыяд белапольскай акупацыі, асабліва к моманту адступлення белапалякаў, вылілася ў стварэнне па Капыльскаму раёну так званых «груп самаабароны». Такія групы былі ў Капылі, Цімкавічах, Пясочным, Быстрыцы. Яны ставілі, у асноўным, перад сабой задачу: папярэдзіць грабяжы ў сваіх мясцовасцях з боку адступаючых часцей белапольскай арміі.

Пасля адыходу польскай арміі гэтыя групы распадаліся або раззбройваліся часцямі Чырвонай арміі. Капыльская група самаабароны ў складзе 60 чалавек арганізавалася ў дні адступлення белапольскіх армій. Першым камандзірам яе быў царскі афіцэр, па сваіх палітычных пераконаннях—эсэр, Хмялеўскі Міхаіл. Яго замяніў Гомза Нікалай, таксама афіцэр царскай арміі, эсэр, сын кулака. Гомзу замяніў Гурло Алексей—афіцэр царскай арміі, удзельнік дзенікінскага «батальёна смерці», па сваіх палітычных пераконаннях—манархіст (зараз выключан з партыі менгаркомам КП(б)Б). Гэты «камандзір» пры польскіх акупацыях працаваў у польскім магістраце.

У чым выражалася дзейнасць капыльскай групы самаабароны і яе камандзіра Гурло? Даволі прывесці адзін характэрны факт.

За некалькі гадзін да ўступлення ў Капыль авангарднага палка Чырвонай арміі ў мястэчка заехаў да былога старшыні польскага магістрата белапольскі палкоўнік з веставым. Радавыя члены групы самаабароны спрабавалі захапіць палкоўніка ў палон, але Гурло Алексей катэгарычна забараніў гэта рабіць, і польскі палкоўнік, зрабіўшы патрэбныя яму справы, спакойнейшым чынам паехаў. Праз 3—4 гадзіны пасля ад'езду палкоўніка Капыль занялі перадавыя часці Чырвонай арміі, якія раззброілі атрад самаабароны. На гэтым і закончылася дзейнасць так званага «партызанскага руху».

За час свайго існавання атрад самаабароны ў баявых аперацыях не ўдзельнічаў, калі не лічыць таго, што ў напрамку вёскі Шастакі ён абстраляў чатыры падводы з польскага абозу і затрымаў дзве падводы з прадуктамі. Удзельнікі групы самаабароны прадукты падзялілі паміж сабою, за што і атрымалі назву «булачныя партызаны».

У перыяд, прыкладна, 1926—27 гг. пры садзейнасці Гурло Алексея, які іменаваў сябе камандзірам не існаваўшага партызанскага атрада, у м. Капылі, Пясочным і Быстрыцы была афармлена выдача «партызанскіх кніжак» былым удзельнікам атрадаў самаабароны.

У 1933 г., калі праводзілася чыстка былых чырвоных партызан, выявілася, што гэта былі ілжэпартызанскія атрады, а асобы, якія называлі сябе чырвонымі партызанамі, ніколі партызанамі не былі. Аднак стараннямі Гурло і дзякуючы кругавой паруцы былых удзельнікаў групы самаабароны, працуючых у Менску, партызанскія дакументы былі разданы цэламу раду асоб, у тым ліку Гурло Алексею, і інш., нічога агульнага не меўшым з рухам чырвоных партызан у БССР.

Узнікае пытанне: якім чынам гэтым былым эсэрам удавалася ўвесь час ашукваць партыю, прысвойваць партстаж з 1917 года і аўладаць дакументамі чырвоных партызан?

Праверкай партыйных дакументаў устаноўлена, што гэта здарылася ў выніку кругавой парукі, згуртаванасці былых эсэраў-капыльчан, якія, пакрываючы адзін другога і выдаючы даведкі аб партпрыналежнасці і «падпольнай рабоце», прабраліся ў рады нашай партыі і занялі кіруючыя пасады ў цэнтральных установах (Чарнушэвіч Змітрок, Гурло Алексей).

Іх антыпартыйная дзейнасць пацвярджаецца наступнымі фактамі:

Чарнушэвіч Змітрок—былы сакратар ЦВК БССР—у сучасны момант працуе ў БАН, пад напорам пераканаўчых фактаў прызнаў сваю прыналежнасць да партыі эсэраў, але для таго, каб працягваць ашукваць компартыю, арганізаваў кампанію супроць праверкі партдакументаў. Праз грамадзяніна м. Капыль Малюковіча ён перадае Чарнушэвічу Рыгору: «Я раскрыў сваю прыналежнасць да эсэраўскай партыі, прызнаўся, але заявіў, што мы ўступілі ў эсэраўскую партыю з мэтай яе разлажэння, таму Вы ведайце, што адказаць, калі ў Вас там спытаюцца».

Гэты факт з поўнай відавочнасцю паказвае, чаму былыя эсэры, «булачныя партызаны» маглі доўгі час беспакарана ашукваць нашу партыю.

* * *

У пачатку праверкі партдакументаў партарганізацыя, партактыў, у тым ліку і бюро РК КП(б)Б не ўлічылі ўсіх асаблівасцей Капыльскага раёна, не зразумелі сутнасці і значэння праверкі партдакументаў, не ўсвядомілі іменна таго, што яна павінна з'явіцца не толькі зверкай партыйных дакументаў, а вывучэннем усяго жыццёвага шляху комуніста. Невыпадкова, што ў пачатку праверкі і прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б) выступленні комуністаў на партсходах насілі агульна-дэкларацыйны характар і ў большасці зводзіліся да разважанняў аб момантах прытуплення класавай пільнасці паасобных комуністаў і т. п. Канкрэтнай-жа выкрываўчай работы не было.

Першы месяц праверкі партдакументаў не даў адпаведных вынікаў. З правераных 50—60 проц. партарганізацыі было выключана толькі чатыры чалавекі, лічыліся праверанымі яўныя ворагі савецкай улады, пазней выключаныя з радоў партыі.

У выніку кампанейскага, агульнага падыходу райкома да прыёму ў партыю ў 1930—31—32 гг. і страты партыйнай пільнасці з боку бюро і апарата РК, паасобным класавым ворагам, прадстаўнікам антысовецкіх контррэволюцыйных элементаў удалося праніснуць ашуканчым шляхам у рады нашай партыі (Серы, Місевіч, Барыс, Сіняковіч і інш.). Пры прыёме ў партыю Серага ў райком паступіла заява групы калгаснікаў аб тым, што Серы—былы бандыт, што ён забіў камандзіра Чырвонай арміі Макеева, і іншыя кампраметуючыя даныя. Не гледзячы на такія сур'ёзныя факты, заява не была праверана, і Серы ўсё-ж быў прыняты ў партыю. І гэта не дзіўна, бо ў 1932 годзе ў райкоме працаваў кулак Красоўскі, якому быў даручаны прыём у партыю.

Прапрацаваўшы пастановы ЦК КП(б)Б аб ходзе праверкі партдакументаў па грэскай і іншых партарганізацыях, бюро РК прызнала ход праверкі партдакументаў у сваёй партарганізацыі нездавальняючым, выявіла наяўнасць кругавой парукі, усвядоміўшы дапушчаную палітычную памылку, разгарнула вялікую выкрываўчую работу і канкрэтную самакрытыку. У выніку прапрацоўкі на сходах пастаноў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб ходзе праверкі партдакументаў было звыш 75 выкрываўчых выступленняў і падана звыш 90 выкрываўчых заяў. Пасля дэталёвай праверкі гэтых выступленняў і заяў выкрыта і выключана з партыі многа класавых ворагаў, апартуністаў, прахадзімцаў і жулікаў, ашуканчым шляхам пралезшых у рады партыі, а таксама комуністаў, якія адарваліся ад партжыцця, перарадзіліся і сталі на баку класавага ворага.

Праверка партдакументаў па капыльскай партарганізацыі ў асноўным закончана. Яна нязмерна ўзняла большэвіцкую пільнасць, умацавала і загартавала рады партарганізацыі і ажывіла партработу.

Арганізацыйна-партыйная работа ў нізавых партарганізацыях, асабліва сярод комуністаў-адзіночак, да праверкі была пастаўлена вельмі дрэнна. Партсходы ў большасці абгаварвалі пытанні гаспадарчага характару. Пытанні ўнутрыпартыйнай работы, павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў ставіліся ад выпадку да выпадку. Большасць пярвічных партарганізацый працавала бяспланава.

Праверка партыйных дакументаў узняла арганізацыйна-партыйную і палітыка-выхаваўчую работу партарганізацыі, адказнасць і арганізуючую ролю кожнага члена партыі як на вытворчасці, так і ў выкананні партработы.

Калі за ўвесь год было праведзена 2—3 сходы комуністаў-адзіночак, то ў час праверкі партдакументаў, за паўтара месяцы (жнівень—верасень), інструктарамі РК праведзена па 4—5 куставых сходаў, на якіх разбіраліся ўнутрыпартыйныя пытанні: прапрацаваны важнейшыя рашэнні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, рашэнні VII кангрэса Комінтэрна, заслуханы самасправаздачы комуністаў. Партсходы і куставыя сходы адзіночак праводзяцца цяпер рэгулярна, згодна плану.

Райком партыі праз інструктароў і членаў бюро абследваў усе партарганізацыі і аказаў ім практычную дапамогу ў перабудове партработы.

На паседжаннях бюро разбіраюцца пераважна пытанні арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Праверка партыйных дакументаў дала магчымасць больш дэталёва пазнаёміцца з кожным комуністам, з яго ідэйна-палітычнай устойлівасцю і партыйнай пільнасцю. Апарат райкома цалкам укам-

плектаваны інструктарамі. Да праверкі быў адзін інструктар, а зараз пяць, вылучаных у час праверкі партдакументаў. Акрамя таго створан рэзерв з 14 комуністаў. Сакратар райкома добра ведае магчымасці і сілы кожнага з гэтых таварышоў, і ў бліжэйшы час даручыць такую работу, на якой кожны будзе расці і рухацца наперад.

Аднак, побач са значным палепшаннем арганізацыйна-партыйнай работы мы маем яшчэ і многа сур'ёзнейшых недахопаў. Бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове «Аб становішчы прапагандысцкай работы у партарганізацыях Капыльскага і Жыткавіцкага раёнаў» зусім правільна ўказала на дрэнную пастаноўку прапагандысцкай работы і партвучобы ў капыльскай партарганізацыі. Разам з тым бюро ЦК у сваёй пастанове дало канкрэтныя ўказанні аб задачах райкома і ўсёй партарганізацыі па разгортванню партыйнай вучобы і ўсёй партыйна-прапагандысцкай работы. Барацьба за большэвіцкае выкананне гэтай пастановы бюро ЦК КП(б)Б з'яўляецца адной з першачарговых задач капыльскай партыйнай арганізацыі.

Пры прыёме праверкі партыйных дакументаў ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове вызначыў для капыльскай партарганізацыі пашыраную праграму далейшай работы.

Большэвіцкая барацьба за выкананне рашэння ЦК КП(б)Б забяспечыць уздым усёй арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай работы партарганізацыі і кожнага комуніста паасобку.

Капыльская партарганізацыя ўлічыць у сваёй рабоце мінулае Капыльшчыны і зробіць адсюль адпаведныя для сябе вывады.

Асноўнай і важнейшай задачай пагранічнай капыльскай партарганізацыі з'яўляецца яшчэ большае павышэнне партыйнай рэволюцыйнай пільнасці, умацаванне боездольнасці партыйных радоў, большэвіцкая барацьба за ўздым ідэйна-палітычнага ўзроўню і агульнай культуры кожнага комуніста, сур'ёзная і настойлівая работа па вырошчванню, вылучэнню і высоўванню большэвіцкіх кадраў.

**М. Рыкаў**

**Сакратар старадарожскага РК КП(б)Б**

Праверка партыйных дакументаў—выключнай важнасці палітычная справа. Для большэвіцкага правядзення яе неабходна мабілізаваць усю партыйную арганізацыю на выкрыццё чуждых партыі людзей, на палепшанне ўсёй унутрыпартыйнай, прапагандысцкай работы, на павышэнне боездольнасці партарганізацыі.

Аднак старадарожская партыйная арганізацыя не зразумела гэтага ў час першай прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і праверкі партыйных дакументаў. Было ўпушчана асноўнае—праверка твару кожнага комуніста. Зусім правільна адзначыла ў сваім рашэнні бюро ЦК КП(б)Б, што наша партыйная арганізацыя фармальна прапрацавала закрыты ліст ЦК ВКП(б), не разгарнула крытыкі і самакрытыкі, а таму ў райком не паступіла ніводнай заявы выкрываўчага характару; што з-за праяў кругавой парукі засталіся нявыкрытымі класава-чуждыя элементы, ашуканчым шляхам пралезшыя ў партыю; што райком не ўлічыў асаблівасцей свайго раёна, дзе ў мінулым фармаваліся першыя атрады Балаховіча. У рэзультаце зусім правільна была адменена праверка партыйных дакументаў у нашай арганізацыі.

І толькі большэвіцкая празарлівасць Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, які адразу верна ацаніў становішча, дала магчымасць райпартарганізацыі, правёўшы паўторную прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) і праверку партыйных дакументаў, да канца выкрыць і ачысціць свае рады ад класавых ворагаў.

Улічыўшы асаблівасці свайго раёна і катэгарычнае папярэджанне бюро ЦК КП(б)Б, райком з усёй большэвіцкай сур'ёзнасцю падышоў да паўторнай прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і праверкі партыйных дакументаў. Галоўны ўпор быў зроблен на разгортванне сапраўднай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, на мабілізацыю ўсіх комуністаў партыйнай арганізацыі для выкрыцця пралезшых у партыю розных антыпартыйных элементаў, на ліквідацыю праяў кругавой парукі.

Аб наяўнасці кругавой парукі, адсутнасці большэвіцкай пільнасці, крытыкі і самакрытыкі сведчаць тыя факты, што ў партыйную арганізацыю праніклі і занялі адказнейшыя пасады ў раёне яўныя шпікі, кулакі, бандыты, дэзерціры.

У працэсе праверкі партарганізацыя выкрыла і выключыла з радоў партыі правакатараў Жука (начальніка спецчасткі РВК), Табала (нам. дырэктара лесазавода), Кукліцкага (старшыня сельсовета), Хадароўскага (ветфельчар). Гэтыя элементы ў час белапольскай акупа-

цыі актыўна дапамагалі акупантам у барацьбе супроць чырвонаармейскіх часцей і атрадаў чырвоных партызан. Кукліцкі, Хадароўскі, Табала нават са зброяй у руках змагаліся супроць дыктатуры пралетарыята.

Кукліцкі ў царскай арміі быў афіцэрам. У час грамадзянскай вайны дэзертаваў з Чырвонай арміі і прымкнуў да белапольскіх акупантаў. Добра ведаючы размеркаванне чырвоных часцей і партызанскіх атрадаў, ён стаў на чале белапольскага атрада і актыўна дапамагаў белапалякам у барацьбе супроць совецкай улады.

Табала да прыходу белапольскіх акупантаў працаваў памочнікам начальніка міліцыі Старадарожскага раёна. У час белапольскай акупацыі Табала разам з былым начальнікам міліцыі Вяроўкіным (былы афіцэр) засталіся ў Старых Дарогах і выдавалі белапольскім панам актыўных работнікаў, пакінутых для падпольнай работы. У рэзультаце правакатарскай дзейнасці Табалы азвярэлыя паны забілі актыўных міліцыянераў—Вярыгу і Капачэню, а таксама актыўных партызан—братоў Тара, Якаўлева Жоржа і інш. Сам Табала ў жандарскай форме дапамагаў расстрэльваць чырвоных партызан, збіваць чэсных рабочых і сялян-беднякоў.

Жук у час грамадзянскай вайны дэзертаваў з Чырвонай арміі. Прыехаўшы дамоў, у Грэскі раён, вёў сярод сялян актыўную агітацыю за тое, каб яны падтрымлівалі ўладу Керэнскага. Праз нейкі час Жук пралез у рэўком на пасаду камісара харчовага атрада і зрываў заданні па забяспечанню чырвоных часцей. У час белапольскай акупацыі Жук застаўся на месцы і выдаваў белапольскім панам пакінутых для падпольнай работы таварышоў.

У Старадарожскім раёне фармаваліся ў мінулым першыя атрады банд Балаховіча і Даўбор-Мусніцкага. У раёне аперавалі мясцовыя банды, узначаленыя кулакамі Караткевічам, Жукам і Чэпікам. Акрамя гэтага, у раёне была сільна развіта дзейнасць розных контррэвалюцыйных груп. Да 1926 года дзейнічала буйная контррэвалюцыйная сіяністская група, меўшая сваю падпольную друкарню. Таксама доўгі час арудаваў заядлы трацкіст Валетка. Гэты падонак контррэвалюцыйнай трацкісцкай групы, карыстаючыся палітычнай слепатою кіруючых работнікаў раёна, разгарнуў у Горкаўскім сельсовеце актыўную дзейнасць па ўцягванню ў партыю блізкіх сабе людзей: кулакоў, шпікаў, антысовецкі настроеных элементаў. У рэзультаце варожай дзейнасці Валетка, у рады партыі праніклі шпікі Кукліцкі і Хадароўскі; кулакі-балахоўцы Мінько, Патоцкі, Цагойка, Амельчэня, Мельнік, Скрыдлеўскі, Барысавец і інш.

«Укамплектаваўшы» партыйную ячэйку ў Горкаўскім сельсовеце, трацкіст Валетка прыняў адпаведныя меры і да растаноўкі сваіх сіл. Кукліцкі «вылучаецца» на пасаду сакратара старадарожскага РВК і скарыстоўвае сваю пасаду для знішчэння ўсіх матар'ялаў, звязаных з партызанскім рухам у раёне; Барысавец прызначаецца старшынёй Горкаўскага сельсовета і т. д. Захапіўшы ў свае рукі кіруючыя органы на вёсцы, гэтая шайка зрывала гаспадарча-палітычныя кампаніі, здзекавалася над калгаснікамі, беднякамі і сераднякамі падрываючы гэтым аўтарытэт партыі і ўрада ў вачах працоўнага насельніцтва раёна.

У той час, як контррэволюцыйныя элементы «ціхаю сапай» падрывалі ўсю работу, рад раённых работнікаў, у прыватнасці РВК, канчаткова разлажыўшыся, не прыслухоўваліся да скарг працоўных. Старшыня РВК Барсукевіч, загадчык райфа Даўбня, начальнік дор-

аддзела Шкода і інш. былі заняты ў гэты час п'янкай і разгулам, растраціўшы больш 90 тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў.

Аб сямейнасці і кругавой паруцы сведчыць яшчэ і той факт, што паасобныя комуністы, ведаючы аб пранікненні ў партарганізацыю чуждых людзей, прыкрывалі іх. Напрыклад, Жыткоўскі—член партыі з 1918 года, добра ведаючы, хто такія Жук і Кукліцкі, рэкамендаваў іх у партыю. Пры праверцы партыйных дакументаў ён з усіх сіл стараўся даказаць, што ў партарганізацыі фактаў кругавой парукі няма. Або член партыі Завесін, добра не ведаючы мінулае Табалы, рэкамендаваў яго ў партыю. Такіх прыкладаў у час праверкі выяўлена не мала.

Праверка партдакументаў праводзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры штодзеннай дапамозе Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б. Гэта дало магчымасць ачысціць партарганізацыю ад ворагаў партыі і пролетарскай дыктатуры. За час праверкі партыйных дакументаў выкрыты і выгнаны з радоў партыі 49 чал., з якіх 34 члены і 15 кандыдатаў. Сярод выключаных—шпікоў і маючых сувязь з імі 8 чал., белагвардзейцаў, кулакоў, эксплаатататараў, гандляроў 23, трацкістаў 1, аферыстаў і жулікаў 5, дэзерціраў з Чырвонай арміі 3, дэзерціраў, адарваўшыхся ад партыі 10 чал.

Пры паўторнай праверцы партыйных дакументаў выяўлена контррэволюцыйная шпіёнская група. Яе задачай было збіранне розных звестак для польскай дэфензівы, а ў выпадку вайны—арганізацыя ўзброенага паўстання.

Пасля выкрыцця і выключэння з партыі гэтыя ворагі перашлі ў адкрытую барацьбу.

У Горкаўскім сельсовеце брат выключанага з партыі пачынае рыхтаваць тэрарыстычны акт над старшынёй сельсовета комуністам Гомза і іншымі раённымі работнікамі. Для гэтай мэты ён прыцягвае члена партыі Чарнецкую. Аднак варожы замах своечасова быў выкрыт.

Выключаныя з радоў партыі кулакі-балахоўцы—Патоцкі, Палешчук, Адоцік, Цагойка, Шкутко,—звязаліся з кулацка-варожымі элементамі вёскі і разам пачалі шкодзіць, свядома падрываючы калгаснае будаўніцтва, зрываючы гаспадарча-палітычныя кампаніі. Дробнабуржуазнае ахвосце—Гарэлік, Рэйзін, Левіцін, Рыбак—зблакаваліся і на нелегальных сходах пачалі абгаварваць шляхі помсты за сваё выключэнне з партыі.

Характэрна, што выключаныя з партыі шукалі спачування сярод асоб, варожа настроеных да совецкай улады. Актыўны член сіяністскай групы Левіцін згуртаваў вакол сябе розных былых спекулянтаў, гандляроў і арганізаваў з іх дэлегацыю, якую накіраваў у розныя раённыя ўстановы з хадайніцтвам аб аднаўленні яго ў партыі.

Унутрыпартыйная і палітвыхаваўчая работа ў партарганізацыі, асабліва ў яе пярвічных звеннях, стаяла на зусім нізкім узроўні. Праверкай выяўлен рад палітычна непадрыхтаваных комуністаў. Сярод кіруючых работнікаў раёна ёсць такія, як т. Шэрман—нам. старшыні РВК, т. Кульбацкі—суддзя і інш., якія зусім слаба разбіраюцца ў пытаннях бягучай палітыкі партыі і ніякай увагі не звяртаюць на павышэнне свайго палітычнага ўзроўню. Больш 25 комуністаў зусім не чытаюць і не выпісваюць газет. Чытка партыйнай літаратуры (часопісы «Большевик», «Большэвік Беларусі», «Партыйнае будаўніцтва»)—вельмі рэдкая з'ява. У рэзультаце дрэннай пастаноўкі партмасавай і палітвыхаваўчай работы раён не выхо-

дзіць з глыбокіх прарываў, мерапрыемствы партыі і ўрада выконваюцца марудна.

Райком прыняў ужо рад канкрэтных захадаў для ліквідацыі такога становішча. За час праверкі партыйных дакументаў праведзен рад курсаў, праз якія прапушчана 32 комуністы. Акрамя таго выпрацаван канкрэтны план работы райкома. Пярвічным партарганізацыям аказана практычная дапамога ў выпрацоўцы імі свайго плана работы.

Сетка партасветы ў раёне была пабудавана няправільна. Былі такія партыйныя школы, якія налічвалі па 2—3 слухачоў і забяспечаны малакваліфікаванымі прапагандыстамі. Напрыклад, у партыйнай школе Пасецкага сельсовета навучалася толькі тры таварышы. Прапагандыст т. Лабзо слаба разбіраўся ў самых элементарных пытаннях. Не дзіўна, што якасць вучобы стаяла на зусім нізкім узроўні. Зараз перагледжан склад прапагандыстаў, школы ўзбуйнены і забяспечаны кваліфікаванымі партыйна-вытрыманымі комуністамі.

Пры праверцы партдакументаў выяўлен рад комуністаў, якія доўгі час працавалі на нізавой рабоце і былі непрыметнымі. Дэтальнае азнаямленне з імі паказала, што яны здольны працаваць на адказных участках. Так, напрыклад, тт. Сушчанка, Максімаў, Рамановіч вылучаны цяпер на работу інструктарамі РК. Старшыня калгаса т. Несцераў вылучан на пасаду нам. старшыні РВК, бухгалтар МТС т. Снежко—дырэктарам банка, прыёмшчыца райзага т. Казлова—старшынёю мясцкома кааперацыйных і гандлёвых работнікаў.

Выяўлен і новы партыйны актыў. У рэзерве зараз знаходзіцца 20 таварышоў, з якімі райком наладзіў сістэматычную работу.

Вынікі паўторнай праверкі партдакументаў з усёй нагляднасцю гавораць аб тым, што ўнутрыпартыйная і палітыка-выхаваўчая работа ў старадарожскай партарганізацыі да апошняга часу была пастаўлена выключна дрэнна. Рэзультаты праверкі партдакументаў і ўказанні ЦК КП(б)Б павінны паслужыць для райкома і ўсёй партарганізацыі сур'ёзным урокам, з якога яны павінны зрабіць для сябе сур'ёзныя палітычныя і практычныя вывады ў далейшай рабоце.

Бюро ЦК КП(б)Б паставіла перад партыйнай арганізацыяй Старадарожскага раёна рад канкрэтных задач: узмацненне пільнасці комуністаў, умацаванне работы па іх ідэйнаму ўзбраенню, уздым унутрыпартыйнай работы на вышэйшую ступень.

Першачарговая і неадкладная задача райкома—мабілізаваць партарганізацыю для карэннай перабудовы ўсёй партыйнай работы на аснове практычнага ажыццяўлення ўказанняў ЦК КП(б)Б.

У рэзультаце праверкі партдакументаў райпартарганізацыя яшчэ цясней згуртавала свае рады вакол ЦК КП(б)Б, ЦК ВКП(б) і любімага правадыра партыі і працоўных мас тав. Сталіна. Яна ўпэўнена ў тым, што даб'ецца рашаючых перамог ва ўсёй сваёй рабоце, згуртаваўшы вакол сябе лепшых актывістаў, якія ўзначаляць творчы энтузіязм рабочых і калгасных мас, пільна сочачы і даючы сакрушальны адпор усякім вылазкам класава-варожых элементаў.

**Н. Кіштымаў**

**Сакратар слуцкага РК КП(б)Б**

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) сваім лістам ад 13 мая абавязаў усе партарганізацыі навесці большэвіцкі парадак у нашым уласным «партыйным доме», каб выкрыць і выгнаць з партыі жулікаў, аферыстаў, контррэволюцыянераў, трацкістаў-зіноўеўцаў і іншы класава-варожы элемент, які, выкарыстаўшы непарадак у нашай партыйнай гаспадарцы, пралез у рады нашай партыі.

Слуцкая партарганізацыя павінна была падыйсці да вырашэння гэтай задачы з выключнай партыйнай пільнасцю, прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў ёй усіх сваіх членаў, маючы на ўвазе тое, што раён знаходзіцца вельмі блізка ад граніцы і ў значнай меры засмечан класава-варожымі элементамі.

Аднак, з самага пачатку праверкі партдакументаў, бюро райкома партыі не ўлічыла ўсяго палітычнага значэння гэтай важнейшай работы, таму да канца не былі выкрыты і выгнаны ворагі партыі, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў яе рады.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б сваім рашэннем ад 19 кастрычніка г.г. выправіў дапушчаныя бюро слуцкага райкома партыі, пленумам і сакратаром РК памылкі, даўшы ім правільную большэвіцкую ацэнку і працягнуўшы праверку партдакументаў па слуцкай партарганізацыі.

Гэта рашэнне мела вялікае палітычнае значэнне для ўсёй слуцкай партарганізацыі. У абгаварэнні яго на партсходах прынялі актыўны ўдзел усе члены партыі. На раённым партсходзе ў спрэчках выступілі 50 чалавек, на сходах пярвічных партарганізацый і комуністаў-адзіночак—410 чалавек. На партсходах была разгорнута вялікая выкрываўчая работа, а таксама ўзмоцненая самакрытыка недахопаў раду партыйных і совецкіх гаспадарчых арганізацый. На адным толькі раённым партсходзе было падана кампраметуючых матэрыялаў на 57 членаў і кандыдатаў партыі, а ўсяго за перыяд праверкі паступіла 287 кампраметуючых заяў. У большасці заяў выкрываліся шпіёны, трацкісты-зіноўеўцы, нацдэмы, кулакі, белагвардзейцы і інш.

У выніку актыўнага ўдзелу кожнага члена партыі ў праверцы партдакументаў райком меў магчымасць на працягу данага яму тэрміну па-большэвіцку выправіць дапушчаныя пры першай праверцы памылкі, выкрыць і выгнаць з партыі яе ворагаў.

Характэрна, што абсалютная большасць шпікаў і падазроных у шпіёнстве размяшчаліся на другаступенных і трэцеступенных пастах, на такіх участках гаспадарча-совецкага апарата, якія знаходзяцца

пад слабым кантролем кіруючых органаў і ў той-жа час прадстаўляюць спрыяючыя ўмовы для збору інфармацый.

Партарганізацыі прышлося правесці велізарную барацьбу з рэшткамі контррэволюцыйнага трацкізма, бундаўцамі і нацдэмаўшчынай. Характэрна, што гэтыя адкіды туліліся на ўчастках культурнага будаўніцтва.

Яшчэ ў канцы 1933 і ў пачатку 1934 года былі выкрыты нацдэмы—культпроп райкома Іваніцкі, заг. районо Долбік, трацкіст—выкладчык педтэхнікума Валетка, а ў пачатку 1935 года выкрыты выкладчыкі педтэхнікума—трацкіст Свердлоў, эсэр і трацкіст Бабарыкін.

Пры праверцы партдакументаў выкрыт дырэктар педтэхнікума Эскін, як бундавец і трацкіст, які двойчы ашукаў партыю. Будучы ў партыі з 1920 г., ён не згадзіўся з новай эканамічнай палітыкай, у 1921 годзе вышаў з партыі, а ў 1923 годзе зноў пралез у яе рады, пры чым як першы, так і другі раз, паступаў з парушэннем статута і на працягу ўсяго часу прабывання ў партыі не выкрыў сваё мінулае, а таксама контррэволюцыйную дзейнасць Бунда і трацкізма.

Зразумела, што гэтыя ворагі народу, засеўшы ў педтэхнікуме і звязаўшыся кругавою парукай, не хацелі выкрываць адзін другога, глушылі крытыку і стараліся захаваць партбілет, каб з ім лягчэй было працягваць сваю контррэволюцыйную і антыпартыйную работу.

Усе гэтыя чуждыя людзі былі выкрыты па сігналах з іншых партарганізацый і паасобных комуністаў педтэхнікума. Партыйная арганізацыя раёна, узброіўшыся рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, да канца выкрыла гэтых ворагаў народу, усе іх махінацыі і выгнала з радоў нашай партыі.

Можна было-б прывесці цэлы рад падобных прыкладаў, але даволі і гэтых, каб паказаць, як у выніку прытуплення партыйнай пільнасці некаторых партарганізацый і членаў партыі, вораг можа доўгі час весці сваю падрыўную работу, прыкрываючыся партбілетам.

Неабходна адзначыць, што праверкай выяўлена засмечанасць і самога апарата РК КП(б)Б. На пасадзе кіраўніка спраў райкома сядзеў кандыдат партыі Корзун, які меў сувязь з заграніцай, браты з'яўляліся балахоўцамі.

У працэсе праверкі выяўлена многа фактаў безадказна-злачыннага хавання партдакументаў. У соўгасе «Замошша» уліковыя карткі і важнейшыя дырэктывы партыі параскіданы былі ў адчыненых сталах канцэлярыі. Партдакументы Ленінскай пярвічнай партарганізацыі ляжалі ў адчыненай шафе сельсовета. Рад комуністаў нядбайна адносіўся да хавання сваіх партдакументаў.

Пры праверцы кандыдата партыі Башура было выяўлена, што на яго кандыдацкай картцы няма маркі аб праходжанні чысткі. Аказваецца, марка была змыта пры мыцці яго бялізны, куды трапіла кандыдацкая картка.

Для ўпарадкавання партгаспадаркі праведзена цяпер значная работа. Партдакументы захоўваюцца ў належным парадку, у адпаведнасці з указаннямі ЦК партыі. Узмацнілася адказнасць кожнага комуніста за захаванне свайго партбілета.

З праверкаю партдакументаў значна ажывілася ўся ўнутрыпартыйная работа. Узняўся процант комуністаў, ахопленых партвучобай (з 80 да праверкі да 95 пасля праверкі), павялічылася наведванне

партвучобы (з 80% да праверкі да 85% пасля праверкі). Падабраны 41 чалавек добра падрыхтаваных прапагандыстаў і персанальна зацверджаны на бюро. У склад прапагандыстаў увайшлі ў першую чаргу члены бюро РК і члены РК. Як прапагандысты, так і слухачы, пачалі лепш рыхтавацца да заняткаў. Праверка партшкол уведзена ў сістэму работы бюро РК. Справаздачы аб рабоце школ заслухоўваюцца на бюро з выклікам усіх слухачоў. Узрос процант выпіскі і чыткі газет, партыйнай і мастацкай літаратуры.

Дні партсходаў і партвучобы ўвайшлі ў распарадак жыцця кожнага комуніста. Палепшылася падрыхтоўка і правядзенне партсходаў. Абвестка дня даводзіцца да ведама за 3—4 дні да сходу, своечасова вылучаецца і падрыхтоўваецца дакладчык, комуністам даюцца паасобныя заданні ў парадку падрыхтоўкі да сходу. Пры правядзенні партдня па рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб школе, комуністы прымацоўваліся для праверкі работы да паасобных школ, праводзілі бацькоўскія сходы, знаёміліся з умовамі выхавання дзяцей дома, а потым на партсходзе выпрацоўвалі практычныя мерапрыемствы па аказанню дапамогі рабоце школ. У значнай меры ўзмацнілася партдысцыпліна, узнялася актыўнасць комуністаў. Няма больш выпадкаў ненаведвання партвучобы і партсходаў без уважлівых прычын. Тры партсходы комуністаў-адзіночак участка інструктара т. Жыльвінскага былі праведзены са 100% яўкай. Кожны раз на партсходзе ў спрэчках выступалі 14 чалавек з 18 прысутных.

Ажыўленне ўсёй арганізацыйна-партыйнай і партвыхаваўчай работы спрыяла таму, што цэлы рад пасіўных у мінулым комуністаў пачалі прымаць актыўны ўдзел ва ўсім партыйным жыцці.

**Тав. Ахметчын**—член партарганізацыі МТС, да праверкі партдакументаў ніколі не выступаў на партсходзе, амаль не чытаў газет, рэдка наведваў партвучобу—зараз актыўны на партсходзе, рэгулярна чытае газету «Рабочий», з мастацкай літаратуры прачытаў «Паднятую цаліну» Шолахава, стаў лепшым ударнікам на вытворчасці.

Тав. **Хвастоў**—член партыі, старшыня калгаса, комуніст-адзіночка, у мінулым п'яніца, праяўляў хуліганскія выхадкі, быў зусім адарваны ад партжыцця, недысцыплінаваны. Паўстала пытанне аб выключэнні яго з партыі. Аднак пры належнай рабоце з ім, т. Хвастоў стаў дысцыплінаваным комуністам, акуратна наведвае партвучобу, партсходы, добра рыхтуецца да сходаў, прымае актыўны ўдзел у абгаварэнні абвесткі дня, праводзіць гутаркі ў сваім калгасе па бягучых пытаннях палітыкі, перастаў п'янстваваць, свой калгас з адстаючых выявеў у перадавыя.

Маем пэўны пералом і ў рабоце са спачуваючымі. За гэты перыяд вырасла група спачуваючых, палепшылася якасць самой работы з імі. На Урэцкім вінзаводзе парторг т. Смайчук асабіста праводзіць рэгулярныя заняткі па вывучэнню статута і праграмы партыі, перыядычна дае заданні па раду гаспадарча-палітычных кампаній. Пры такой рабоце многія спачуваючыя палітычна значна выраслі. Напрыклад, т. Цывін—рабочы дрэваапрацоўчага камбіната імя Молатава—добра вучыцца ў кандыдацкай школе, промфінплан выконвае на 200%, прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці.

Да праверкі партдакументаў многіх комуністаў мы зусім не ведалі. У працэсе праверкі і ўсебаковага вывучэння кожнага кому-

ніста паасобку выяўлены 21 чалавек для вылучэння на кіруючую работу:

Тав. **Гурбо**—старшыня калгаса, да праверкі быў непрыметным, а зараз вылучан у якасці загадчыка сектарам жывёлагадоўлі райза.

Тав. **Лясун**—рабочы МТМ, вылучан заг. цэха МТМ.

Тав. **Жаўрыд**—старшыня калгаса, вылучан старшынёю сельсовета.

Тав. **Шнэйдэр**—рабочы электрастанцыі, вылучан дырэктарам электрастанцыі.

З выяўленых для вылучэння 18 комуністаў ужо працуюць на розных адказных пасадах і ўчастках: старшынямі сельсовета 5 чал., інструктарамі райкома партыі 4 чал. Апарат РК КП(б)Б укамплектован поўнасцю.

Наша першачарговая задача зараз—стварыць рэзерв для далейшага вылучэння, арганізаваць падрыхтоўку вылучаных таварышоў, скласці ім адпаведныя ўмовы для работы і росту.

У рэзультаце праверкі партдакументаў слуцкая партарганізацыя, ачысціўшы свае рады ад шпікаў, контррэволюцыйных трацкістаў і зіноўеўцаў, ад розных класава-варожых элементаў, яшчэ больш згуртавалася вакол ленінска-сталінскага ЦК, узняла сваю арганізацыйна-ідэйную боездольнасць для паспяховага будаўніцтва соцыялізма і выкарчоўвання рэштак ворагаў рабочага класа.

Каб замацаваць дасягненні і канчаткова ліквідаваць выяўленыя пры праверцы партдакументаў недахопы, пленум райкома партыі, на аснове рашэнняў ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў па слуцкай партарганізацыі, зацвердзіў практычныя мерапрыемствы па далейшаму разгортванню партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы партыйнай арганізацыі.

Уся ўнутрыпартыйная работа, у адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б, павінна быць накіравана на далейшае павышэнне боездольнасці ўсёй партарганізацыі, яшчэ большае завострэнне палітычнай пільнасці і непрымірымасці да класавых ворагаў, уздым авангарднай ролі комуністаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Разам з тым ЦК КП(б)Б звярнуў увагу слуцкай партарганізацыі на неабходнасць палепшыць разгортванне масавай работы сярод калгаснікаў, забяспечыўшы гэты ўчастак канкрэтным кіраўніцтвам райкома.

Вынікі праверкі партдакументаў з усёй нагляднасцю паказалі слабасць нашай работы па штодзённаму вывучэнню жывых людзей і праверцы іх на практыцы, слабасць работы па падрыхтоўцы і вылучэнню новых, стойкіх, большэвіцкі вытрыманых кадраў. ЦК КП(б)Б зусім правільна ўказаў нам на гэты буйнейшы недахоп і абавязаў звярнуць выключную ўвагу на арганізацыю падрыхтоўкі і вылучэння новых кадраў, на разгортванне партыйнай прапаганды і павышэнне палітычна-тэарэтычнага ўзроўню комуністаў.

Адной з важнейшых задач нашай партарганізацыі, на што ўказаў у сваім рашэнні ЦК КП(б)Б, з'яўляецца работа сярод беспартыйнага актыва: арганізацыя і згуртаванне вакол партыйных арганізацый на месцах—у прадпрыемствах, калгасах, соўгасах—правераната ў грамадзянскай вайне, у барацьбе за калгаснае будаўніцтва, адданага справе пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнаму будаў-

ніцтву беспартыйнага актыва, выхоўваючы яго, прасоўваючы найбольш праверaных актывістаў на кіруючую совецкую, гаспадарчую і кааперацыйную работу.

Патрэбна напружаная большэвіцкая работа як цалкам усёй партарганізацыі, так і кожнага комуніста паасобку, каб па-большэвіцку ажыццявіць рашэнні ЦК КП(б)Б і ў бліжэйшы час узняць на новую, вышэйшую ступень работу ўсёй нашай партарганізацыі.

---

**Э. Вайнман**

**Сакратар рагачоўскага РК КП(б)Б**

Да ўпарадквання партыйнай гаспадаркі па ўказанню ЦК КП(б)Б рагачоўская партарганізацыя прыступіла яшчэ ў красавіку.

Крытыка і самакрытыка, якая разгарнулася ў выніку абгаварэння закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая і паследуючых пастаноў партыі аб ходзе праверкі партдакументаў, паказала, што адзначаныя ў іх факты безадказнейшага становішча партыйнай гаспадаркі перш за ўсё датычаць нашай партарганізацыі. Выкрыліся зіяючыя прарывы там, дзе іх, здавалася, нельга было і чакаць. Аказаліся зусім ненадзейнымі, а нямала і жулікамі, людзі, якія да апошняга часу карысталіся вялікім давер'ем.

Дзякуючы ратазейству і дабрадушнасці паасобных партыйных «шляп», жаласлівых хадайнікаў за чужакоў, дзякуючы адсутнасці большэвіцкай пільнасці, паасобным жулікам, прахадзімцам і белабандытам удавалася прабрацца ў рады нашай партыі; паасобныя жулікі і чужакі ўцяклі з Рагачоўшчыны і, замёўшы за сабой сляды, здолелі абзавесціся партбілетамі ў іншых арганізацыях (Масква, Ленінград, Урал, Свердлоўск і т. д.).

Спачатку мы займаліся толькі «унутранымі справамі», правяралі арганізацыю ў сябе і зусім недастаткова рэагавалі на сігналы аб чужаках, пралезшых у партыю ў іншых арганізацыях. Гэтую памылку мы рашуча выправілі: усякія паступаючыя да нас сігналы спачатку правяралі і аб выніках паведамлялі ў адпаведную партарганізацыю.

Напрыклад, мы атрымалі сігналы, што ў Ленінградзе пралезла ў партыю былая памешчыца Рагачоўскага раёна Каржанеўская. Пры праверцы аказалася, што Каржанеўская—сапраўды дачка былога памешчыка, была замужам за афіцэрам старой арміі, які ў 1920 г. прымаў удзел у змове эсэраў і прысуджан быў да вышэйшай меры соцыяльнай абароны. Сама яна, як актыўная ўдзельніца змовы, таксама прыцягвалася да адказнасці і была памілавана толькі таму, што мела дваіх малалетніх дзяцей. Далей пачынаецца сувязь з былымі баронамі, князямі, а з 1926 года Каржанеўская—член партыі. Увесь гэты матар'ял мы накіравалі ў ленінградскую арганізацыю.

У працэсе праверкі зусім у іншым святле стаў перад намі рад асоб, займаючых кіруючыя пасты.

Дырэктар буйнага соўгаса Телепко лічыўся найбольш палітычна граматным. Яму даручалася партыйнае выхаванне (кіраваў у калгасе партыйнай школай). Пры праверцы аказалася, што Телепко

газет не чытае, не ведае нават асноўных рашэнняў партыі. За паўнейшую палітычную бязграматнасць райком зняў яго з прапагандысцкай работы.

Такія пагардлівыя адносіны да рэволюцыйнай тэорыі, да работы над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню выяўлены і сярод некаторых іншых найбольш адказных работнікаў раёна. Ужо на працягу некалькіх год не вучыцца ніхто з членаў прэзідыума РВК, а таксама частка членаў бюро РК.

Гэтыя таварышы забыліся, што для большэвіка спалучэнне тэорыі з практыкай, асвятленне кожнага кроку практычнай дзейнасці святлом рэволюцыйнай тэорыі—абавязковае і бясспрэчнае правіла.

Выкрылі «маўчальнікаў». Гэта катэгорыя людзей—нярэдкая з'ява ў цэлым радзе арганізацый. Над гэтымі людзьмі не працавалі парт-арганізацыі, і ўрэшце большасць іх адстала, ператварыўшыся ў пасіў і баласт. Аднак сярод «маўчальнікаў» знашліся і такія як Рыкуноў, які працуе на картоннай фабрыцы. На партыйных сходах ён адмоўчваўся. Партарганізацыя ім не займалася. Пры праверцы партдакументаў выявілася, што Рыкуноў доўгі час быў актыўным членам царкоўнага совета і па сваіх поглядах нічога агульнага з партыяй не меў. На пытанне чаму ўступіў у партыю,—адказаў: «Не было чаго рабіць у вольны час, ну і падаў заяву». Ці мог пасля гэтага Рыкуноў быць актыўным там, дзе патрабавалася непрымірымасць да класавага ворага?

Выкрылі і такую групу людзей, якім удавалася сваёй паказной «архіактыўнасцю» і «рэволюцыйнай» балбатнёй асляпіць гора-кіраўнікоў, у якіх адсутнічала сапраўды рэволюцыйная партыйная пільнасць.

Спекулянт Кітайчык разам са сваім дваюрадным братам-купцом да рэволюцыі займаўся ў Петраградзе ліхвярствам і ў выніку бруднай справы вымушан быў адтуль уцячы. Пасля гэтага ён арандуе млыны, карыстаючыся наёмнай працай, падзарабляе таксама на продажы гарэлкі. Пасля рэволюцыі ўмела прыспасабляецца: арандуе сады пад шыльдай садова-гароднага таварыства і нейкім чынам набывае білет чырвонага партызана. А далей пашло ўжо лягчэй—за «рэволюцыйныя заслугі» атрымлівае персанальную пэнсію.

Не было ніводнага мітынга, дзе-б Кітайчык не выступіў з «палкімі» прамовамі. У час чысткі выключаўся з партыі, але абманным шляхам яму ўдалося аднавіцца ў цэнтральных арганізацыях.

Сувязь з класава-чуждымі элементамі не парвана ў яго і зараз. Выключаная ў Ленінградзе з партыі яго пляменіца, трацкістка Котляр, знаходзіць прытулак у Кітайчыка, які са сваім сынам, таксама членам партыі, спрабавалі прыстроіць яе на работу ў органах народнай асветы. Двое сыноў і дачка Кітайчыка, як чужакі, скрыўшыя мінулае свайго бацькі і схаваўшыя ў сябе трацкістку, пры праверцы партдакументаў з партыі выключаны. Аб самім Кітайчыку матар'ял перадалі палітаддзелу магілеўскага аддзялення службы эксплаатацыі Заходняй чыгункі, дзе ён быў на ўліку.

У выніку праверкі партдакументаў мы выключылі з партыі 41 чал. класава-чуждых і варожых элементаў, з якіх 28 членаў і 13 кандыдатаў.

Гэта—былыя бандыты, жулікі, прахадзімцы і разлажыўшыяся элементы:

**Жылінскі**—у гады грамадзянскай вайны не раз дэзертаваў з Чыр-

вонай арміі; у 1926—27 гг., будучы членам сельсовета, **звязаўся** з вядомай грабежніцкай бандай Камісарава, з якою разам наладжваў папойкі, дзяліў награбленае і прыкрываў усе злачынствы банды.

Не менш цікавы тып—Павел **Грыбоўскі.** Яго бацька, Трыфан Грыбоўскі, служыў стражнікам спачатку ў Рызе, а потым у Рагачове. Брат яго бацькі быў вядомым правакатарам, з-за якога папла-цілася жыццём не мала рэволюцыянераў. Хіба выгадна прызнаваць такога бацьку, ды яшчэ пры ўступленні ў партыю? Таму Грыбоўскі называе сябе Паўлам Хрысанфоравічам.

Гэты манеўр класавага ворага выкрыты. Пацярпела няўдачу і другая яго зацея—уцёкі за-граніцу.

Мы ўскрылі сапраўднае нутро трацкіста **Маянца** (заг. райфа), хоць ён даволі ўмела маскаваўся, і выключылі яго з партыі. Маянц прыбыў да нас у снежні з гомельскай арганізацыі. У сваіх выступленнях ён не раз прадвяшчаў патухаючую крывую ў фінансавай рабоце сельскіх советаў, распаўсюджваў контррэволюцыйны фашысцкі паклёп аб цяжкім матар'яльным становішчы рабочых у Совецкім саюзе.

**Каган**—выключаўся з партыі і ў 1921 г. і ў 1933 г. Бацька—лесапрамыслоўца і гандляр, меў ад 30 да 100 наёмных рабочых на лесасеках. Не выпадкова, што ў Леспрамгасе, дзе Каган быў парторгам, шырока развіліся кулацкія тэндэнцыі, злачынна парушаліся законы совецкага землекарыстання. Служачыя Леспрамгаса атрымалі з лясных масіваў па 3—5 га зямлі і здавалі яе на кабальных умовах, з часткі ўраджаю, у арэнду аднаасобнікам. Зямля гэта захоўвалася ад аб'ектаў абкладання сельскагаспадарчым падаткам, трапляла ў рукі кулакам. Усё гэта, разам узятае, падрывала мерапрыемствы па калектывізацыі сялян і аднаасобнікаў.

А вось і сам дырэктар Леспрамгаса—**Савіцкі.** Гэты «кіраўнік» перш за ўсё парашыў стварыць «актыў». Пачаў перацягваць у Рагачоў і прыстройваць у сябе на кватэры і на рабоце ў сістэме Леспрамгаса сваіх родзічаў, крымінальна-палітычных злачынцаў, судзімых за контррэволюцыю, за антысемітызм, за растраты і т. д.

Вырашчаны ім букет выглядае, прыкладна, так: Ергулевіч—(швагер Савіцкага) судзімы за растрату; Шалупенка—судзімы за контррэволюцыйную дзейнасць; Рыбчанскі—прысуджаны да прымусовай працы; Жураўскі—родзіч Савіцкага, судзімы за контррэволюцыйную дзейнасць, і многія іншыя.

Хіба трэба пералічваць усіх гэтых, зараз ужо вымеценых жулікаў і прахадзімцаў? Тут і двурушнікі, і растратчыкі, і паклёпнікі пра галадоўку ў СССР, і былыя эксплаататары, і ўсякая ашуканчым чынам пралезшая ў партыю антысовецкая поскудзь.

* * *

Адсутнасць сістэматычнай работы сярод комуністаў прывяла к таму, што ў нашай арганізацыі пры праверцы партдакументаў выяўлены людзі, якія працавалі, лічылі сябе комуністамі, але на ўліку ў райкоме не знаходзіліся. Уліковы работнік пахаваў іх зажыва, паклаўшы іхныя карткі ў спецыяльны яшчык механічна выбыўшых.

Гэта—палітычна адсталыя людзі, якія адарваліся ад партыі. Узяць, напрыклад, Перчыкава, які ў час чысткі ў 1933 г. пераведзен

у кандыдаты. З таго часу ён сходаў не наведваў, год не плаціў членскіх узносаў, а ўрэшце сам пачаў заяўляць, што адстаў і ў партыі заставацца не хоча. Яго мы вызвалілі ад гэтага брэмя.

Але хіба няма сярод іх людзей, якіх карысна захаваць для партыі? Кандыдат партыі—член калгаса імя Сталіна т. Максімава на працягу двух год не плаціла партузносаў. Ці яе адной толькі ў гэтым віна? Безумоўна не. Максімава—лепшая ўдарніца ў калгасе, перадавы чалавек. Ніхто з комуністаў ёю не цікавіўся, і яна адарвалася ад партыі. Мы яе для партыі захавалі, дапамаглі ёй выправіць сваю памылку, і Максімава пачала жыць новым жыццём.

За гэты перыяд з выяўленага ў час праверкі актыва пастаўлена на больш адказную работу каля 20 чалавек:

**Прыбыльскі**—член партыі, стары рабочы кадравік лесазавода—вылучан загадчыкам аддзела комунальнай гаспадаркі РВК.

**Давыдзенка**—рабочы картоннай фабрыкі, радавы пажарнік—вылучан інспектарам пажарнай аховы раёна.

**Радчэнка**—працаваў старшынёю калгаса, вылучан старшынёй сельсовета, з'яўляецца адным з лепшых старшынь.

**Кушнерова**—работніца прылаўка—вылучана загадчыцай дзетдома.

**Вертлін**—рабочы МТС—вылучан парторгам лесазавода.

**Барткевіч**—працаваў заг. райана—вылучан заг. культпропам райкома, і т. д.

Сярод комуністаў ёсць рад таварышоў, якія заслужылі таго, каб зняць з іх накладзеныя ў мінулым партспагнанні. Але пярвічныя партарганізацыі і ўсе мы разам не заняліся яшчэ гэтай справай. Калі таварышы працуюць добра, мы не напамінаем ім аб іх памылках. Зняццё вымовы або іншых спагнанняў было-б стымулам для яшчэ больш адданай работы гэтых таварышоў, аб чым мы павінны паклапаціцца ў бліжэйшы час.

Работа са спачуваючымі была ў нас таксама адным з найбольш адстаючых участкаў. Пярвічныя партарганізацыі спадзяваліся выхаваць партыйнасць у спачуваючых, даручаючы ім толькі абавязкі зборшчыкаў членскіх узносаў; да гэтага дадумаліся і на лесазаводзе і ў райспажыўсаюзе. Натуральна, што пры такім становішчы групы спачуваючых не раслі. Райком намеціў цяпер рад мерапрыемстваў, якія забяспечваюць ахоп усіх спачуваючых партвучобай, а таксама ахоп беспартыйнага актыва, рабочых і лепшых калгаснікаў палітвучобай і іншымі відамі масавай работы з мэтай палітычнага вырошчвання іх і ўцягнення ў групы спачуваючых. Такія-ж мерапрыемствы праводзяцца і сярод таварышоў, якія ў час чысткі былі пераведзены з членаў у кандыдаты партыі. Яны грунтоўна падрыхтоўваюцца к таму, каб зноў стаць у рады актыўных членаў партыі.

У выніку гэтых мерапрыемстваў, пасіўных і «маўчальнікаў» стала значна менш. Аднак недахопаў у нас у гэтай справе яшчэ нямала, і на партыйна-масавую работу трэба прыналегчы як мага больш.

* * *

Навесці большэвіцкі парадак у партыйнай гаспадарцы—гэта значыць, перш за ўсё, узняць рэволюцыйную партыйную пільнасць комуністаў, знішчыць неахайныя адносіны да тэхнікі вядзення партыйнай гаспадаркі, пазбавіць класава-чуждых людзей усякай магчы-

масці пранікаць у партыйныя рады, арганізаваць правільны падбор і вырошчванне кадраў. А якраз партыйная гаспадарка да праверкі пастаўлена была ў нас больш чым няважна.

Вось што гаворыць член партыі т. Кушнерова аб ранейшай пастаноўцы партыйнага ўліку ў нашым райкоме: «Я прыехала ў рагачоўскі райком, прад'явіла партбілет, і мяне адразу накіравалі на работу. Пра ўліковую картку ніхто і не запытаў». Пры такіх адносінах да справы маглі ўзяцца на ўлік выключаныя з іншых парторганізацый жулікі і прахадзімцы. Так было, напрыклад, з Эйдліным, які ў 1929 годзе прыехаў у Рагачоў з Чырвонай арміі, дзе быў пераведзен у члены партыі, але не меў партбілета. У райкоме Эйдліну выдалі партбілет, не праверыўшы соцпаходжання. І зусім не выпадкова, што Эйдлін цяпер выключан з партыі, як маючы сувязь з класава-чуждым асяроддзем і растратчыкамі. Калі-б райком у свой час не аднёсся да справы фармальна, то ясна, што Эйдлін партбілета не атрымаў-бы.

Адносіны да партбілетаў былі самыя безадказныя. Загадчык Дома калгасніка гор. Рагачова т. Губскі расказвае, што члены партыі, начуючы ў Доме калгасніка, замест камандзіровачнага або іншага дакумента, давалі партбілеты і нярэдка іх забывалі ўзяць назад. У адным толькі 1932 г. ён здаў у райком 15 забытых партбілетаў. Хіба гэта не яркая характарыстыка безадказнейшых адносін да партыйных дакументаў?

З дапамогай комуністаў адабраны 24 партбілеты і 20 кандыдацкіх картак ад асоб, якія не маюць ніякага дачынення да партыі, г. зн.— ад выключаных, ад родзічаў памёршых членаў партыі і т. д.

Асноўная задача зараз у тым, каб узняць партыйную пільнасць, усведамленне таго, што да партдакументаў неабходна адносіцца беражліва. У гэтай справе мы дабіліся станоўчых рэзультатаў.

Вось адзін з фактаў, які сведчыць аб многім. Калгасніца Калініна пасля смерці свайго мужа-комуніста накіравалася пеша за 15 клм. у горад, каб здаць партбілет у рукі сакратара райкома, бо парашыла нікому не давяраць гэтай справы. Гэта гаворыць аб тым, што значэнне самых беражлівых адносін да партбілета добра ўсвядомлена не толькі членамі партыі, але і сумленнымі беспартыйнымі.

Аднак, аднаго гэтага безумоўна недастаткова. Трэба дабіцца ўзорнага вядзення партыйнай гаспадаркі ў нізавых партарганізацыях. У гэтай справе мы дапусцілі вялікую палітычную памылку: многа гаварылі на партсходах аб пільнасці, мабілізоўвалі на ўзорны парадак, але сапраўдную праверку гаспадаркі нізавых партарганізацый правялі незадоўга перад здачай матар'ялаў праверкі ў ЦК.

У партарганізацыі Турскай вопытнай станцыі аказалася, што з пяці комуністаў трое не мелі ўліковых картак, партдакументы параскіданы, апошніх пратаколаў не знашлі. У Гарадзецкім сельсовеце беспартыйны сакратар сельсовета праглядаў усе партыйныя дырэктывы і іншыя партдакументы і падшываў іх у папку агульных сельсовецкіх спраў. У Гадзілавіцкім сельсовеце старшыня Кухараў не мог прад'явіць партыйныя справы для праверкі камісіі ЦК толькі таму, што ключ ад шафы знаходзіўся ў беспартыйнага сакратара сельсовета.

На знішчэнне гэтага бясчынства мабілізавана была ўся партарганізацыя. Пашыранае паседжанне бюро райкома дало канкрэтныя ўказанні ўсім парторгам, а пасля праведзен рэйд праверкі. Пратаколы сходаў прыведзены цяпер у парадак, усе партсправы падшыты,

копіі ўліковых картак адпавядаюць наяўнаму складу комуністаў, для хавання партдакументаў заводзяцца спецыяльныя, абітыя жалезам скрыні.

Аднак і гэтым яшчэ не вычэрпваецца большэвіцкі парадак. Навесці большэвіцкі парадак—гэта значыць, таксама, цалкам ліквідаваць стыхійнасць і самацёк у партыйнай рабоце. Тым часам пры праверцы партдакументаў было ўстаноўлена, што значная частка партарганізацый не мела планаў работы, а другая частка, маючы план, не абгаварвала на партсходах і 50 проц. вызначаных пытанняў.

Вядома, што рабская прыхільнасць да плана, незалежна ад якіх-бы там ні было падзей і змен, прама супярэчыць ленінска-сталінскаму стылю работы. Але і бяспланавасць не да твару большэвіка. Таму перад кожнай пярвічнай партарганізацыяй пастаўлена задача—скласці канкрэтны план работы, прадугледзеўшы ў ім час паседжання, пытанні і хто да іх павінен рыхтавацца. Каб лягчэй было прадбачыць бліжэйшыя задачы, план складаць на 1—2 месяцы і абгаварваць на партсходах. Пры такой пастаноўцы справы стыхійнасць выключаецца.

Зусім ясна, што, побач з планавымі, на кожным партсходзе могуць усплываць і няпланавыя, бягучыя пытанні; сама пастаноўка планавых пытанняў можа мяняцца ў той ці іншы бок, калі гэта выклікаецца неабходнасцю.

Нарэшце, мы патрабуем ад кожнага комуніста, каб ён узмоцнена рыхтаваўся да партыйнага дня, прадумваў загадзя кожнае пытанне абвесткі і свае канкрэтныя прапановы. Ад парторга патрабуем, каб ён зрабіў на партдні справаздачу аб рэалізацыі рашэнняў, вынесеных комуністамі на папярэдніх партсходах, што стымулюе актыўны ўдзел у абгаварэнні абвесткі дня.

З падрыхтоўкай і правядзеннем партыйных дзён, з планавасцю ў рабоце цесна звязана пытанне аб партнагрузках. На долю кожнага комуніста прыпадае нейкая нагрузка. Аднак успамінаюць пра іх толькі тады, калі парторг рыхтуецца да справаздачнага сходу і, у літаральным сэнсе,—збірае звесткі аб выконваемых нагрузках.

Мы лічым, што будзе зусім правільным адмовіцца ад такога метада, і прапануем, каб пярвічныя арганізацыі давалі комуністам нагрузку ў парадку выканання вызначанага месячнага плана (падрыхтаваць пытанне да партдня, выканаць заданне па рэалізацыі прынятых партсходам рашэнняў і т. п.) і на гэтым правяралі яго работу. Пры такой пастаноўцы справы ўсе ўдзельнічаюць у бягучай партыйнай рабоце.

Наша партарганізацыя слаба працавала таксама і над ідэйным узбраеннем комуністаў рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма. Райком наладзіў цяпер вучобу ўсіх комуністаў, у тым ліку і кіруючых работнікаў, што асабліва важна, бо кіруючы актыў гадамі над сабой не працаваў. На працягу асенне-зімовага перыяда, побач з папярэднім вывучэннем работы ў школе, намечана заслухаць на паседжанні бюро РК справаздачы большасці комуністаў аб тым, як яны наведваюць вучобу, як засвойваюць матар'ял, як выконваюць заданні па завочнаму навучанню. Вядома, што гэтым ставіцца мэта не столькі падсцёгваць, як дапамагаць комуністу хутчэй расці.

ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні пры прыёмцы праверкі партдакументаў зусім правільна ўказаў на нездавальняючую і слабую пастаноўку партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў нашай

партарганізацыі. ЦК звярнуў асаблівую ўвагу на слабасць партыйнай вучобы, слабую пастаноўку палітыка-выхаваўчай і партмасавай работы сярод калгаснікаў і беспартыйнага актыва, на нездавальняючую работу па вывучэнню і падрыхтоўцы новых кадраў, на няправільнасць расстаноўкі партыйных сіл і слабую работу сярод тавышоў, пераведзеных у час чысткі з членаў у кандыдаты. Разам з тым ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні даў практычныя канкрэтныя ўказанні райкому і ўсёй партарганізацыі, як узняць усю партработу на такі ўзровень, які адпавядаў-бы задачам сёнешняга дня.

Наша задача—забяспечыць выкананне рашэння ЦК КП(б)Б, каб у найкарацейшы тэрмін дабіцца карэннага пералому ва ўсёй партыйнай рабоце.

Вось некаторыя канкрэтныя мерапрыемствы па разгортванню партыйна-масавай работы на тры бліжэйшыя месяцы:

а) правесці трохдзенныя курсы парторгаў для прапрацоўкі пытанняў, звязаных з пастаноўкаю арганізацыйна-выхаваўчай работы у пярвічных партарганізацыях;

б) штомесяц склікаць раённы партыйны сход для прапрацоўкі пытанняў разгортвання партмасавай работы, павышэння авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці і ў калгасе;

в) штомесяц на сходах раённага партактыва прапрацоўваць пытанні аб палітмасавай рабоце сярод беспартыйных, аб вылучэнні беспартыйнага актыва, аб рабоце з групамі спачуваючых, аб задачах выхаваўчай работы з комсамолам;

г) на штомесячных нарадах прапагандыстаў абгаварваць метады кіраўніцтва райкома школамі, пытанні работы прапагандыстаў над сабой;

д) штомесяц склікаць куставыя нарады комуністаў-адзіночак для заслухвання іх індывідуальных дакладаў і прапрацоўкі пытанняў работы палітгурткоў данага куста, пярвічных комсамольскіх арганізацый, правядзення палітдзён у калгасах, работы з беспартыйным актывам, работы дамоў соцкультуры і чырвоных куткоў.

Калі мы поўнасцю правядзем у жыццё намечаныя мерапрыемствы (а дабіцца гэтага мы павінны), то для партыйнай арганізацыі адпадзе ўсякая патрэба адміністраваць і займацца падменай гаспадарчых органаў.

Узорна пастаўленая масава-выхаваўчая работа не можа не спрыяць, у сваю чаргу, датэрміноваму выкананню ўсіх гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў, калі толькі яна будзе праводзіцца не наогул, а ўвязвацца з практычным вырашэннем пастаўленых партыяй і ўрадам чарговых задач.

Мы даб'емся гэтых вынікаў тады, калі кожны комуніст добра ўсвядоміць, што ён перш за ўсё член партыі, што партыйная работа і партыйныя абавязкі—на першым плане.

Наша бліжэйшая задача—умацаваць комуністамі вёску, бо прапорцыя іх размеркавання паміж горадам і вёскай не зусім правільная, на што зварачае нашу ўвагу ЦК КП(б)Б.

Трэба аказаць дапамогу ленінскаму комсамолу як у наладжванні масавай палітвыхаваўчай работы, так і ў пытаннях арганізацыі палітвучобы.

Многа яшчэ трэба папрацаваць над тым, каб комуніст, дзе-б ён ні працаваў, ці то на прадпрыемстве, ці ў калгасе, ці ва ўстанове,— каб ён усюды выконваў сваю авангардную ролю.

Мы ўпэўнены, што пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале з тав. Гікало, рагачоўская партарганізацыя, ачысціўшы свае рады ад жулікаў, прахадзімцаў і ўсякіх чуждых элементаў, навядзе бальшэвіцкі парадак у сваім уласным партыйным доме, як гэтага патрабуе ЦК ВКП(б) і наш правадыр і настаўнік—тав. Сталін. Яна будзе моцна змагацца за выкананне ўсіх дырэктыў і рашэнняў партыі, каб заняць адно з перадавых месц у радах КП(б)Б.

**Б. Мар'янаў**

**Сакратар хойніцкага РК КП(б)Б**

Ліст ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года паставіў перад усёй партыяй, як неадкладную палітычную задачу,—навядзенне парадку ў нашай партыйнай гаспадарцы, выгнанне з радоў партыі класава-варожых і чуждых элементаў, якія ашуканчым шляхам прабраліся ў яе, і разгортванне партыйна-масавай работы. У гэтым выражаюцца клопаты таварыша Сталіна аб далейшым умацаванні радоў партыі і ўздыме ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

У пачатку праверкі партдакументаў бюро райкома не разгарнула дастатковую работу. Паступала вельмі мала выкрываўчага матар'ялу, а ў некаторых пярвічных партарганізацыях (соўгас «Рудакоў», вінзавод «Стрэлічаў») існавала нават кругавая парука. Праверка, такім чынам, зводзілася да фармальнай зверкі партдакументаў.

Тым часам палітычнае мінулае раёна патрабавала самага сур'ёзнага і глыбокага падыходу да праверкі партдакументаў кожнага комуніста паасобку. Тэрыторыя Хойніцкага раёна, пачынаючы з 1917 года, падвяргалася безупынным акупацыям (нямецкай, польскай), налётам розных банд: Балаховіча, Стрэкапытава і інш., у местачковым цэнтры існавалі арганізацыі буржуазна-нацыяналістычнай партыі сіяністаў-гехолуц, да 1927 года ў раёне аперавала ўзброеная банда Сапляка, у 1930 г. узнікла контррэволюцыйная ўзброеная банда кулакоў, ліквідаваная ў 1931 годзе.

Усё гэта патрабавала ад партарганізацыі высокай большэвіцкай пільнасці, разгорнутай крытыкі і самакрытыкі. У выніку глыбокай прапрацоўкі закрытага ліста і паследуючых пастаноў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб ходзе праверкі ў радзе партыйных арганізацый, у нашай партыйнай арганізацыі ўзнялася актыўнасць комуністаў, павысілася іх пільнасць і разгарнулася сапраўдная большэвіцкая крытыка і самакрытыка, не гледзячы на асобы.

Аб актыўным удзеле комуністаў у праверцы партдакументаў сведчаць больш 300 заяў і выступленні на партыйных сходах з выкрываўчым матар'ялам. Нельга не адзначыць таксама вялікага ўдзелу беспартыйных актывістаў у падачы выкрываўчага матар'ялу. Ёсць факты, калі калгаснікі прыходзілі непасрэдна ў райком і падавалі свае заявы на паасобных комуністаў. За 15 кілометраў з калгаса «Чырвоны партызан» да сакратара райкома з'явілася калгасніца і выкрыла комуніста Дрончанка, былога бандыта банды Балаховіча.

Усё гэта дало магчымасць таксама разбіць і кругавую паруку, якая мела месца ў пярвічных партарганізацыях соўгаса «Рудакоў» і вінзавода «Стрэлічаў». Бюро райкома вынесла рашэнне аб правядзенні паўторнай праверкі партдакументаў у гэтых партарганізацыях.

У выніку была выкрыта, асабліва па рудакоўскай пярвічнай парт-арганізацыі, цэлая група ворагаў і чужакоў, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

Уся праверка партыйных дакументаў праводзілася намі на аснове глыбокага вывучэння жыццёвага шляху комуніста, яго ідэйнай узброенасці, авангарднай ролі і здольнасці змагацца за генеральную лінію партыі, з адначасовай глыбокай праверкай усёй работы пярвічнай партарганізацыі.

У выніку такога падыходу да праверкі, мы выгналі з радоў партыі класавых ворагаў і чужакоў, выявілі новыя кадры для вылучэння на партыйную, совецкую, гаспадарчую работу, дабіліся пэўнага ажыўлення ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Некалькі спынімся на тым, каго мы выкрылі пры праверцы партдакументаў.

Вось былы нарсуддзя Ранчынскі. У 1919 годзе працаваў у Жыткавіцкім рэўкоме. Пры наступленні белапалякаў старшыня рэўкома загадаў яму эвакуяваць рэўкомаўскі архіў, аднак Ранчынскі застаўся ў раёне і здаў архіў белапалякам. Цесна сябраваў з начальнікам польскай паліцыі, наведваў польскія курсы. Пасля ачысткі раёна ад белапалякаў свае людзі прыстройваюць Ранчынскага зноў у рэўком, дзе ён працуе доўгі час на совецкай рабоце, а ў 1930 г., захаваўшы сваё мінулае і соцпаходжанне, пралазіць у партыю. Ужо працуючы ў Хойніцкім раёне нарсуддзёй, хаваў у сябе збегшага з-пад арышту былога двараніна Рамашэўската. Сам Ранчынскі паходзіць з кулацкай сям'і.

Рухлевіч і Анікеенка—былыя актыўныя ўдзельнікі стрэкапытаўшчыны пры заняцці гэтай бандай Хойніцкага раёна. Рухлевіч у гэты час сумесна са стрэкапытаўцамі ўдзельнічаў у забойстве камандзіра чырвонага атрада—прадстаўніка рэчыцкай ЧК. Пашкевіч, Янковіч—правакатары, выдавалі белапалякам чырвоных партызан. Сапляк, Дрончанка—былыя ўдзельнікі банды Балаховіча. Турчыны, Адам і Іван, пры наступленні белапалякаў аграбілі і забілі каля вёскі Малішаў адступаўшага чырвонаармейца, другі дзенікінскі добраахвотнік да апошняга часу быў звязан з варожым і шпіёнскім элементам. Капусцін—былы бандыт і ўдзельнік яўрэйскіх пагромаў у мястэчку Чырвонаполле. Бегельман—былы дэзерцір Чырвонай арміі, член хойніцкай арганізацыі сіяністаў-гехолуц. У стрэлічаўскай пярвічнай парт-арганізацыі была выкрыта трацкістка Рубіна—ярая абаронца свайго мужа трацкіста Пальтара, выключаная з партыі ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, і іншыя.

Паўстала пытанне: якім-жа чынам гэтыя ворагі маглі апынуцца ў партыі? Аналіз гэтага пытання яскрава паказаў, што здарыцца гэта магло толькі ў выніку адсутнасці большэвіцкай пільнасці пры прыёме ў партыю, у выніку арганізацыйнай распусты, злачыннай дабрадушнасці і ратазейства комуністаў, безадказна даваўшых рэкамендацыі, у выніку грубага парушэння статуту нашай партыі.

Выяўлены факты, калі рэкамендацыі чужакам і ворагам для прыёму ў партыю выдавалі былыя адказныя партработнікі раёна: старшыня РКК—Дынаў, работнікі Хацімчанка, Шулькін і інш.

Засмечванню партыйных радоў спрыяла і кругавая парука, якою былі звязаны ворагі і чужакі, пралезшыя ў партыю. Прыкрываючыся

партбілетам, яны працягвалі ў партыю сваіх людзей. Так, напрыклад, правакатар Янковіч уцягнуў у партыю правакатара Пашкевіча, чужак Казак уцягнуў у партыю чужака Куліцкага і т. д.

У рэзультаце дасканалага абгаварэння ў партыйнай арганізацыі вынікаў праверкі і тых шляхоў, па якіх вораг пранікаў у рады партыі, мы дабіліся яшчэ большага ўздыму большэвіцкай пільнасці ў партарганізацыі і павышэння адказнасці за непахіснасць статута і праграмы партыі, за глыбокае веданне і строгае ажыццяўленне іх кожным комуністам.

Вышэй мы ўжо гаварылі аб тым, што праверка партыйных дакументаў спрыяла значнаму ажыўленню партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Калі да праверкі райком партыі найбольшую ўвагу ўдзяляў палітгаспадарчым пытанням, то цяпер у цэнтры ўвагі райкома стаяць пытанні партыйнай работы.

У цэлым радзе пярвічных партарганізацый (калгас «Комунар» № 1, завод «Адраджэнне», пярвічныя арганізацыі РК КП(б)Б, РВК, МТС і інш.) устанавілася па плану рэгулярнае правядзенне партдзён. Абвестка дня загадзя падрыхтоўваецца, галоўнае месца ў ёй займаюць унутрыпартыйныя пытанні: прапрацоўка рашэнняў партыі, індывідуальныя справаздачы комуністаў, справаздачы кіраўнікоў гурткоў і школ партыйнай асветы і т. д., узнялася дысцыпліна комуністаў.

Многія раней пасіўныя таварышы прымаюць зараз актыўны ўдзел у партжыцці.

Напрыклад, кандыдат партыі т. Гапоненка Адам раней нічым не выяўляў сваёй актыўнасці, на партсходах маўчаў. Пасля праверкі партдакументаў, гутаркі з сакратаром райкома і індывідуальнай справаздачы на сходзе пярвічнай партарганізацыі Гапоненка перарадзіўся: прымае актыўны ўдзел у рабоце, моцна ўзяўся за вучобу.

Член партыі т. Ронжына—добрая работніца калгаса «Комунар №1», але вечная маўчальніца на партсходах. У гутарцы з сакратаром райкома пры праверцы партдакументаў выявілася, што Ронжына нядрэнна арыентуецца ў асноўных пытаннях бягучай палітыкі партыі і ўрада, і толькі нейкая няўпэўненасць у сабе прымушае яе быць маўклівай. Цяпер Ронжына ўзялася за вучобу, прымае актыўны ўдзел у партжыцці і вылучана на пасаду старшыні сельсовета. З работай спраўляецца нядрэнна. Актыўна дапамагаюць ёй пярвічная партарганізацыя і інструктар райкома т. Бандарэнка. Ронжына расце на рабоце.

Актыўны ўдзел у партжыцці пачалі прымаць Купчык, Масюк (МТС) і інш. таварышы, якія раней лічыліся ў пасіве.

Непасрэднае азнаямленне з кожным комуністам у час праверкі дапамагло выявіць значную колькасць новых кадраў для вылучэння на партыйную, совецкую, комсамольскую, гаспадарчую работу. Мы вылучылі 9 новых парторгаў, 2 штатных і 6 пазаштатных інструктароў райкома, выявілі кадр таварышоў з 14 чал. для вылучэння на прапагандысцкую работу. Умацаванне кадра партыйных работнікаў безумоўна спрыяла ажыўленню і ўздыму партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы.

Замест выключаных з партыі вылучана ў якасці старшынь сельсоветаў 6 таварышоў. На гэтай пасадзе многія з іх паказваюць сапраўдныя ўзоры работы. Сюды адносіцца, напрыклад, тав. Костачкін—старшыня Паселіцкага сельсовета, т. Шпітальнік—старшыня ме-

стачковага сельсовета; яны настойліва выводзяць свае сельсоветы ў рады перадавых.

Значна ўмацаваны і апарат райкома комсамола, у якім працуе зараз 4 члены партыі.

Вылучаны таварышы на пасады райунутргандлю і старшыні райсовета Асоавіяхіма.

Значнае палепшанне мы маем таксама і ў галіне ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў. Праверка выявіла нізкі палітычны ўзровень значнай часткі партарганізацыі. Пры пярвічных партарганізацыях, акрамя вячэрніх і кандыдацкіх школ, працавалі толькі 4 гурткі па вывучэнню гісторыі партыі, займаліся яны не рэгулярна, у рабоце было многа шаблона і казёншчыны, што ў сваю чаргу адбівалася і на наведванні.

Падбору прапагандыстаў не ўдзялялася сур'ёзнай увагі. Аб гэтым сведчыць выкрыццё ў час праверкі партдакументаў прапагандыста Кавалеўскага, як правакатара, які выдаваў белапалякам совецкіх актывістаў. Усё гэта, безумоўна, адбівалася і на якасці палітвучобы.

Праверка партыйных дакументаў дала добры ўрок, яна ўзняла цягу комуністаў да вучобы, да вывучэння гісторыі нашай партыі. Значная частка комуністаў цвёрда ўсвядоміла большэвіцкія ўказанні ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб тым, што веданне гісторыі партыі—важнейшы сродак, неабходны для забеспячэння рэволюцыйнай пільнасці.

Цяпер уся партарганізацыя ахоплена вучобай. Працуюць 18 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі і 3 кандыдацкія школы. 40 комуністаў ахоплены завочнай партвучобай.

З асабліваю ўвагай падышлі мы да павышэння якасці партыйнай вучобы. Яшчэ ў ходзе праверкі грунтоўным чынам перагледзелі і перападрыхтавалі склад прапагандыстаў. 10 таварышоў прапусцілі праз раённыя месячныя курсы, 2 чал. праз $2^1/_2$ месячныя курсы пры гомельскай соўпартшколе і аднаго праз $1^1/_2$ месячныя курсы пры Бімзо. Зараз у нас кіруюць вучобай непасрэдна ў гуртках 25 прапагандыстаў. Пры райкоме створан актыў прапагандыстаў і агітатараў з 32 чалавек.

Велізарныя вынікі дала праверка ў справе ўпарадквання партыйнай гаспадаркі. Партыйныя дакументы ў райкоме і пярвічных партарганізацыях захоўваюцца цяпер у належным парадку. Пытаннямі прыёму і зняцця з уліку займаецца непасрэдна сакратар райкома.

Аднак, было-б вялікай памылкай сцвярджаць, што ў нас работа пастаўлена ўжо добра. Мы маем толькі пачатак уздыму работы ў партарганізацыі. Яшчэ не мала недахопаў, на якія ўказаў ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні. Недастаткова крытычна ацэнены вынікі праверкі партдакументаў. Райком адразу не мабілізаваў партарганізацыю на далейшае павышэнне большэвіцкай пільнасці, разгортванне крытыкі і самакрытыкі і палепшанне ўсёй партыйнай работы.

Слаба пастаўлена работа з беспартыйным актывам, яшчэ не ва ўсіх партарганізацыях як след наладжана партыйна-масавая работа, нездавальняюча вядзецца работа з комуністамі-адзіночкамі і спачуваючымі. У працэсе праверкі мы, праўда, правялі трохдзенныя курсы спачуваючых, прапрацавалі з імі статут і праграму партыі, матар'ялы VII кангрэса Комінтэрна, рыхтуем паўторнае скліканне курсаў. Але аднаго гэтага мала. Тым больш, што пярвічныя партарганізацыі яшчэ надта слаба працуюць са спачуваючымі, не паста-

вілі на належную ступень якасць партыйнай вучобы. Усё гэта пытанні, над якімі трэба многа папрацаваць, каб вырасціць новыя кадры, дапамагаючы сваім вылучэнцам.

Выходзячы з указанняў ЦК КП(б)Б, райком распрацаваў на снежань месяц канкрэтны план работы. Уся работа райкома і пярвічных партарганізацый накіравана на ліквідацыю выяўленых недахопаў і замацаванне першых поспехаў пасля праверкі партдакументаў з тым, каб сапраўды ўзняць партыйна-арганізацыйную і палітвыхаваўчую работу на ўзровень патрабаванняў партыі.

Асаблівую ўвагу ўдзяляем рабоце з беспартыйным актывам. 70 беспартыйных калгаснікаў-актывістаў ужо ахоплены завочнай вучобай. Пры пярвічных партарганізацыях ствараюцца гурткі для вучобы беспартыйнага актыва. У якасці кіраўнікоў гэтымі гурткамі райком вылучыў таварышоў з партыйнага актыва.

Праверка партыйных дакументаў, узняўшы боездольнасць партарганізацыі, яшчэ больш павысіла яе аўтарытэт сярод беспартыйных мас працоўных.

Многія комуністы сталі паказваць сапраўдныя ўзоры арганізацыі беспартыйных мас на выкананне задач партыі. Напрыклад, старшы механік МТС член партыі т. Ігнаценка першым у МТС перашоў на стаханаўскія метады работы, пацягнуўшы за сабой астатніх трактарыстаў і механікаў.

Гістарычная прамова таварыша Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і яго геніяльныя ўказанні ставяць перад намі адказную задачу—разгарнуць і ўкараніць стаханаўскі рух ва ўсю работу калгасаў і прадпрыемстваў раёна.

Пасля праверкі партыйных дакументаў наша партарганізацыя з патройнай энергіяй будзе змагацца за большэвіцкую арганізацыю мас на выкананне ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўрада, каб вывесці свой раён у перадавыя раёны нашай ордэнаноснай рэспублікі.

**Н. Малінін**

**Сакратар рэчыцкага РК КП(б)Б**

Калі прадумваеш тыя каласальныя ўрокі, якія ўся наша партыйная арганізацыя ў цэлым і кожны яе работнік паасобку вынеслі з праверкі партыйных дакументаў, яшчэ і яшчэ раз пераконваешся ў выключнай правільнасці і своечасовасці высунутага ЦК ВКП(б) па ініцыятыве тав. Сталіна пытання «Аб непарадках ва ўліку, хаванні і выдачы партыйных білетаў і аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню гэтай справы».

Выключная важнасць і агромнае палітычнае значэнне праверкі партдакументаў зусім законна выклікала з самага пачатку глыбокую зацікаўленасць усёй партыйнай арганізацыі. Прапрацоўка закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая праходзіла пры высокай палітычнай актыўнасці членаў і кандыдатаў партыі.

Характар і змест спрэчак, актыўны ўдзел членаў і кандыдатаў партыі ва ўсім працэсе праверкі сведчаць аб тым, што яны правільна, па-большэвіцку зразумелі высокае прынцыповае значэнне гэтай работы.

У разгорнутай крытыцы і ў пісьмовых заявах, якіх паступіла за ўвесь час, гутарка ішла не толькі аб непарадках у хаванні і выдачы партдакументаў, аб задачах упарадкавання партыйнай гаспадаркі,—уся сіла агня была накіравана на выяўленне і выкрыццё ворагаў партыі, жулікаў, прахадзімцаў, трацкістаў, на выяўленне і знішчэнне недахопаў у агульнай сістэме ўнутрыпартыйнай работы.

Праверка партыйных дакументаў паказала, што ў пастаноўцы партыйнай работы і асабліва партыйнай гаспадаркі рэчыцкая партыйная арганізацыя мела буйныя недахопы. Даволі ўказаць, што ў райкоме партыі арыгіналы ўліковых картак хаваліся ў простай драўлянай шафе, якая знаходзілася ў агульнадаступным пакоі. У парткоме запалкавай фабрыкі «Х Окцябр» хаванне ўліковых картак было даверана беспартыйнаму тэхнічнаму сакратару. У працэсе праверкі партыйных дакументаў выяўлены і адабраны 48 партыйных білетаў і кандыдацкіх картак, якія знаходзіліся на руках у даўно выключаных з партыі і ў беспартыйных родзічаў памёршых комуністаў. Былі выпадкі, калі паасобныя комуністы яўна неахайна і злачынна адносіліся да захавання партбілетаў. Напрыклад, ў членаў партыі Дзюрыча (дырэктар лугтаса), Ольбінскага (старшыня сампромарцелі), Меламедавай на партбілетах аказаліся надпісы і штампы амбулаторый, загса і т. п.

У час праверкі выявілася, што партыйныя білеты, кандыдацкія карткі выдаваліся з парушэннем партыйнага статута. Пачынаючы з 1931 года, райком партыі выдаў 22 партбілеты і кандыдацкія

карткі асобам, якія прашлі толькі праз прыймовую камісію, але не былі зацверджаны бюро райкома. Партбілеты іншы раз выдаваліся не асабіста членам і кандыдатам партыі, а перасылаліся праз розных асоб. Такім чынам ворагам партыі ўдавалася прыкрыць сваё злачыннае мінулае і сучаснае атрыманым ад палітычна блізарукіх ратазеяў партбілетам, выкарыстаць яго для сваёй гнуснай справы.

Прывядзем рад фактаў.

На працягу 9 год рэчыцкая партарганізацыя раўнадушна цярпела ў сваіх радах заклятага класавага ворага Самончыка. У час грамадзянскай вайны ён увесь час быў дэзерцірам Чырвонай арміі, адным з актыўнейшых удзельнікаў стрэкапытаўскага контррэволюцыйнага бандыцкага выступлення. У першыя гады рэволюцыі Самончык арганізаваў забастоўку на совецкіх прадпрыемствах і ўсямерна разлагаў адсталыя рабочыя масы. На працягу ўсяго часу Самончык займаўся рвацтвам, сістэматычнай п'янкай, кампраметацыяй партыі і совецкай дзяржавы. Два браты Самончыка, з якіх адзін у 1920 г. расстрэлен чырвонымі войскамі, з'яўляліся махровымі белагвардзейцамі і служкамі польскай дэфензівы. Характэрна, што Самончык і ўся яго сям'я пражывалі ў Рэчыцы, на вачах многіх тварылі контррэволюцыйныя справы і змагаліся супроць совецкай улады. Не глядзячы на тое, што брат Самончыка тут-жа, у Рэчыцы, быў расстрэлен, Самончык у Рэчыцы-ж уступае ў партыю. Рэкамендаваў яго таксама жыхар Рэчыцы, ведаўшы ўсе яго контррэволюцыйныя справы, «комуніст» Васільеў, які, да рэчы кажучы, у час праверкі партыйных дакументаў, разам са сваім выхаванцам выключан з партыі.

Другая, не менш «яркая фігура»,—Багдановіч. Ён таксама ўвесь час пражывае ў Рэчыцы разам са сваёй сям'ёй. У 1919 г. Багдановіч уступае ў партыю і за партыйным білетам хаваецца ад службы ў Чырвонай арміі. У час белапольскай акупацыі Багдановіч знішчае свой партбілет, адседжваецца дома і разам са сваім бацькам дапамагае палякам разбураць чыгунку, вадакачку і т. п. За ўвесь час свайго прабывання ў партыі Багдановіч ігнараваў усякія рашэнні партыйнай арганізацыі, займаўся рвацтвам.

Прапрацоўка закрытага ліста ЦК ВКП(б) і праверка партыйных дакументаў з'явілася сур'ёзнейшай палітычнай школай, якая значна ўзняла класавую пільнасць партарганізацыі, дала магчымасць навесці поўны парадак у нашым «партыйным доме» і выгнаць з радоў партыі белагвардзейцаў, кулакоў, бандытаў і ўсякіх прахадзімцаў.

Партыйная арганізацыя добра зразумела, што партыйная гаспадарка не ізалявана ад агульнай сістэмы партыйнай работы. Таму ўся дзейнасць райкома партыі і пярвічных партарганізацый, побач з правядзеннем праверкі, была накіравана на ўсямернае палепшанне ўсіх галін унутрыпартыйнай работы.

Райком партыі прыняў цэлы рад мер для ўдасканалення структуры пярвічных партарганізацый. У працэсе праверкі рэарганізавана 9 пярвічных партарганізацый.

Уважліва вывучалі твар кожнага комуніста. За час праверкі партыйных дакументаў і пасля яе, на аснове ўказанняў ЦК КП(б)Б, выяўлена 49 чалавек, якія ідэйна растуць, упаўне апраўдваюць сябе на рабоце. 18 чалавек вылучаны зараз на адказныя ўчасткі, з іх 4—сакратарамі парткомаў і парторгамі прадпрыемстваў і 3—інструктарамі райкома партыі.

Значна палепшылася падрыхтоўка і праводзенне партыйных дзён. У большасці пярвічных арганізацый аб дні і абвестцы партсходу комуністы паведамляюцца загадзя, за 3—5 дзён да сходу. Уведзена, як правіла, практыка прыцягнення комуністаў да падрыхтоўкі пытанняў партыйнага сходу. Сакратары парткомаў аказваюць сістэматычную дапамогу комуністам у падрыхтоўцы дакладаў і іншых пытанняў партыйнага сходу. Усё гэта значна ўзняло актыўнасць і зацікаўленасць комуністаў партыйным днём.

У раёне рэгулярна, два разы ў месяц, праводзяцца куставыя сходы комуністаў-адзіночак, дзе заслухоўваюцца самасправаздачы іх аб рабоце і вучобе. Асаблівую ўвагу ў час праверкі партыйных дакументаў райком і пярвічныя парарганізацыі ўдзялілі пытанню ўзбраення комуністаў марксісцка-ленінскай тэорыяй. Галоўны ўпор у гэтай справе зрабілі на вывучэнне гісторыі ВКП(б), каб «узняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, узняць рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, ліквідаваць да канца элементы самасупакоенасці і дабрадушнасці ў паасобных звеннях партыйнай арганізацыі».

У гэтых адносінах наша партыйная арганізацыя мае значныя вынікі. Праверка партдакументаў дапамагла ажыццявіць рашэнні красавіковага пленума ЦК КП(б)Б і рашэнні ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час».

Райком партыі своечасова прыняў меры барацьбы з усякімі настроямі сезоннасці ў партыйнай прапагандзе і дабіўся таго, што сетка партыйнай вучобы як у горадзе, так і на раёне, працуе беспэрабойна круглы год.

Па ўсёй сетцы партыйнай асветы глыбока прапрацаваны матар'ялы VII кангрэса Комінтэрна і даклад тав. Берыя «Аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі».

У кастрычніку і лістападзе праведзена пераўкамплектаванне ўсёй сеткі партасветы. Зусім інакш пашла гэта работа пасля праверкі партыйных дакументаў, калі кіруючыя работнікі райкома маюць поўнае ўяўленне аб ідэйна-палітычным ўзроўні кожнага члена і кандыдата партыі. Праверкай было выяўлена, што значная частка партыйнай арганізацыі мае зусім недастатковыя веды па гісторыі большэвіцкай партыі. Таму пераўкамплектаванне сеткі партасветы праведзена пад кутом погляду максімальнага ўцягнення комуністаў у школы і гурткі па вывучэнню гісторыі ВКП(б).

Значна павялічылася колькасць ахопленых партыйнай вучобай. Калі ў мінулым годзе ў соўпартшколе пры райкоме займалася 20—22 чал., то цяпер займаецца 57 чал. Тое-ж наглядаецца амаль ва ўсіх школах раёна. Пасля пераўкамплектавання ў 29 групах школ і гуртко̆ў па вывучэнню гісторыі партыі займаецца да 480 комуністаў.

Каб даць комуністам магчымасць больш глыбока вывучыць гісторыю партыі, павялічана колькасць дзён вучобы: з 6-ці ў мінулым годзе да 8 дзён у месяц. Асобая ўвага ўдзелена пастаноўцы партыйнай вучобы сярод комуністаў-адзіночак. Для іх арганізавана спецыяльная сетка куставых партыйных школ па вывучэнню гісторыі партыі. Заняткі адбываюцца тры дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Для кіраўніцтва гэтымі школамі падабраны лепшыя інструктары райкома і партыйны актыў.

У час праверкі партыйных дакументаў быў таксама выяўлен нізкі агульна-адукацыйны ўзровень значнай часткі комуністаў, што

гармазіла палітычную асвету. Таму райком партыі ўвёў ва ўсіх партшколах вывучэнне агульна-адукацыйных дысцыплін: белмовы, геаграфіі і матэматыкі. Для малаграматных комуністаў створаны спецыяльныя школы, якія ставяць мэту—на працягу гэтага навучальнага года ўзняць агульна-адукацыйны ўзровень комуністаў.

Вялікія перашкоды раней сустракаліся ў пастаноўцы вучобы партыйнага актыва, работа якога звязана з частымі раз'ездамі. Для гэтых таварышоў арганізаваны цяпер дэкадныя семінары з адрывам ад вытворчасці. Семінарамі ахоплена 64 чал., якія разбіты па групах у адпаведнасці з узроўнем ведаў. Кіруе імі сакратар райкома.

Каб павысіць тэарэтычны і агульна-культурны ўзровень партыйнага актыва, райком партыі пабудаваў у гэтым годзе ўтульна і культурна абсталяваны дом партыйнага актыва. 1—2 разы ў месяц чытаюць тут лекцыі на розныя палітычныя і навуковыя тэмы высокакваліфікаваныя лектары. Зараз пачаў працаваць гурток па вывучэнню замежных моў, у якім займаецца 26 чалавек партактыва.

У пастаноўцы партыйнай асветы вялікае значэнне мае падбор і работа з прапагандыстамі. У апошні час райком правёў уважлівы адбор і праверку прапагандысцкага складу. Усе прапагандысты зацверджаны бюро райкома.

Для прапагандыстаў арганізаваны два семінары, якія працуюць тры дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Прапагандысты забяспечаны перыядычнай літаратурай і неабходнымі падручнікамі; камплектуюцца асабістыя бібліятэкі для прапагандыстаў, выходзячы з узроўню іх ведаў і запатрабаванняў.

Некаторыя дасягненні ў пастаноўцы ўнутрыпартыйнай работы і ў прыватнасці партыйнай асветы з'яўляюцца далёка недастатковымі. Яшчэ не зусім высока якасная пастаноўка партыйнай прапаганды, партыйная сетка слаба забяспечана падручнікамі, асабліва па гісторыі партыі. Пярвічныя парторганізацыі ўсё яшчэ недастаткова глыбока ўнікаюць у работу кожнай партшколы і гуртка, слаба кіруюць ідэйным ростам паасобных комуністаў. Зусім слаба пастаўлена работа з пераведзенымі пры чыстцы 1933 г. у кандыдаты, а таксама са спачуваючымі.

Праверка партыйных дакументаў ажывіла арганізацыйна-партыйную і палітыка-выхаваўчую работу, значна ўзняла вытворчую актыўнасць комуністаў і ўсіх працоўных раёна ў барацьбе за ажыццяўленне задач, пастаўленых партыяй і совецкім урадам. Асноўныя прадпрыемствы раёна (запалкавая фабрыка, заводы імя Галадзеда, імя Томскага, торфзавод) ужо выканалі свае гадавыя промфінпланы. Нядрэнна разгортваецца стаханаўскі рух сярод значнай часткі рабочых. Аднак, нельга не сказаць аб тым, што мы ганебна адстаем у выкананні паасобных сельскагаспадарчых работ, у прыватнасці плана загатоўкі лёну.

Зусім правільна ўказаў ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні «Аб выніках праверкі партдакументаў па рэчыцкай парторганізацыі», што ў нас ёсць разрыў паміж вытворчай актыўнасцю працоўных і пастаноўкай арганізацыйнай і масавай палітыка-выхаваўчай работы з імі.

Праверка партыйных дакументаў вельмі многаму навучыла нас. Яна паказала жывых людзей, іх запатрабаванні, навучыла, як канкрэтна імі трэба кіраваць.

ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні абавязаў звярнуць асаблівую ўвагу на разгортванне і ўмацненне масавай палітыка-выхаваўчай работы

сярод рабочых прадпрыемстваў, каб узняць на яшчэ большую вышыню палітычную актыўнасць рабочых і авангардную ролю камуністаў.

Ажыццяўляючы ўсе ўказанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па разгортванню арганізацыйна-партыйнай работы і ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў, наша партыйная арганізацыя, ачышчаная ад жулікаў, ворагаў партыі і прахадзімцаў, мае ўсе магчымасці заваяваць і заваюе адно з першых месц у радах большэвіцкай арганізацыі Беларусі.

**С. Кудман**

**Сакратар смалявіцкага РК КП(б)Б**

Праверка партдакументаў, праведзеная па смалявіцкай партарганізацыі, з усёй нагляднасцю паказала, наколькі правільна і своечасова гэта важнейшае палітычнае пытанне было ўзнята нашай партыяй і асабіста тав. Сталіным.

Рашэнні ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў і навядзенні поўнага парадку ў партыйным уліку дапамаглі нам ачысціць партыйную арганізацыю ад трацкістаў, кулакоў, эсэраў, жулікаў і прахадзімцаў, спрыялі значнаму палепшанню пастаноўкі партыйнага ўліку.

Дзякуючы рэалізацыі рашэнняў нашай партыі, яшчэ вышэй узнялася палітычная пільнасць усёй партарганізацыі раёна. З дапамогай членаў партыі мы выкрылі і выключылі з нашых радоў класава-варожы элемент.

Праверка партдакументаў яшчэ больш узняла актыўнасць і палітычную пільнасць комуністаў, аказала вялікую дапамогу ў ачыстцы калгасаў, соўгасаў і прадпрыемстваў ад класава-чуждых элементаў.

Пры прапрацоўцы ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая на заводзе «Чырвоны сцяг» комуністы ў спрэчках указалі на засмечанасць завода класава-чуждым элементам. Быў праверан класавы склад рабочых і служачых, і ў выніку выкрыты і выгнаны з завода 39 кулакоў, былых жандараў, белагвардзейцаў і т. п. З Жодзінскай вузкакалейкі выгнана 13 чалавек класава-чуждых элементаў. А разам па ўсяму раёну—156 чал.

Падводзячы вынікі работы, мы цяпер можам сказаць, што партыйную гаспадарку вялі нездавальняюча. Даволі ўказаць хоць-бы на такія факты: Комуніст Пастэрнак на працягу шасці месяцаў быў на ўліку ў пярвічнай партарганізацыі МТС без уліковай карткі. На комуністаў Апаровіча і Гнусевіча не запаўняліся уліковыя карткі на працягу 4—5 месяцаў. Выключаны з партыі асвейскім РК КП(б)Б сын жандара Махнач прад'явіў партарганізацыі торфзавода імя Гея квіток рэдакцыі на аб'яву аб згубе партбілета і на гэтай падставе лічыўся там членам партыі, наведваў закрытыя партсходы, плаціў членскія ўзносы. Махнач цяпер выкрыт і прыцягнут да адказнасці як аферыст. Рад пярвічных партарганізацый неахайна вялі і захоўвалі партыйныя справы (торфарцель імя XVII з'езда партыі, соўгасы «Леніна», «Пяцігодка» і інш.). Не ў поўным парадку знаходзіўся партыйны ўлік і ў самім РК КП(б)Б.

Зусім іншы выгляд набыла партыйная гаспадарка пасля праверкі партдакументаў. Як у райкоме партыі, так і ў пярвічных партаргані-

зацыях, прыведзены ў поўны парадак усе архівы. Партдакументы захоўваюцца ў яшчыках, шафах і спецыяльных пакоях. Пярвічныя партарганізацыі асаблівую ўвагу ўдзяляюць падтрыманню поўнага парадку ў партыйным ўліку, афармленні партдакументаў, пратаколаў агульных сходаў і т. п.

У ходзе праверкі партдакументаў выявілася, што ў радзе пярвічных партарганізацый (соўгасы «Леніна», «Шыпяны», кандыдацкая група Жодзінскай веткі) нездавальняюча пастаўлена была арганізацыйна-масавая работа. Партсходы праводзіліся нерэгулярна, дакладчыкі слаба рыхтаваліся да якаснага разбору пытанняў, а адсюль і камуністы былі мала актыўны.

Так, у соўгасе «Зарэчча» выступалі заўсёды на партсходах у спрэчках 2—3 чалавекі, пры наяўнасці ў арганізацыі 12 комуністаў. Крытыка і самакрытыка не былі пастаўлены на належную палітычную вышыню. У соўгасе «Леніна» т. Чорнавусу не аказалі належнай дапамогі ў падрыхтоўцы да індывідуальнай справаздачы. Даклад быў зроблен вяла, беззмястоўна, і сход прашоў неактыўна. Парторг Жодзінскай веткі пры арганізацыі самастойных партцэхгруп вылучаў людзей, якія не былі звязаны з работай у цэху і не ведалі ўмоў гэтай вытворчасці. У выніку—слаба разгортвалася соцспаборніцтва і ўдарніцтва, участак стаў адставаць.

З перабудовай партработы комуністы правільна расстаўлены па цэхах, уведзен кантроль, разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наладжана бесперабойная работа партыйных школ і гурткоў, дапамога адстаючым. Прадукцыйнасць працы на ветцы павысілася, гадавы промфінплан выканан на 136 проц.

Праверкай было ўстаноўлена, што на торфзаводзе імя Гея няправільна расстаўлены партыйна-комсамольскія сілы, яўна нездавальняюча праводзіцца партмасавая работа, торфзавод адстаў у выкананні промфінплана, асабліва па фрэзеру. Бюро РК заслухала даклад парторга, дало яму адпаведныя ўказанні і прымацавала ў дапамогу свайго прапагандыста. Зараз торфзавод вышаў у перадавыя, датэрмінова выканаў план торфаздабычы і сушкі, за што атрымаў пераходны сцяг ЦК КП(б)Б і СНК БССР.

Для арганізаванага ахопу комуністаў-адзіночак інструктары райкома рэгулярна, у строга вызначаныя тэрміны, праводзяць куставыя сходы, да якіх загадзя падрыхтоўваюць абвестку дня і, выязджаючы на месцы, знаёмяць з ёю комуністаў-адзіночак, аказваюць ім практычную дапамогу ў рабоце. Комуністы-адзіночкі перыядычна выклікаюцца ў райком для індывідуальных дакладаў і абмену вопытам работы. Тут яны атрымліваюць канкрэтныя ўказанні і практычныя заданні ад бюро.

Зусім слаба працавалі палітшколы торфарцелі імя XVII з'езда партыі, МТС і НКВД. Напалову зрываліся заняткі ў семінары партактыва. Праяўляліся падчас несур'ёзныя адносіны да падбору прапагандыстаў. Напрыклад, былі вылучаны прапагандыстамі тт. Крывашэін і Хаітаў, якія не мелі для гэтага належнай палітычнай падрыхтоўкі і вопыту. Рад прапагандыстаў несур'ёзна рыхтаваліся да заняткаў, не складалі канспектаў.

Сістэматычна не наведвалі партзаняткаў і не працавалі над сабою комуністы і кандыдаты партыі: Дудзіна, Антонаў, Бараноўскі, Шляпаў, Андрыянаў, Семіжон, Голікаў, Чорнавус, Паўлоўскі, Залескі. У ходзе прапрацоўкі ліста ЦК ВКП(б) і праверкі партдакументаў

была ўзнята актыўнасць і мабілізавана ўвага комуністаў на неабходнасць максімальнай работы над сабою для аўладання марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Карэнным чынам перабудавана работа партшкол і партгабінетаў. Самая сур'ёзная ўвага звернута на падбор прапагандыстаў. Да гэтай работы прыцягнуты зараз таварышы Волк Х. Ю., які скончыў Свярдлоўскі універсітэт, Старасценка—рэдактар райгазеты, Фрадкін—інжынер тарфянік, Запроўскі—ваенком, Куніцкі—нач. палітаддзела соўгаса і інш. палітычна падрыхтаваныя і партыйна-вытрыманыя таварышы.

Усе гэтыя мерапрыемствы забяспечылі нам некаторыя зрухі ў наладжванні партвучобы, у вырошчванні партыйных і совецкіх кадраў. Нашы лепшыя школы: комуністаў-адзіночак, кандыдацкая школа Жодзінскай веткі, кандыдацкая школа пры торфзаводзе «Чырвоны сцяг», партшкола пры торфарцелі імя XVII партз'езда і рад іншых.

Раней адставалі, а зараз добра працуюць над сабою, чытаюць газеты, літаратуру наступныя комуністы і кандыдаты партыі: Дудзіна, Русінаў, Эльперын Н., Паўлоўскі, Рубін, Шаршульскі, Залескі, Якімовіч, Семіжон, Харытоненка, Марголін, Апаровіч і інш.

Для павышэння палітычных ведаў былі праведзены 10-дзённыя курсы комуністаў-адзіночак па вывучэнню гісторыі партыі. Кожнаму з курсантаў выдана асабістая бібліятэчка.

Асаблівую ўвагу ўдзяляем рабоце са спачуваючымі: перыядычна праводзім нарады пры райкоме, на якіх заслухоўваем індывідуальныя справаздачы, арганізавалі для спачуваючых дзве палітшколы, якія рэгулярна працуюць.

За час праверкі партдакументаў выяўлен новы актыў з 29 чалавек. Высунута на адказныя пасады 12 чалавек. Слесар з 38-гадовым вытворчым стажам т. Шаршульскі зараз вылучан парторгам Жодзінскай вузкакалейкі. Старшыня калгаса кандыдат партыі т. Залескі вылучан на работу старшынёю Жажэлкаўскага сельсовета. Старшыня рабочкома соўгаса імя Леніна т. Марголін вылучан на пасаду ўпаўнаважанага ЦСПСБ. Нам. сакратара РК ЛКСМ т. Сысаў вылучан сакратаром РК ЛКСМ. Прапагандыст РК ЛКСМ т. Эльперын вылучан нам. сакратара РК ЛКСМ і т. д.

У рэзультаце праведзенай за час праверкі партдакументаў работы, непасрэднай дапамогі з боку ЦК КП(б)Б і асабістага прыезду да нас па пытанню праверкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. Валковіча і заг. аддзелам кіруючых парторганаў т. Рубінштэйна, мы дабіліся якасных паказчыкаў у наладжванні партвучобы, у правядзенні партдзён, маем значную актыўнасць комуністаў, якія раней не выступалі на сходах (Шманай, Трапачкін, Смірноў, Ляўчук і інш.).

Падвёўшы вынікі праверкі партдакументаў, мы адзначаем, што актыўнасць і палітычная пільнасць усёй партарганізацыі і кожнага комуніста значна выраслі. Выганяючы са сваіх радоў усё нягоднае, райпартарганізацыя яшчэ больш узняла свой аўтарытэт сярод шырокіх працоўных мас.

**А. Канопік**

**Сакратар парткома швейнай ф-кі „Окцябр"**

Партарганізацыя швейнай фабрыкі «Окцябр» у асноўным ужо закончыла праверку партыйных дакументаў. Праверка партдакументаў дапамагла навесці парадак у партыйнай гаспадарцы, ачысціць рады нашай партыйнай арганізацыі ад контррэволюцыянераў, (трацкістаў, жулікаў, прахадзімцаў, класава-варожых элементаў, якія, ашуканчым шляхам заўладаўшы партыйным білетам, пралезлі ў рады нашай партыі; яна завастрыла класавую пільнасць, узняла партдысцыпліну, узмацніла барацьбу з праявамі распусты, расхлябанасці з боку паасобных членаў партыі; садзейнічала росту новага партыйнага актыва, узмацніла і ўзняла на вышэйшую ступень партыйна-палітычную і масавую работу на ўсіх участках.

Наша партыйная арганізацыя ўважліва вывучыла мінулае і сучаснае кожнага комуніста, яго барацьбу за лінію партыі на працягу ўсяго часу прабывання ў яе радах.

Праверка партыйных дакументаў дапамагла выявіць рад фактаў безадказнейшых адносін да хавання партыйных дакументаў, асабліва партыйнага архіва. Паасобныя дакументы партыйнага архіва былі знойдзены ў свірнах і ў дапаможных памяшканнях фабрыкі. Вялікая колькасць партыйных дакументаў адабрана ў былых членаў партыі, выключаных 3—4 гады таму назад (у Каплан Розы, Гудэ Х. Б., Лот і інш.).

Наша партарганізацыя правяла вялікую падрыхтоўчую работу да праверкі партыйных дакументаў. На сходах комуністы выкрывалі паасобных людзей, якія сваімі паводзінамі і сваім мінулым не заслугоўваюць высокага звання члена партыі.

Выяўлен рад фактаў прамога парушэння партыйнага статута пры прыёме ў партыю. Напрыклад, выпіска з пратаколу паседжання бюро партыйнага камітэта швейнай фабрыкі «Окцябр» ад 28/V 1931 года сведчыць аб тым, што рабочыя фабрыкі прымаліся ў кандыдаты і пераводзіліся ў члены партыі цэлымі спісамі. На калектыўнай заяве 25-ці рабочых фабрыкі, паданай на ўрачыстым сходзе аб прыёме іх у партыю, была накладзена рэзалюцыя адным з работнікаў партыйнага камітэта: «Прыняць у кандыдаты без зацверджання парткома».

Было не мала фактаў парушэння партыйнага статута пры прыёме ў партыю выхадцаў з іншых партый. Масткова—былая бундаўка, Рохкін Файве—выхадзец з Бунда і інш. былі прыняты без зацверджання ЦК партыі. Увогуле за 1931 год было прынята 160 чалавек з парушэннем партыйнага статута.

Пры такіх масавых урачыстых прыёмах былыя кіраўнікі нашай партарганізацыі самі далі магчымасць пранікнуць у партыю класава-варожым антысавецкім элементам.

Праверка партыйных дакументаў выявіла цэлы рад сур'ёзнейшых недахопаў у пастаноўцы палітыка-выхаваўчай работы ў нашай партарганізацыі. Члены партыі тт. Філіповіч, Гельман, Родзечко, Вайнерэс і інш. не маглі адказаць на заданыя ім пытанні са статута партыі.

Намечан рад практычных мерапрыемстваў, каб забяспечыць выкарыстанне і замацаванне таго ўздыму і актыўнасці, што наглядаліся па нашай партарганізацыі ў час праверкі партыйных дакументаў.

Праверка ўзняла адказнасць за выкананне партыйных абавязкаў. На сходах ставяцца справаздачы комуністаў аб выкананні імі нагрузак. Так, у партыйнай групе Фрэйнклах тав. Мішэль зрабіла справаздачу аб рабоце спачуваючых, у групе Меламед зрабіла справаздачу т. Вічынкіна аб вучобе. Гэты метад дапамагае падцягваць адстаючыя ўчасткі партыйна-масавай работы, ускрываць паасобныя балячкі, якія перашкаджаюць уцягванню новых комуністаў у актыўную работу.

Трэба асоба адзначыць рост актыўнасці комуністаў на партыйных сходах. Калі раней наведванне складала 83—84%, то цяпер—усе 100%.

Вырас і новы партыйны актыў. Рад таварышоў, якіх доўгі час не заўважвалі, вылучаны і працуюць ужо на адказнейшых участках: рабочы 2 цэха Матусевіч—намеснікам старшыні фабрычнага камітэта; рабочы таго-ж цэха стаханавец Бутылёў, член партыі з 1924 года,—парторгам цэха; Кутман, член партыі з 1926 г.—парторгам; Доленко, Карналеўская, Фрэйнклах Г., Табайнік, Дворкіна і інш.

Прыведзена ў парадак партыйная гаспадарка. Для хавання партыйных картак, пратаколаў і больш важных партыйных дакументаў устанавілі спецыяльную шафу, прывялі ў парадак увесь партыйны архіў, што дало магчымасць выявіць рад адмоўных фактаў работы паасобных комуністаў, выкрыць былых трацкістаў, класава-варожы элемент, які да гэтага часу заставаўся ў партыі.

Праверка партыйных дакументаў садзейнічала далейшаму павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў. Для большай гібкасці і прыстасаванасці сеткі партвучобы да ўзроўню развіцця кожнага комуніста былі вылучаны ў цэхавых пярвічных партарганізацыях спецыяльныя брыгады, якія падрабязна знаёміліся з тым, як кожны комуніст працуе над сабой (наведванне партвучобы, паспяховасць, чытка газет і мастацкай літаратуры). Вынікі абследвання абгаварваліся на спецыяльным партыйным дні, дзе прымаліся канкрэтныя рашэнні, вызначаўся тып школы, куды можна рэкамендаваць таго ці іншага таварыша.

Увесь гэты матар'ял абгаварваўся пры ўдзеле комуністаў, потым на паседжаннях парткома, які выносіў канчатковае рашэнне аб структуры партыйнай асветы і далейшай вучобе кожнага партыйца.

Каб падагуліць вопыт работы за летні перыяд і стварыць стымул для далейшай вучобы ўзімку, партарганізацыя падрыхтавала і правяла шырокую тэарэтычную канферэнцыю, прысвечаную 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі.

Матар'ялы да канферэнцыі з твораў Леніна—Сталіна і VII кангрэса Комінтэрна прапрацоўваліся па брыгадах сярод усёй партарганізацыі. На канферэнцыі выступіла 13 таварышоў, якія далі яркі

малюнак барацьбы партыі супроць трацкістаў і зіноўеўцаў напярэдадні Окцябрскай рэволюцыі, у час захопу ўлады пролетарыятам і зараз-жа пасля заваёвы ўлады. Была паказана барацьба партыі супроць Бунда ў 1917 годзе і на далейшых этапах. Дакладчыкі ўвязвалі агульную барацьбу партыі супроць трацкістаў-зіноўеўцаў і Бунда з барацьбой партарганізацыі фабрыкі супроць гэтых элементаў.

На канферэнцыі ўпершыню выступіў рад таварышоў, палітычна вырасшых.

Тав. **Ладышаў** да апошняга часу быў на фабрыцы непрыметным чалавекам. Здавалася, што ён не здолен выступіць па сур'ёзнаму тэарэтычнаму пытанню. Аднак, уцягнуўшыся ў актыўную партыйную работу, ён вельмі добра справіўся са сваёй задачай і вылучан цяпер прапагандыстам.

Тав. **Свердлін**—член партыі з 1931 года, скончыў вячэрні комвуз, пасля чаго партыйная арганізацыя паслала яго на двухмесячныя прапагандысцкія курсы—у выступленні на тэарэтычнай канферэнцыі паказаў свой значны ідэйна-палітычны рост і зараз прызначан прапагандыстам соўпартшколы, дзе выкладае гісторыю партыі.

Тав. **Эвенчык**—член партыі з 1931 года, таксама скончыў вячэрні комвуз, сістэматычна працуе над сабой, чытае перыядычны друк і мастацкую літаратуру, вылучан прапагандыстам і кіруе кандыдацкай школай. Да такіх таварышоў можна аднесці Доленко, Бурштэйна, Кітайчык, Кацовіч, Цукермана і інш.

У ходзе праверкі мы выявілі новыя рычагі і рэзервы для падцягвання ўсёй палітыка-выхаваўчай масавай работы, павышэння класавай пільнасці і актыўнасці ўсіх членаў нашай партыйнай арганізацыі.

* * *

Праверка партыйных дакументаў значна ўзняла авангардную ролю комуністаў на вытворчасці. Прамова вялікага Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў прамысловасці і транспарта зрабілася баявою праграмай дзейнасці партыйнай арганізацыі і ўсяго рабочага калектыва. З нечуваным энтузіязмам і вытворчай актыўнасцю сустрэлі словы тав. Сталіна аб тым, што «Жыць стала лепш. Жыць стала весялей. А калі весела жывецца, работа спорыцца», і адказалі на іх канкрэтнымі справамі, павышэннем прадукцыйнасці працы.

На фабрыцы 220 стаханаўцаў, якія выконваюць свой план ад 180 да 300 проц. З іх 33 комуніста, 40 комсамольцаў, 18 спачуваючых. Кожны рабочы паставіў перад сабой задачу стаць стаханаўцам, павысіць прадукцыйнасць працы, даць працоўным соцыялістычнай радзімы прыгожае і моднае паліто.

Кожны цэх і брыгада пачалі выяўляць сваіх герояў, рэкардзістаў прадукцыйнасці працы. Парторгі цэхаў і брыгад узначалілі стаханаўскі рух і самі сталі стаханаўцамі.

Парторг 2 цэха першай змены т. Бутылёў у выніку сур'ёзна прадуманага плана сам стаў стаханаўцам, перавыконвае норму на 220—250 проц. і ўцягнуў у рух 11 комуністаў. У яго цэху праводзяцца спецыяльныя вытворчыя нарады, якія даюць дзесяткі каштоўнейшых прапаноў для палепшання працэса работы.

Парторг т. Фрэйклах Геня прыдумала рад новых метадаў апра-

цоўкі сваёй прадукцыі і пабіла агульнафабрычны рэкорд, даўшы 340 проц. нормы. Яе брыгада выконвае свой план на 180 проц.

Комсорг першага цэха т. Кітайчык знашла метад, які дае ёй магчымасць давесці прадукцыйнасць працы да 220—240 проц. пры добрай якасці. Да такіх комуністаў-стаханаўцаў адносяцца і парторг Кутман, прафорг Басіхес, Бурштэйн і іншыя.

Спачуваючы т. Гапоненка прышоў на фабрыку некваліфікаваным рабочым. Зараз, аўладаўшы тэхнікай вытворчасці, здаў дзярж-тэхэкзамен на выдатна і ўзняў прадукцыйнасць працы да 330 проц. Тое-ж трэба сказаць і пра спачуваючых тт. Малышко, Нядбальскага і інш.

26 кастрычніка мы правялі партыйны дзень, спецыяльна прысвечаны стаханаўскаму руху, што дало магчымасць ускрыць нашы недахопы. Майстар Кунес, не разумеючы значэння стаханаўскага руху, запэўніваў рабочага Бернштэйна ў тым, што ён усёроўна не выканае павялічанай нормы. З дапамогай партыйнага сходу Кунес уясніў сваю памылку і ў практычнай рабоце выправіў яе. Яго брыгада зараз ідзе ўперадзе. Комуніст Лапідус—майстар брыгады—усё яшчэ не арганізоўвае ў сябе стаханаўскі рух. Аб яго практычнай рабоце партыйны камітэт меў спецыяльнае суджэнне. Майстар брыгады Баранскі не толькі не ўзначаліў, але нават супраціўляўся развіццю стаханаўскага руху, за што быў зняты з работы.

У другі партыйны дзень, 24 лістапада, разбіралася пытанне, як рэалізаваць вялікія словы тав. Сталіна: «Расчысціць шлях стаханаўскаму руху». Комуністы-стаханаўцы рэзка крытыкавалі адміністрацыйна-тэхнічны персанал і дырэкцыю за тое, што яны недастаткова клапоцяцца аб стаханаўцах, не дапамагаюць у рабоце. Партыйны камітэт, разам з дырэкцыяй, падагульняючы вынікі гэтага дня, вызначыў практычныя мерапрыемствы для далейшага пашырэння стаханаўскага руху на нашай фабрыцы.

Партыйная арганізацыя нашай фабрыкі выходзіць з праверкі маналітнай, як ніколі згуртаванай вакол ленінскай партыі і яе любімага правадыра тав. Сталіна, вакол ЦК КП(б)Б і яго лепшага сталінца тав. Гікало, і ў найкарацейшы тэрмін па-большэвіцку знішчыць усе недахопы, якія яшчэ ёсць у яе рабоце.

**Б. Рабкін**

**Сакратар парткома фабрыкі „Комунарка“**

Праверка партыйных дакументаў па нашай партарганізацыі ў асноўным закончана. Зараз мы ўжо маем поўную магчымасць падвесці яе вынікі.

Выключана 10 чалавек контррэволюцыянераў трацкістаў-зіноўеўцаў, кантрабандыстаў, прахадзімцаў і няўстойлівых элементаў. Вызваліўшыся ад іх, партыйная арганізацыя стала больш устойлівай і боездольнай. Узнялася актыўнасць, павысілася адказнасць партыйцаў за выкананне партыйных даручэнняў, за непарушнасць партыйнага статута. Пакончана з такой ганебнай з'явай, як запазычанасць па членскіх партыйных узносах.

Праверка паказала, што палітычны ўзровень партарганізацыі невысокі, што яна не ведала сваіх людзей, не працавала над імі, не вырошчвала новых большэвіцкіх кадраў. Выяўлен рад выпадкаў парушэння партарганізацыяй і паасобнымі комуністамі статута нашай партыі, а таксама запушчанасць партыйнай гаспадаркі.

Партарганізацыя павінна была хутка, па-большэвіцку перабудаваць сваю работу, каб выкарыстаць узросшую актыўнасць і накіраваць яе на вырашэнне пастаўленых партыяй задач. Трэба было вылучыць новыя кадры, замяніць людзей, якія на практычнай рабоце не апраўдалі высокага звання комуніста, не апраўдалі давер'я партыі.

Сярод паасобных членаў партарганізацыі былі такія настроі, што з заменай справа не выйдзе, бо няма патрэбных кадраў. Але варта было добра азнаёміцца са складам партарганізацыі, шчыльна падыйсці да людзей, вывучыць матар'ялы праверкі, як выявілася група партыйцаў, якіх смела можна вылучаць на кіруючую партыйную, профсаюзную і гаспадарчую работу. З выяўленага актыва вылучаны: начальнік бісквітнага цэха, старшыня заўкома, заг. вучэбным камбінатам, двое парторгаў і інш. Тт. Яглоўскі, Флендэр, Маскалец, Заводнік ужо ў пачатку сваёй работы паказалі, што яны з'яўляюцца вартай зменай і здольны забяспечыць кіраўніцтва даручанымі ім участкамі.

Але гэтым рэзервы не вычарпаны. Пры праверцы партдакументаў выяўлена група рабочых партыйцаў (Медзенка, Купершток, Заміроўскі, Глайхенгауз, Цыперовіч), якіх можна будзе ў бліжэйшы час вылучыць на кіруючую партыйную і гаспадарчую работу. Партарганізацыя фактычна пачала ўжо займацца са сваім рэзервам: даваць паасобныя даручэнні, уцягваць у актыўную работу парткома і т. п.

За час праверкі партдакументаў склад парторгаў амаль цалкам аднаўлен. Да гэтых новых кадраў трэба было падыйсці з асаблівай увагай, навучыць іх практычна працаваць. Каб вырашыць гэту задачу, мы арганізавалі семінар парторгаў, на якім прапрацоўваем рад палітычных і практычных пытанняў партгрупы. Пачалі з прапрацоўкі перадавіцы «Правды»—«Кругозор партработника». У праграму семінараў уключаны і практычныя задачы партгрупы па рабоце са стаханаўцамі, арганізацыя кіруючай ролі партыйцаў у справе стаханаўскага руху, як рыхтавацца да партдня, як скласці план работы партгрупы, як працаваць са спачуваючымі і цэлы рад іншых пытанняў, мэта якіх—узняць дзелавую і практычную кваліфікацыю нашых нававылучаных парторгаў цэха.

Сакратар гаркома партыі тав. Хадасевіч, правяраючы нашу партарганізацыю, зрабіў паасобным таварышам (Кугель, Падостравец, Куперштоко і інш.) указанне на іх асаблівую адсталасць у палітычным росце. Таму партком паставіў перад кожным членам партарганізацыі задачу: вучыцца і вучыцца. Зараз амаль усе партыйцы ахоплены партвучобай, рэгулярна наведваюць заняткі.

Цяпер ужо стаіць пытанне аб якасці вучобы, падрыхтоўцы да заняткаў, паспяховасці. Даклады кіраўнікоў гурткоў, індывідуальныя справаздачы комуністаў аб рабоце над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню сведчаць аб тым, што за апошні час рэзка палепшылася якасць вучобы.

Добра працуюць над сабой тт. Флендэр, Масканіна, Куперштох, Шнэйдэр; пачынае падцягвацца Дзятковіч. З індывідуальнай справаздачы кандыдатаў партыі тт. Турэцкага і Варацілава выяснілася, што яны ўсё яшчэ фармальна падыходзяць да партвучобы, не рыхтуюцца да заняткаў, не чытаюць газет. Тав. Турэцкі нават статута добра не ведае, а т. Варацілаў (переведзены за палітняграматнасць у кандыдаты) ухіляецца ад партвучобы. Мы арганізавалі кантроль за партвучобай не толькі тых таварышоў, якія навучаюцца ў нашай фабрычнай сетцы, але і за вучобай 8 чалавек, якія наведваюць вячэрні комвуз.

Мы правялі спецыяльны партдзень, каб праверыць, як члены партыі выконваюць указанні сакратара гаркома тав. Хадасевіча. Справаздачы рабілі тт. Пташнік, Кугель, Куперштох і Гантман. Рэзультаты сходу паказалі, што ўказанні гаркома партыі не прайшлі міма партарганізацыі і міма гэтых комуністаў. Нашу партвучобу мы замацоўваем экскурсіямі і тэарэтычнымі канферэнцыямі, якія не толькі замацоўваюць пройдзенае, але прывучаюць кожнага да самастойнай прапрацоўкі пытанняў па першакрыніцах. Такая канферэнцыя ўжо праведзена па тэме: «Окцябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў». Зараз рыхтуем тэарэтычную канферэнцыю аб народніцтве.

Партком упершыню заняўся папулярызацыяй мастацкай літаратуры. Сярод партыйцаў праводзіцца літаратурная эстафета па творах: «Як гартавалася сталь» Астроўскага і «Паднятая цаліна» Шолахава. У канцы снежня адбудзецца літаратурны вечар, прысвечаны вынікам эстафеты.

Не зусім добра праходзілі ў нас партыйныя дні. Наведванне партсходаў было нізкім—60—70%. Мы зрабілі іх больш змястоўнымі і ідэйна-палітычна насычанымі. У падрыхтоўцы партдня прымае ўдзел не толькі сакратар парткома, а амаль уся партарганізацыя.

Пры праверцы партдакументаў выявілася, што большая частка

арганізацыі не ведае статута, а некаторыя таварышы нават і не чыталі яго. Гэта прымусіла нас рыхтаваць партдзень на тэму «Арганізацыйныя прынцыпы большэвізма». На сходах партгруп прапрацоўваліся пытанні статута і заслухоўваліся інфармацыі парторга аб тым, як члены яго групы выконваюць статут партыі. Сходы прашлі вельмі жыва.

Статут партыі прапрацавалі і ў сістэме партсеткі. Прачытана была лекцыя на тэму аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма. Зараз працуюць 4 брыгады, у якіх прымаюць удзел 28 чалавек, або 45% партарганізацыі. Кожная брыгада працуе над адным з заданняў: веданне і засваенне комуністамі статута партыі; аналіз стану партыйнай вучобы; становішча партыйнай і вытворчай дысцыпліны сярод комуністаў; работа комуністаў над павышэннем сваёй дзелавой кваліфікацыі. На закрытым партсходзе намечана заслухаць справаздачы двух парторгаў аб тым, як члены іх групы выконваюць статут партыі, а таксама заслухаць індывідуальныя справаздачы двух членаў партыі з іншых груп. Работа партыйных сходаў цяпер ажывілася, павысілася дысцыпліна, боездольнасць і актыўнасць членаў партыі.

Партком за апошні час сур'ёзна ўзяўся за наладжванне работы са спачуваючымі, якіх на фабрыцы налічваецца 19 чалавек. Праводзяцца спецыяльныя дні спачуваючых. Да паасобных спачуваючых прымацаваны падрыхтаваныя члены партыі. Аднак, мы яшчэ не дабіліся поўнага ахопу спачуваючых партвучобай, Не займаюцца: Барсук, Мясоўскі, Хейфец. Партком вызначыў рад мерапрыемстваў для палепшання работы.

* * *

У адказ на прамову т. Сталіна магутная хваля стаханаўскага руху ахапіла нашу фабрыку. Кожны дзень нараджае новых стаханаўцаў, новыя і новыя рэкорды. Арганізаваць і ўзначаліць гэты рух мас, канкрэтна і аперацыйна кіраваць кожным стаханаўцам, замацоўваць дасягнутае, адольваць усе перашкоды на шляху стаханаўскага руху— самая пачэсная, самая адказная задача партарганізацыі і кожнага комуніста паасобку.

Партарганізацыя, выкарыстоўваючы матар'ялы першай усесаюзнай нарады стаханаўцаў, пачала з шырокага растлумачэння рабочай масе значэння стаханаўскага руху і сутнасці метадаў работы Стаханава. Выступленні правадыроў партыі, прамова вялікага любімага Сталіна ўзнялі новы энтузіям рабочых. У адказ на выступленне правадыра партыі яны абавязаліся выканаць другую пяцігодку за чатыры гады і тры месяцы. Гадавы план фабрыка выканала 29 лістапада.

Комуністы і комсамольцы ўзначальваюць стаханаўскі рух. Парторг карамельнага цэха т. Маскалец выконвае свой план на 200%, кандыдат партыі т. Кугель—на 200% і больш. Тав. Юрыдзіцкая, скараціўшы сваю брыгаду з 16 да 10 чал., перашла на абслугоўванне двух агрэгатаў, замест аднаго. Слесар Шаблоўскі ўнёс рад рацыяналізатарскіх прапаноў, якія даюць вялікую эфектыўнасць у рабоце. Перадавыя пазіцыі ў стаханаўскім руху занялі таксама комсамольцы Анейчык, Розеншайн, Пікус, Пракаповіч і іншыя. 3-га снежня комсамолец Гунько перашоў на абслугоўванне трох вакуум-апаратаў і даў 6697 кгр. карамельнай масы, пабіўшы такім чынам усесаюзны рэкорд, устаноўлены маскоўскім рабочым фабрыкі «Окцябр» тав. Гра-

човым, які даў 6000 кгр. 8-га снежня на трэцяй змене т. Трушкевіч пабіў рэкорд т. Гунько, даўшы 7663 кгр. карамелі. Рабочыя «Камунаркі» заяўляюць, што яны не спыняцца на дасягнутым і будуць змагацца за яшчэ больш высокую прадукцыйнасць працы на фабрыцы.

Кожны рэкорд мы выкарыстоўваем у сваёй масавай рабоце. Імёны перадавых стаханаўцаў заносяцца на шчыт славы. Лепшым стаханаўцам адрамантаваны кватэры, праведзены радыё-точкі, у інтэрнаце абсталёўваюцца два пакоі для стаханаўцаў і т. д. Да 6 лепшых стаханаўцаў, у прыватнасці да тав. Гунько, прымацаваны лепшыя выкладчыкі. Уся гэта сума мерапрыемстваў праведзена намі за апошні час. Безумоўна, нельга сказаць, што ўсё ўжо зроблена.

Партарганізацыя фабрыкі вышла з праверкі партдакументаў маналітнай, як ніколі згуртаванай вакол ЦК КП(б)Б, вакол вялікага мудрага Сталіна. Гэта лепшая зарука таго, што выяўленыя праверкай недахопы ў рабоце будуць знішчаны ў бліжэйшы-ж час.

ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

# Аб ходзе падрыхтоўкі насення да веснавой сяўбы 1936 года

*Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б*

СНК БССР і ЦК КП(б)Б адзначаюць зусім нездавальняючы ход падрыхтоўкі насення да веснавой пасеўнай кампаніі 1936 года, асабліва па яравой пшаніцы, аўсу, канаплях і травах; нездавальняюча арганізавана ачыстка насення, сартаванне і праверка якасці насення праз кантрольна-насенныя лабараторыі і недапушчальна дрэнна праводзіцца міжкалгасны абмен гатунковага насення.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б падкрэсліваюць асабліва недапушчальнае адставанне ў падрыхтоўцы насення да сяўбы па Уваравіцкаму, Дрысенскаму, Ушацкаму, Мсціслаўскаму і Крупскаму раёнах, у якіх план засыпкі зернавога насення выканан ад 19 да 45 проц. Недапушчальна дрэнна арганізавана ачыстка насення і амаль зусім не прыступілі да міжкалгаснага абмену гатунковага насення.

Такое становішча з падрыхтоўкай насення да веснавой сяўбы ў радзе раёнаў СНК БССР і ЦК КП(б)Б расцэньваюць, як адсутнасць усякай работы з боку раённых арганізацый да такога важнейшага дзяржаўнага пытання і ў радзе выпадкаў, як прамую недаацэнку справы своечасовай засыпкі насення, яго ачысткі і праверкі на ўсхожасць, як аднаго з важнейшых мерапрыемстваў у падрыхтоўцы да сяўбы і барацьбе за высокі ўраджай.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць райкомы і райвыканкомы, райза і МТС забяспечыць поўную засыпку насенных і страхавых фондаў у калгасах, арганізаваць суцэльную праверку насення па якасці, годнасці для пасеву, устанавіць дасканалы кантроль за работай кантрольна-насенных лабараторый і прыняць самыя рашучыя меры да хутчэйшага міжкалгаснага абмену насення на гатунковае.

2. Арганізаваць кругласутачную работу па ачыстцы насення на трыерах і сартоўках, вылучыўшы для гэтага адказных асоб. Устанавіць календарнае заданне на кожную машыну.

3. Устанавіць канчатковы тэрмін па поўнай падрыхтоўцы насення да веснавой сяўбы—20 снежня 1935 г.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б папярэджваюць раённыя арганізацыі, што засыпка насення будзе лічыцца выкананай тады, калі насенне будзе засыпана ачышчаным і правераным на ўсхожасць.

4. Даручыць тт. Гераўкеру (ЦК) і Кароўнікаву (НКЗ) намеціць 20 чал. з апарата Наркамзема, Заготзярна і Камзага для пасылкі ў адстаючыя раёны па падрыхтоўцы насення да сяўбы. 15 снежня за-

слухаць на бюро ЦК паведамленне адстаючых раёнаў па засыпцы насення.

5. СНК і ЦК папярэджваюць асабіста сакратароў райкомаў, старшынь райвыканкомаў, загадчыкаў райза і дырэктароў машына-трактарных станцый, што яны нясуць персанальную адказнасць за поўную падрыхтоўку насення да сяўбы ва ўстаноўлены тэрмін, як важнейшае мерапрыемства ў барацьбе за ўраджай.

**6.** Прапанаваць рэдактарам цэнтральных і раённых газет штодзенна асвятляць на старонках друку ход падрыхтоўкі насення да **сяўбы.**

Нам. старшыні СНК БССР **СААКЯН.**
Сакратар ЦК КП(б)Б **ВАЛКОВІЧ.**

# Аб становішчы прапагандысцкай работы ў партарганізацыях Капыльскага і Жыткавіцкага раёнаў

### Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы даклад сакратароў РК КП(б)Б капыльскага—т. Штэйнгардта і жыткавіцкага—т. Гарбунова, бюро ЦК КП(б)Б лічыць зусім нездавальняючым становішча партыйнай прапаганды ў гэтых раёнах. Бюро РК КП(б)Б і, у прыватнасці, сакратары РК—тт. Штэйнгардт і Гарбуноў не зразумелі і не зрабілі неабходных вывадаў з рашэнняў ЦК ВКП(б) аб прапагандысцкай рабоце на бліжэйшы час і, замест асабістага канкрэтнага кіраўніцтва гэтай важнейшай для партыі справай партыйнай прапаганды і агітацыі, перадаверылі гэту работу работнікам партапарата.

Указанне ЦК ВКП(б) аб знішчэнні сезоннасці, фармалізма ў партыйнай вучобе, сур'ёзным падборы, уліку і рабоце з прапагандысцкімі кадрамі, аказанні ім дапамогі, ліквідацыі механічнага камплектавання школ і гурткоў—не выканана. Да тэтага часу да прапагандысцкай работы не прыцягнуты раённы партактыў.

У рэзультаце ўсяго гэтага ў Жыткавіцкім і Капыльскім раёнах да прапагандысцкай работы былі дапушчаны чужыя і неправераныя людзі. Заняткі ў школах і гуртках праходзяць вяла, не зацікаўліваюць слухача, а часамі тэтыя заняткі ператвараюцца ў простае «шкалярства», адрываючы вывучэнне гісторыі партыі ад баявых задач партыі і бягучай яе работы. Вялікім недахопам у прапагандысцкай рабоце гэтых раёнаў з'яўляецца тое, што пры вывучэнні гісторыі партыі не прыцягваецца матар'ял з вопыту барацьбы КП(б)Б і мясцовых партыйных арганізацый з усімі ворагамі партыі—эсэрамі, бундаўцамі, нацдэмамі і рознага роду апартуністычнымі плынямі.

Такія адносіны да пытанняў прапаганды і агітацыі з боку райкомаў партыі ЦК лічыць нецярпімымі і ў мэтах рашучага пералому ў гэтай справе пастанаўляе:

1. Абавязаць бюро жыткавіцкага і капыльскага райкомаў КП(б)Б і асабіста сакратароў тт. Штэйнгардта і Гарбунова, не прыпыняючы заняткаў, уважліва вывучыць склад кожнай школы і гуртка з тым, каб на-хаду выправіць механічны падбор пры камплектаванні школ, вызначыўшы кожнага таварыша ў гурток і школу, выходзячы з яго палітычнай падрыхтоўкі і ўзроўню развіцця.

2. Зацвердзіць і дапусціць да заняткаў прадстаўленых капыльскім РК, правераных камісіяй ЦК аддзелам партпрапаганды і агітацыі прапагандыстаў у колькасці 29 чалавек.

Абавязаць сакратара жыткавіцкага РК т. Гарбунова ў тыднёвы тэрмін закончыць перагляд складу прапагандыстаў і актыва прапагандыстаў і агітатараў, прадставіўшы на зацверджанне бюро ЦК.

3. ЦК КП(б)Б ставіць перад сакратарамі райкомаў, як асноўную, задачу арганізацыі штодзеннай, сістэматычнай дапамогі прапагандыстам у павышэнні іх палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню ведаў, шляхам арганізацыі бесперабойнай работы пропсемінара, пастаноўкі перыядычных дакладаў па гісторыі партыі, ленінізму, бягучых унутраных і міжнародных пытаннях.

У гэтых умовах выключнае значэнне набывае работа партыйнага кабінета, які павінен стаць сапраўдным цэнтрам метадычнай і прак-

тычнай дапамогі прапагандыстам у іх рабоце (кансультацыя, падбор матар'ялаў, арганізацыя выставак, прыцягненне мастацкай літаратуры, мясцовага матар'ялу і т. д.).

Для дапамогі прапагандыстам і сістэматычнага чытання лекцый, дакладаў і дачы кансультацый прымацаваць да Жыткавіцкага раёна тав. Бладыка, а да Капыльскага раёна т. Шокаля.

4. У мэтах сістэматычнага і штодзеннага вырошчвання новых прапагандысцкіх кадраў (апрача курсавых і іншых мерапрыемстваў) прапанаваць сакратарам жыткавіцкага і капыльскага райкампартаў падабраць асобную групу ў 7—10 чалавек з найбольш падрыхтаваных і растучых членаў партыі, арганізаваць з імі спецыяльныя заняткі па гісторыі партыі і бягучай палітыцы, маючы на ўвазе паступовае вылучэнне іх на самастойную прапагандысцкую работу. Кіраўніцтва гэтай групай даручыць асабіста сакратару райкома КП(б)Б.

5. Прапанаваць сакратарам РК забяспечыць сістэматычную асабістую сувязь з прапагандыстамі шляхам заслухоўвання прапагандыста аб яго рабоце на бюро райкома, наведваннем членамі бюро і сакратарамі райкомаў заняткаў у школах і гуртках, а таксама перыядычнага склікання нарад прапагандыстаў для азнаямлення апошніх з партыйнымі дакументамі і рашэннямі партыі і ўрада і для палітычнай інфармацыі па ўсіх пытаннях жыцця партыйнай арганізацыі раёна.

Райкомы КП(б)Б павінны стварыць прапагандыстам усе ўмовы для іх культурнага і палітычнага росту, не загружаць іх другараднымі работамі і ўзняць іх ролю ва ўсім жыцці раённай партыйнай арганізацыі.

6. Для лепшага ахопу партвучобай комуністаў-адзіночак сяла практыкаваць скліканне іх у раённы цэнтр не радзей двух разоў у месяц, праводзячы з імі партвучобу па падручніку і гутаркі па пытаннях бягучай палітыкі.

7. Бюро ЦК зварачае ўвагу сакратароў РК на неабходнасць сістэматычнай арганізацыі дапамогі адстаючым у вучобе і тэхнічна малаграматным членам і кандыдатам партыі шляхам правядзення з імі дадатковых заняткаў як па палітычных, так і па агульна-асветных прадметах, прымацавання да іх найбольш падрыхтаваных таварышоў, забеспячэння іх папулярнай літаратурай, нагляднымі дапаможнікамі і т. д.

8. ЦК КП(б)Б указвае на неабходнасць арганізацыі чытання для асобных груп, членаў і кандыдатаў партыі асобных артыкулаў і брашур Леніна і Сталіна.

9. У мэтах узмацнення ідэйна-выхаваўчай работы сярод стаханаўцаў, ударнікаў і перадавікоў вытворчасці і калгасных палёў, абавязаць раённыя камітэты партыі ўцягнуць усіх стаханаўцаў у сетку парт-і палітвучобы, арганізуючы для іх, па меры неабходнасці, розныя гурткі і школы па ліквідацыі тэхнічнай і палітычнай няграматнасці, аказваць ім штодзенную і сістэматычную дапамогу ў вучобе, забяспечыць літаратурай і іншым вучэбнымі дапаможнікамі.

10. Сакратарам райкомаў КП(б)Б тт. Гарбунову і Штэйнгардту прасачыць за дакладным захаваннем дзён партвучобы з тым, каб у дні партыйнай вучобы слухачы і прапагандысты не адрываліся на іншыя віды работы.

11. Даручыць аддзелу партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б (т. Коніку) праз два месяцы далажыць бюро ЦК КП(б)Б аб выкананні гэтага рашэння.